№10 (973) 4 кастрычніка 2017
www.nn.by
НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА
# Наша Ніва
16+
ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА
Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Сурадзічы». Выходзіць раз на месяц, у першую сераду

## «Гэта дарога вечная»

### Беларускія брукаванкі. Вандроўка 1

Старонкі 12—16.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

## Хлопец з Вілейкі на матчы БАТЭ — «Арсенал» выбег на поле з нацыянальным сцягам

Старонка 8.

## У гарадах нарэшце перастануць без разбору рэзаць дрэвы?

У канфлікты ўмяшаўся асабіста **Аляксандр Лукашэнка**.

«СМІ ўсё часцей гавораць аб скандалах, пачынаючы ад Гомеля і заканчваючы Мінскам, з насельніцтвам з прычыны знішчэння дрэў, — сказаў ён на нарадзе ў Мінску. — Вы саджалі гэтыя дрэвы, каб іх пілаваць? Кожны чалавек імкнецца выйсці, каб настрой у яго быў, на дрэвы гэтыя паглядзець. Не, усё пілуем. Мы, маўляў, новыя пасадзім недзе. Гэта вы ў сябе ў двары спілавалі векавых дрэў і пасадзіце там дрэва з кукіш — і якая будзе ад гэтага карысць?.. Трэба спыніць гэты разбой!» — запатрабаваў Аляксандр Лукашэнка.

«Бачыце, дрэва ўпадзе на дарогу, — іранізаваў кіраўнік дзяржавы. — Ну ўпадзе, прыбяром». Інакш, сказаў Лукашэнка, трэба было б «выпілаваць усе паркі ў гарадах».

Сапраўды, самыя прыгожыя, з характарам, старыя, векавыя дрэвы на вуліцах, у дварах, на могілках ці ўздоўж мясцовых дарог часта выразаюць проста на дровы ці каб «асвоіць сродкі», а апраўдваюць тое клопатам пра людзей.

Напрыклад, «Наша Ніва» пісала пра такія абуральныя сітуацыі ў Астраўцы і Мінску.

«Я прашу тое, што цяпер пазначыў, мець як вельмі жорсткае ўказанне да вашай працы. Паўтарэння больш не будзе. На людзей трэба трошкі звяртаць увагу. А то хутка адзервянеем, як у асобных нашых суседзяў. Улада сама сабой, а людзі самі сабою», — падсумаваў Аляксандр Лукашэнка.

**Сяргей Гезгала**

### Ад Рэдактара: пра Каталонію

1 кастрычніка Каталонія правяла рэферэндум аб незалежнасці. Рэдкая сітуацыя: народ спрабуе аддзяліцца ў дэмакратычнай дзяржаве Еўрасаюза.

Часам кажуць: будучыня — за інтэграцыяй, нашто гэтыя асобныя мовы, асобныя краіны. А вось маем: заможная Еўропа, усе правы маюць, свабода, а народ хоча мець сваю асобную дзяржаву. Прычым з гадамі гэтае імкненне толькі нарастае.

Каталонцам спагадаюць усе тыя народы, якія самі яшчэ не здабылі незалежнасці або якім яшчэ памятная барацьба за яе — складанае змаганне, выніку якога немагчыма прадказаць.

Чаму для беларусаў вырашэнне каталонскага пытання таксама важнае? Бо і нашаму народу выгадна, каб Еўропа была Еўропай нацый, а не Еўропай імперый.

Каталонія — адзін з самых эканамічна развітых рэгіёнаў Іспаніі.

Вялікабрытанія і Канада ў свой час дазвалялі Шатландыі і Квебеку правесці плебісцыты пра выхад — і незалежнікі прайгравалі.

Швецыя ў свой час дазволіла Нарвегіі аддзяліцца бяскроўна.

Чэхія і Славаччына мірна разышліся пры Вацлаве Гаўле.

А вось распад Югаславіі быў крывавым.

У Каталоніі Мадрыд спрабаваў ажыццявіць мякка-сілавы варыянт. Каб і без крыві, і сарваць-такі рэферэндум.

У Барселону сцягнулі спецназ з іншых рэгіёнаў Іспаніі. Былі заблакаваныя 140 сайтаў з інфармацыяй пра рэферэндум. Паліцыя заняла тэлекамунікацыйны цэнтр у Барселоне. А ў дзень галасавання было паляванне на скрыні і бюлетэні. Спецназ урываўся на выбарчыя ўчасткі. Але вынік гэтага быў хутчэй, неспрыяльны для іспанскага ўрада: кадры, калі паліцыя топча людзей, каб канфіскаваць бюлетэні, абурылі свет. Каталонскі футбаліст, з «Барселоны», Жэрар Піке нават расплакаўся перад камерамі пасля галасавання.

Каталонцы выбралі тактыку негвалтоўнага супраціву. Яны падымалі рукі ў знак мірнага пратэсту. Вынікам нядзелі былі двое параненых і восем сотні пацярпелых, падрапаных, з сінякамі людзей. Магчыма, гэта апошняя цана, якую каталонцам давялося заплаціць за незалежнасць, і хутка на карце Еўропы з'явіцца новая дзяржава.

# Новым міністрам інфармацыі стаў беларускамоўны пісьменнік

**53-гадовы Алесь Карлюкевіч раней працаваў у «Советской Белоруссіі» і «Звяздзе».**




Аляксандр Лукашэнка зняў Лілію Ананіч з пасады міністра інфармацыі. «Наша Ніва» сабрала цікавыя факты пра новага кіраўніка ведамства.

Алесь Карлюкевіч нарадзіўся ў 1964 годзе ў вёсцы Зацітава Слабада Пухавіцкага раёна. На той момант у вёсцы жыло каля 500 чалавек. Бацька — Мікола Карлюкевіч — працаваў рабочым. Мама (дзявочае прозвішча Ладуцька) была настаўніцай малодшых класаў.

У адным з інтэрв'ю Алесь казаў, што чытаць яго навучыў бацька.

У пачатковую школу Карлюкевіч хадзіў у роднай вёсцы, а вось у сярэднюю ўжо ў Пухавічах, хадзіў пешшу. «Канькі, самаробныя клюшкі, «каза» з металічнага дроту, санкі, лыжы, валейбол, футбол — усё гэта вабіла і прыцягвала. Побач — лясы. Грыбныя паходы заварожвалі...», — так ён апісвае свае дзіцячыя забавы.

Пасля школы Карлюкевіч паехаў вучыцца ў Львоў, на факультэт журналісцкі вайскова-палітычнага вучылішча. Потым на доўгі час звязаў свой лёс менавіта з войскам.

«Часам гадамі жыў у атмасферы, калі з беларусаў побач былі толькі жонка Святлана і дачка Вераніка. І, можа быць, яшчэ на гадзіну-другую ў месяц два-тры выпадковыя стрэчныя з Беларусі. Але і ва Украіне, Туркменістане, іншых куточках свету я пісаў па-беларуску і думаў па-беларуску», — казаў Карлюкевіч.

Са службай развітаўся толькі ў 1995 годзе, падпалкоўнікам, калі перайшоў на працу ў «Звязду».

Ад 2002 да 2006 года Алесь Карлюкевіч працаваў журналістам у газеце «Советская Белоруссия».

У 2006-м ён узначаліў холдынг «Літаратура і мастацтва». Адбылося гэта ўжо пасля таго, як з выданняў «пасыходзілі» многіх пісьменнікаў, пазіцыя якіх не супадала з дзяржаўнай. Калі адбыўся раскол у Саюзе пісьменнікаў, то Карлюкевіч падтрымаў чаргінцоўскі.

Творчасць Алеся Карлюкевіча заўсёды была беларускамоўнай. Першая кніга была выдадзеная ў 1994 і называлася «Вяртанне... да Беларусі». Шмат пісаў краязнаўчага пра Пухавіцкі раён. Апошнім часам Карлюкевіч піша і мастацкую літаратуру.

Жонка новага міністра інфармацыі працавала начальнікам аддзела кадраў Мінскага завода аўтаматычных ліній. Яна рана памерла ад раку. А ў самога Карлюкевіча пасля таго схапіла сэрца.

Адзіная дачка Алеся Мікалаевіча Вераніка скончыла БДУ ў 2009 годзе. Ёй 31 год, яна спецыялізуецца на кітайскай мове. Выкладала ў БДУ, працавала спецыялістам па сувязях з грамадскасцю ў гасцініцы «Пекін». Цяпер Вераніка Карлюкевіч жыве ў Маскве, дзе працуе піяр-дырэктарам у кітайскай кампаніі «Карпарацыя ZTE — Сувязьтэхналогіі».

Падчас рэдактарства ў «Звяздзе» Карлюкевіча нярэдка запрашалі госцем у перадачу «Клуб рэдактараў» на тэлеканале «Беларусь-1». Да абразаў апанентаў ці іншых гадстваў Карлюкевіч ніколі не скатваўся. Ён, наадварот, спрабаваў пазбягаць вострых вуглоў.

У 2014 Карлюкевіч атрымаў прэмію «Зоркі Садружнасці» за дасягненні ў галіне навукі, адукацыі, гуманітарнай дзейнасці. Карлюкевіч разам з Алесем Бадаком дасталі прэмію за серыю кніг на рускай мове «Сугучча сэрцаў». У выніку Бадак і Карлюкевіч падзялілі між сабой 56 тысяч даляраў.

Ад снежня мінулага года Алесь Карлюкевіч быў намеснікам міністра інфармацыі, цяпер ён узначаліць гэтае ведамства.

**Зміцер Панкавец**

## «Лукашэнка не хоча паўмераў»: віцэ-прэм'ер Мацюшэўскі абяцае рэвалюцыйныя змены ў эканоміцы

Віцэ-прэм'ер Васіль Мацюшэўскі, адказваючы на пытанні журналістаў у кулуарах Беларускага інвестфоруму, што праходзіў у Мінску, распавёў пра дэкрэт аб спрашчэнні вядзення бізнэсу, які, з яго слоў, павінен выйсці «найбліжэйшым часам».

«Той пакет, пра які мы кажам, ён рэвалюцыйны. Там дзесяць дакументаў, якія мусяць цалкам змяніць увесь бізнэс-асяродак. Мы таксама запрасім экспертаў, бізнэсоўцаў, прэсу, каб глыбока пагрузіцца і абмеркаваць яго пакрокава».

«Якой рэакцыі чакаем? Дзве задачы: самазанятасць насельніцтва і спрашчэнне ўваходу ў бізнэс, а таксама лічбаванне ўсёй эканомікі. І прэзідэнт хацеў бы сустрэцца ў больш шырокім фармаце. Пасыл яго такі: прэзідэнт не хоча паўмераў у эканоміцы», — дадаў Мацюшэўскі.

**Арцём Гарбацэвіч**




СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

### У Мінску шукаюць жанчыну, якая ў царкве скрала кашалёк

Як паведамляе сайт Першамайскага РУУС Мінска, у міліцыю звярнулася жанчына, у якой 1 кастрычніка выкралі кашалёк, а ў ім — 250 рублёў. Крадзеж адбыўся падчас службы ў царкве на вуліцы Усіхсвяцкай.

Падчас прагляду запісаў з камер відэаназірання — аказваецца, і ў царкве вядзецца відэаназіранне, — удалося вызначыць, што заяўніца паклала сваю сумку на паліцу, накрыўшы яе сваёй курткай. На лаўцы побач сядзела старая жанчына. Яна выцягнула кашалёк з сумкі і пайшла.

Міліцыя просіць магчымых сведкаў або саму падазраваную звярнуцца ў органы ўнутраных спраў.



### Самае чытанае на nn.by за верасень

1 Беларускі кухар прыдумаў «Плешчаніцкія пяздушкі» ФОТЫ

2 «Прысутныя тут мужчыны возьмуць удзел у вайне за Святую Русь». «Падпалкоўнік ГРУ» выступіў у мінскім праваслаўным манастыры

3 Падчас закрыцця мотасезона байкеру адарвала нагу ВІДЭА

4 У Лагойскай раённай бальніцы ўсе дактары адмовіліся рабіць аборты

5 «Не задавальняе краіна — едзь на ўсе чатыры бакі»: правілы жыцця нявесткі міністра прыроды

6 Абставіны аднаго выкрадання, якое ў 1994 годзе перакуліла ход палітычнай гісторыі Беларусі

7 Стала вядома, хто і якімі сумамі фінансуе кнігі пра «Мураўёва-рэфарматара» і «Белую гвардыю Белай Русі»

8 «Беларуская мова — гэта дзікая сумесь рускай, украінскай і польскай». Случак напісаў яшчэ адну заяву за абразу мовы

9 Падлетак з Воранава прызнаўся, што забіў маці самаробным мячом. Бо яна не дазволіла яму жыць з дзяўчынай?

10 Імя дзяўчыны, знойдзенай каля «Дружнай», высветлена

# За што бацькі школьнікаў плацяць, а маглі б не плаціць

Піша эксперт па развіцці бізнэсу і маці гімназіста-выдатніка Крысціна Вітушка.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Як вы думаеце, што атрымліваюць бацькі будучага вучня пасля першага візіту да дырэктара? Інфармацыю пра методыкі выкладання? Адрас сайта школы? Статут школы з Кодэксам аб адукацыі?

Не! Бацькі выходзяць з кабінета з нумарам разліковага рахунку, на які прапануецца «добраахвотна» пералічыць першую суму. Першую з шэрагу.

### Скідваемся на стэнды, рамонты, ваду

Беларусы для дзяцей гатовыя на ўсё. Мы купляем у школы пясок у пясочніцы, майструем стэнды, друкуем планы, мяняем лямпачкі, вокны, люстэркі, набываем сурвэткі, пітную ваду і парты, робім рамонты.

А потым цэнтральныя каналы ТБ паведамляюць, што падрыхтоўка ўстаноў адукацыі да навучальнага года прайшла за бюджэтныя грошы. Што набылі за іх? Самае неабходнае: напрыклад, партрэты прэзідэнта. Напярэдадні 1 верасня высокая камісія ацэньвае, як дырэктар з мух кулічыкі зляпіў — пры адсутнасці фінансавання навёў марафет і зрабіў ландшафтны дызайн тэрыторыі.

Матэрыяльнае забеспячэнне школы — гэта клопат бацькоў, шэфаў і спонсараў, якіх адміністрацыя школы павінна знайсці і матываваць. Калі матывацыя не спрацоўвае — настаўнікі самі фарбуюць падлогу, а ў прыбіральнях няма мыла і паперы.

Дапусцім, мы аскеты і патрабуем ад школы толькі перадачы ведаў. Тады нас чакаюць некалькі сюрпрызаў.

І працэдура адмовы ад гэтага тавару (паслугі?) не прадугледжаная. Нават калі вы іх набылі, спампавалі ў электронным выглядзе, раздрукавалі самастойна або проста не хочаце браць — не важна.

Аплаціўшы поўны камплект, вы можаце яго не атрымаць. Некаторых падручнікаў па-беларуску так і не распрацавалі. Кніг часам не хапае на ўвесь клас, яны могуць дастацца ў непрыдатным для выкарыстання выглядзе (парваныя, размаляваныя). А сёлета ўвогуле новыя абяцалі, ды не паспелі. Методыкі пераразліку на гэтыя выпадкі не існуе.

Падручнікі такія, што вучыць і вучыцца па іх цяжка. Таму настаўнікі падбіраюць дадатковыя матэрыялы: працоўныя сшыткі, атласы, контурныя карты.

Па-беларуску многіх з іх не выдаюць. І бацькі дзяцей з беларускіх школ перакладаюць, макетуюць і замаўляюць друк самастойна па камерцыйным кошце. На расейскай мове іх можна набыць у краме, але настаўнікі часта просяць не проста па-расейску, але і выдадзеныя ў Расеі купляць.

### Мы плацім за факультатывы

На ўроках нудна як таленавітым, так і не надта здольным дзецям. Адным паглыбляць, другім даганяць веды па ўсіх прадметах прапануецца платна.

Для прыкладу: ангельская мова ў 1 класе. Падручнік разлічаны на два ўрокі на тыдзень, але расклад прадугледжвае толькі адзін (нібыта санітарныя нормы такія). А вось платна — колькі хочаш, на платныя заняткі санітарныя рамкі ўжо не ўплываюць. І таму, каб дзеці за год прайшлі ўвесь падручнік, а не палову, бацькі плацяць. А школам загадваюць нарошчваць аб'ёмы аказання платных паслуг.

### Мы плацім за алімпіяды

Конкурсы і спаборніцтвы з платным удзелам, здавалася б, справа добраахвотная. Але ад іх вынікаў залежаць рэйтынгі школ і гімназій, таму настаўнікам трэба забяспечваць прысутнасць вучняў.

### Плацім за «Юный спасатель», хакей…

Мы плацім за піянерыю.

Мы плацім за «дзелавы стыль».

Беллегпрам штогод пастаўляе ў крамы мноства маркотнага адзення ў стылі клеркаў, афіцыянтаў, вышыбалаў ці домработніц. Яно называецца дзелавым стылем...

### І яшчэ за «Юный спасатель», тэатр, хакей…

Рэгулярна дзецям паведамляюць, што замест урокаў усе ідуць у кіно, у масоўку нейкага афіцыёзу, на хакей ці, у лепшым выпадку, на выставу або ў тэатр. Бацькоў спрабуюць абавязаць браць квіткі ў ТЮГ, бо тэатр дамовіўся з аддзеламі адукацыі пра запаўненне залы.

Мініфармацыі дамовілася пра штучнае павелічэнне накладаў незапатрабаваных выданняў. Агентамі па падпісцы выступаюць настаўнікі, а тыя, хто ім загадаў, сядзяць у кустах.

### А колькі можна цярпець такое харчаванне?

Вы ведаеце, хто пастаўляе прадукты ў школьную сталоўку? Якія гэта прадукты? Як замяніць аплачаную халодную ежу на ядомую? Якую адказнасць і хто панясе, калі дзіця, крый божа, атруціцца?

Адмовіцца плаціць за харчаванне можна толькі пісьмова і з рызыкай трапіць у спіс «праблемных». Заплацілі вы ці не — калі дзіця не жадае, яно есці не будзе. Дык пра што насамрэч клопат: пра здароўе дзяцей ці пра рэгулярныя плацяжы?

### Мы плацім за спосаб аплаты!

У межах праекту «Электронная школа» ў многіх навучальных установах з'явіліся турнікеты і карткі вучняў. Яны ж — плацежныя карткі «Беларусбанка». Самастойную карту могуць мець толькі дзеці з 14 гадоў, таму гэтыя карткі выпускаюцца як дадатковыя да бацькоўскіх.

І нікога не хвалюе, што вы абслугоўваецеся ў іншым банку: вы абавязаныя адкрыць рахунак і атрымаць картку ў канкрэтнай філіі «Беларусбанка». Усё б нічога, але некаторыя школы патрабуюць, каб перадаплата харчавання ішла толькі праз гэтыя банкаўскія карткі.

Чаму гэта выгадна банку — зразумела. Але пры чым тут адукацыя?

Заканадаўства нібы забараняе навязваць тавары і паслугі. Але сістэма адукацыі жыве на «полі цудаў», якое не жадае перасякацца з прававым полем. Ад настаўнікаў патрабуюць прадаваць то флікеры, то вопратку, то сняданкі, то газеты, то квіткі, то банкаўскія карткі... І практычна ніколі не даюць выбару і не заключаюць ніякай дамовы — проста выстаўляюць рахунак і называюць крайні тэрмін аплаты. Без абгрунтавання і абмеркавання. У настаўнікаў пытаць бессэнсоўна — яны не ведаюць. Вы плаціце грошы, але не маеце на руках ніякага дакумента, дзе пералічаныя вашы правы і абавязкі ці хаця б кантакты таго, хто аказвае вам паслугі ці прадае тавар, ніякіх гарантыяў.

А дзе грошы ад здачы макулатуры?

Штогод школам даводзяць нейкія разнарадкі па здачы макулатуры — па 15, па 20 кг з кожнага дзіцяці. І паперай не абмяжоўваюцца — установы адукацыі сіламі настаўнікаў і вучняў «добраахвотна» збіраюць палімеры, метал, шкло, батарэйкі і г.д.

Думаеце, гэта пра экалогію? Не, ізноў пра эканоміку! Колькі каштуюць плошчы пад складаванне сыравіны ў час нарыхтоўкі (і наколькі гэта бяспечна — трымаць у будынку школы тоны старой паперы)? На які рахунак перапрацоўчыя заводы пералічваюць грошы за атрыманую сыравіну і хто імі карыстаецца?

Ці не лагічна было б выключыць школу як пасярэдніка паміж «Качелямі», «Юным спасателем» і «Белрэсурсамі» — і скіроўваць наклады адразу на перапрацоўку?

Чым стала наша школа?

Сетка ўстаноў адукацыі ператварылася ў сетку рэалізацыі неліквіду, у выбарчыя ўчасткі з шашлыком і гарэлкай, а ў міжсезон — у прыёмнікі другаснай сыравіны.

Канцэрны праз школы збываюць залежалы тавар і загружаюць вытворчыя магутнасці. Настаўнікі збіраюць замовы, кантралююць аплату, здымаюць меркі, прымаюць рэкламацыі. Вытворцы не пытаюць у школаў, што ім трэба: якія канцтавары, тканіну, мэблю, будматэрыялы, аксесуары выпусціць — яны патрабуюць, каб мы выкуплялі названую наменклатуру.

Прыйшоў час адкрыта прызнаць і замацаваць у законах: адукацыя платная. І як спажыўцы платных паслуг мы маем права выбіраць іх, патрабаваць якасці і абараняць свае правы ў выпадку нядобрасумленнага вядзення бізнэсу.

**Паводле: Svaboda.org**

# «Сказалі, што, калі буду маўчаць, пасадзяць»: Ігар Комлік пра сваю справу

Бухгалтар прафсаюза РЭП Ігар Комлік, які знаходзіўся ў ізалятары на Валадарскага па крымінальнай справе аб няўплаце падаткаў, вызвалены пад падпіску аб нявыездзе.

Нагадаем, 2 жніўня супрацоўнікі Дэпартамента фінансавых расследаванняў Камітэта дзяржаўнага кантролю Беларусі правялі ператрус і канфіскацыю камп'ютараў і фінансавых дакументаў у офісе прафсаюза РЭП і цэнтральнага офіса БНП. Былі затрыманыя старшыня РЭП Генадзь Фядыніч і бухгалтар Ігар Комлік. Фядыніч быў дапытаны і адпушчаны, а Комлік застаўся пад вартай.

Ігар сказаў пару слоў «Нашай Ніве» пасля свайго вызвалення.



«Ставіліся там да мяне нармальна, не катавалі, — пасмяяўся бухгалтар РЭП. — Я адразу адмовіўся ад дачы паказанняў. У мяне некалькі разоў пыталіся, ці я разгаваруся. Пагражалі, што, калі буду маўчаць, пасадзяць. Але закон прадугледжвае магчымасць адмовы ад дачы паказанняў. Зрэшты, і са следчым мы бачыліся не так часта, я проста сядзеў. Успрымаю гэта як форму ціску на мяне. Вось выпусцілі, але справу не закрылі — я пад падпіскай пакуль, у чацвер на сустрэчу са следчым».

Комлік жартуе, што, па аналогіі з вядомым лозунгам «На свабоду — з чыстым сумленнем», ён прыйшоў «на нары з чыстым сумленнем».

«Справа відавочна скіраваная на тое, каб пазбавіцца ад незалежнага прафсаюза. Калі мяне затрымалі і сталі задаваць пытанні, то для мяне гэта адразу стала ясна. А як затрымалі? Выходзіў з дома на работу, ішоў да машыны — думаў ехаць на дачу, разам са мной да машыны падышлі следчыя, запатрабавалі прайсці для вобшуку, правялі, ну і ўсё...» — сказаў Ігар.

«Далейшыя планы — працаваць. У нас адна задача: мы працавалі, каб людзі нармальна жылі і рабілі. І будзем працаваць над гэтым далей. Я аднаўляў сілы, бо рабіць нічога не трэба было. Цяпер з новай энергіяй, як кажуць. Цешыла, што прыходзіла шмат лістоў падтрымкі, адказваў. А так... спалі, елі, гаманілі. Там у большасці прадпрымальнікі сядзелі: за махлярства, падаткі».

**Арцём Гарбацэвіч**

# Як новы намеснік Макея беларусізуе Палату прадстаўнікоў

Пасля выступу **Андрэя Дапкюнаса** і дэпутаты перайшлі на беларускую мову.

Два законапраекты аб міждзяржаўных дамовах з Суданам і Грузіяй на пленарным пасяджэнні Палаты прадстаўнікоў дэпутатам прадстаўляў новы намеснік міністра замежных спраў Беларусі Андрэй Дапкюнас. І хоць дакументы для дэпутатаў былі падрыхтаваныя на расійскай мове, спадар Дапкюнас абодва разы прамаўляў па-беларуску.

Нават калі дэпутат з Мінска Максім Місько задаў пытанне дыпламату па-руску, Андрэй Дапкюнас адказаў яму па-беларуску.

А вось іншы дэпутат, Віталь Уласевіч з Бабруйска, сваё пытанне ўжо фармуляваў па-беларуску. З яго ўзялі прыклад Вольга Палітыка і Валер Барадзеня.

«Для мяне выступленне на беларускай мове — прынцыповая пазіцыя, — сказаў «Свабодзе» Андрэй Дапкюнас. — Я шаную родную мову, вельмі яе люблю і імкнуся ўсюды гаварыць толькі на ёй. Гэта патрабаванне маёй душы».

У жніўні Лукашэнка прызначыў 54-гадовага Дапкюнаса намеснікам міністра замежных спраў. Дагэтуль дыпламат узначальваў пастаяннае прадстаўніцтва Беларусі пры ААН. Маці намесніка міністра Жанна Дапкюнас — былая дырэктарка музея Янкі Купалы і стрыечная пляменніца беларускага песняра.

**Радыё Свабода**



Belarus Foreign Ministry (Official website)

# Упершыню ў Беларусі асуджаны баявік «ДНР»

29-гадовы грамадзянін Беларусі асуджаны па ч.1 артыкула 361-3 КК «Удзел ва ўзброеным фарміраванні аднаго з супрацьлеглых бакоў на тэрыторыі замежнай дзяржавы, а роўна ўдзеле ва ўзброеным канфлікце, ваенных дзеяннях без ўпаўнаважання дзяржавы і пры адсутнасці прыкмет наёмніцтва». Даказаць наёмніцтва — артыкул 133КК — суду не ўдалося.

Суд праходзіў у Віцебску за зачыненымі дзвярыма. Чаму так? Бо на судзе гучала інфармацыя, распаўсюд якой абмежаваны.

На лаве падсудных апынуўся жыхар Паставаў Аляксей Яршоў, які браў удзел ва ўзброеным канфлікце на ўсходзе Украіны на баку «ДНР». У выніку Яршоў асуджаны на 2 гады абмежавання волі без накіравання ў выпраўленчыя ўстановы, так званай хатняй хіміі.

Аляксей Яршоў не саромеўся выкладаць здымкі з баявых дзеянняў у сацыяльных сетках. У выніку маецца шмат фота, дзе Яршоў пазіруе з агнястрэльнай зброяй, танкамі, на фоне ўезда ў Данецк. У Беларусі ў Аляксея была жонка і дзіця.

Раней беларусаў, якія ваююць на тэрыторыі замежных дзяржаваў, маглі асудзіць толькі па артыкуле «Наёмніцтва», аднак потым з ініцыятывы КДБ былі ўнесеныя змены ў Крымінальны кодэкс, у выніку чаго за кратамі могуць апынуцца і тыя, хто ваюе не за грошы, а з ідэйных перакананняў.

Раней не былі вядомыя выпадкі, каб у Беларусі судзілі менавіта за ўдзел у баявых дзеяннях. Былі выпадкі, калі людзей, што ваявалі на баку Украіны, каралі, але зусім па іншых артыкулах. Тарас Аватараў за незаконны абарот і кантрабанду выбуховага прыстасавання быў асуджаны на 5 гадоў, а Станіслаў Ганчароў за злоснае хуліганства — да 7 гадоў калоніі.

Інфармацыі пра прысуды баевікам «ДНР» і «ЛНР» раней у адкрытым доступе не было.

**Зміцер Панкавец**



# На АНТ закрылі ток-шоу Вадзіма Гігіна «Справа прынцыпу»

Ад новага тэлевізійнага сезона на канале АНТ перастала выходзіць штотыднёвае шоу Вадзіма Гігіна «Справа прынцыпу». Перадача цягам апошніх гадоў выходзіла ў эфір па панядзелках а 21 гадзіне пасля вечаровага выпуску «Нашых навін».

«Справа прынцыпу» прыцягвала да сябе ўвагу тым, што Вадзім Гігін запрашаў на праграму людзей розных палітычных поглядаў. Нярэдка гасцямі там былі апазіцыйныя палітыкі, незалежныя палітолагі і эканамісты, журналісты недзяржаўных СМІ. Аднак абавязкова ў перадачах удзельнічалі прарасійскія актывісты, такія як казацкі «атаман» Пятро Шапко, публіцысты Аляксей Дзерман, Пятро Пятроўскі, заходнерусісты Зелянкоўскі і Бендзін. Гэта выклікала абурэнне шмат у каго.



Паводле неафіцыйнай інфармацыі, Вадзіму Гігіну кіраўніцтвам АНТ было прапанавана не артыкуляваць настолькі выразна прарасійскую пазіцыю падчас перадач. У выпадку ж нязгоды знайсці больш адпаведную ягоным поглядам пляцоўку.

«Усе пытанні адносна АНТ накіроўвайце ў прэс-службу АНТ», — адказаў «НН» Вадзім Гігін. Болей размаўляць ён не захацеў.

Вадзім Гігін адначасова з'яўляецца дэканам філасофскага факультэта БДУ. Раней ён быў рэдактарам часопіса «Беларуская думка».

Цяпер на АНТ па панядзелках выходзіць новае шоу — «Наша жыццё». Яго вядучым стаў Дзмітрый Бачкоў, які да нядаўняга часу вёў аналагічнае шоу «Форум» на тэлеканале «Беларусь-1». Не так даўно Бачкоў абвесціў аб сваім рашэнні сысці з БТ. Замену на «Беларусь-1» Бачкову пакуль не знайшлі.

Першы запіс новай перадачы прайшоў 8 верасня. Выпуск быў прысвечаны тэме тэрарызму і вытрыманы ў афіцыёзнай стылістыцы.

Адрозненні ад «Справы прынцыпу» ў тым, што перадача Гігіна запісвалася каля 1 гадзіны 5 хвілін, таму з яе амаль нічога не выразалася, толькі тэхнічныя агрэхі. Што тычыцца «Нашага жыцця», то яе запіс ішоў каля 2,5 гадзіны, у эфір жа пойдуць стандартныя 45—50 хвілін.

Гігін жа знайшоўся на тэлебачанні «саюзнай дзяржавы». Першае шоу з назвай «Ёсць пытанне» выйшла ў эфір на тэлеканале «Саюз» (ад 25 верасня ён называецца «БелРасТБ»). У Беларусі перадачы запісваюцца на базе тэлеканала «Мір». Гэты тэлеканал мае мінімальную аўдыторыю.

**Зміцер Панкавец**

# Барышнікава супраць Анісім. Мінгандлю хоча знішчыць беларускую мову ў бізнэсе?

12 верасня прайшло пасяджэнне працоўнай групы, якая рыхтуе папраўкі ў закон «Аб правах спажыўцоў» да другога чытання. Падчас яго ўзнікла палеміка наконт унясення зменаў у фармулёўку пра выкарыстанне дзяржаўных моў на ўпакоўках. Пакуль канчатковае рашэнне не прынятае, але Міністэрства антыманапольнага рэгулявання і гандлю (МАРГ) настойвае на варыянце, які чыніць перашкоды ў выкарыстанні беларускай мовы ў бізнэсе.

Пазіцыю МАРГа выразна акрэсліла начальнік упраўлення абароны правоў спажыўцоў і кантролю за рэкламай Ірына Барышнікава. Яна і раней актыўна прасоўвала ідэю пакінуць фармулёўку «на беларускай або рускай мовах».

«Маўляў, гэта абавязвае Мытны кодэкс, гэта замінае выходзіць на расійскі рынак, на рынак ЕАЭС... — каментуе Алена Анісім. — Я тлумачу, што калі мы дадаём «і», то гэта нічому не супярэчыць. Прапісана, што павінна выкарыстоўвацца руская мова і іншая дзяржаўная мова краіны, калі гэта не супярэчыць дзяржаўнаму заканадаўству. Такім чынам, ніякіх аргументаў у іх няма. Пры гэтым яны ўчора заявілі, што ў гэтым пытанні трэба раіцца з юрыстамі. Я кажу: «Прабачце, а вы што, не юрысты? Юрысты. У нас дзейнічае закон «Аб мовах» з фармулёўкай «і (або)» ужо больш за 20 гадоў. Якія яшчэ дадатковыя кансультацыі?» Я прама сказала, што гэта не прававая пазіцыя, а суб'ектыўная. Прычым яна абмяжоўвае правы вытворцаў на выкарыстанне дзяржаўных моў».

Спадарыня Алена дадае, што фармулёўка, за захаванне якой яна цяпер выступае, не ідэальная, паколькі выкарыстанне беларускай мовы мусіць быць абавязковым.



«Вось у гэтым наша задача, бо цяпер мы бачым прамое ігнараванне беларускімі вытворцамі беларускай мовы нават на тэрыторыі Беларусі. Мы хочам змяніць гэтую сітуацыю, таму ідзём на кампраміс. Няхай будзе «і (або)», але ва ўсякім разе гэта паспрыяе таму, што многія вытворцы, многія бізнэсоўцы будуць мець права законна карыстацца абедзвюма дзяржаўнымі мовамі. Наша задача не супрацьпастаўляць, а знаходзіць больш прымальныя формы выкарыстання беларускай мовы і ўводзіць гэта ў заканадаўства. Давайце карыстацца абедзвюма мовамі, а не абмяжоўваць правa беларускай, — даводзіць Алена Анісім. — Як правіла, бізнэсоўцы ў спадзяванні выйсці на рынак Расіі ці на рынак ЕАЭС абіраюць рускую мову, бо яны мяркуюць, што гэта ім дапаможа. А пра тое, што яны ігнаруюць правы спажыўцоў унутры Беларусі, мала хто думае».

Дэпутат тлумачыць, што цяпер яе задача — прыцягнуць увагу да гэтага пытання і зрабіць усё, што магчыма, каб забяспечыць правы беларускамоўных спажыўцоў.

«Фармулёўка «на беларускай АБО рускай мовах» абавязвае вытворцаў выкарыстоўваць толькі адну мову. Менавіта абавязвае, а не дае права. Зважаючы на тое, што рускамоўная прастора сёння больш пашыраная, ёсць вялікая імавернасць таго, што вытворцы проста будуць вымушаныя абраць рускую мову. У такім выглядзе фармулёўка яшчэ больш пагражае знішчыць беларускамоўную прастору ў сферы бізнэсу і тым самым дыскрымінаваць беларускамоўных спажыўцоў», — падсумавала Алена Анісім.

Яна зазначыла, што многія дэпутаты падтрымліваюць яе пазіцыю ў дачыненні да дзяржаўнай беларускай мовы як у гэтым абмеркаванні, так і ў цэлым.

**Настасся Роўда**




## Дзмітрый Рабаў знайшоў новую працу

Начальнік службы метэаралагічных прагнозаў Белгідрамета Дзмітрый Рабаў знайшоў новае месца працы.

Ён уладкаваўся на тэлеканал АНТ, будзе весці прагноз надвор'я.

29 верасня Рабаў з'явіўся ў эфіры «Нашай раніцы» і быў прадстаўлены як дзяжурны сіноптык тэлеканала АНТ і вядучы пастаяннай рубрыкі «Да гадалкі не хадзі».

**БЮ**

# Партыя БНФ гатовая вылучыць у прэзідэнты жыхара ЗША

З'езд Партыі БНФ абраў новага старшыню — Рыгора Кастусевіча. Акрамя таго, сход разгледзеў пытанне кандыдата ў прэзідэнты ад арганізацыі на выбарах-2020.

Удзельнікі прынялі рашэнне, што на дадзеным этапе ад партыі будзе вылучаны не адзін, а некалькі кандыдатаў, якія ў будучыні вырашаць, хто з іх найбольш годны.

Рыгор Кастусёў, Вольга Дамаскіна, Алесь Стральцоў, Васіль Астроўскі ўзялі самаадвод. У выніку засталося толькі два прэтэндэнты: былы старшыня партыі Аляксей Янукевіч і юрыст з ЗША Юрась Зянковіч.

Менавіта за іх галасавалі ўдзельнікі з'езда. За Янукевіча прагаласавалі 110 дэлегатаў (ён абраны кандыдатам №1), за Зянковіча — 76 (кандыдат №2).

Аляксею Янукевічу 41 год, ён жыве ў Мінску. Юрасю Зянковічу праз месяц будзе 40, ён пераважна цяпер жыве ў ЗША (паміж Нью-Ёркам і Каларада). У асяродку беларускай дыяспары ён мае, мякка кажучы, неадназначную рэпутацыю.

**ЗП**



Юрась Зянковіч.

# Гэта трэба чытаць: жанчына раскапала дакументы пра дэпартацыю ў Расію сям'і свайго дзеда з-пад Слуцка

Лёс сваёй сям'і, сасланай са Случчыны на Урал, апісвае **Святлана Міхалоўская**. Яе расповед апублікаваны на сайце Беларускага дакументацыйнага цэнтра.



Міхалоўскія ў 1929 годзе…

Дзядуля, акрамя сялянскай працы, мог добра сталярыць і хораша вырабляў мэблю. Пэўна, сядзіць ён на крайчыку крэсла, каб добра было відаць прыгожую рэч, створаную ўласнымі рукамі. На двары 1947 год — прайшло 17 самых цяжкіх гадоў яго жыцця, наперадзе — самотнае, але ўсё роўна радаснае вяртанне на радзіму.

На жаль, вяртацца пашчасціла толькі яму аднаму: не стрываўшы нягод высылкі, назаўсёды засталася ляжаць у камяністай уральскай зямлі каля чыгуначнай станцыі са смешнай назвай Палавінка жонка Алена.

Дзеці ж, скончыўшы сярэднюю школу, разляцеліся ў розныя бакі, каб вучыцца далей. Дзеду Васілю засталіся толькі ўспаміны і пытанні, якія амаль кожную ноч не давалі спаць: чаму менавіта яго сям'ю з роднага засценка Смольгава, выкінуўшы з хаты і адабраўшы ўсю маёмасць, улада закінула аж но на Урал? Ці ёсць у гэтым яго асабістая віна?

На жаль, ён не дачакаў моманту, калі дзяржава (праз 62 гады!), 16 сакавіка 1992 года, пацвердзіла, што ў 1930 годзе зрабіла дзеда Васіля (у той час яму было 34 гады), яго жонку Алену (32 гады), а таксама іхніх дзяцей: Уладзімера (9 гадоў), Зінаіду (6 гадоў) і Алімпіяду (2 года) — без віны вінаватымі, пакаранымі ў адсутнасці злачынства.

З самага дзяцінства я таксама адчувала сябе рэпрэсаванай, бо ў мяне адабралі магчымасць вандровак на вакацыях у «сваю» вёску, якую мела большасць маіх сяброў, адабралі асалоду адчуваць на сваёй галаве пяшчотны дотык бабуліных рук, слухаць цікавыя аповеды дзеда і бабулі пра мінулае на мове, якая павінна была стаць для мяне роднай.

Бабулю я наогул ніколі не бачыла — яна не дажыла да майго з'яўлення на свет.

Увесь час мне хацелася даведацца: за што былі высланыя мае продкі? Слухала рэдкія згадкі пра тое свайго бацькі, расказы дзвюх сваіх цётачак.

Яны тлумачылі мне, што высылка сям'і адбылася з прычыны адмовы дзеда Васіля ўступіць у калгас. Быццам бы дзед нават адхіліў прапанову ўзначаліць яго — такім было сямейнае паданне.

У пошуках адказаў на свае пытанні я апынулася ў Дзяржаўным архіве Мінскай вобласці (ДАМВ). Там я знайшла і дакладную дату высылкі — 11 сакавіка 1930 г.

З моманту першага наведвання архіва прайшло ўжо некалькі год, але тэма мяне «не адпускае». Калі раней уражвалі дробныя дэталі, то цяпер хочацца зразумець агульныя заканамернасці мерапрыемства, названага «раскулачваннем».

У маштабах тагачаснай дзяржавы раптоўная перапрацоўка сельскай гаспадаркі з індывідуальнай на калектыўную (пакінем надалей развагі пра эканамічную мэтазгоднасць мерапрыемства), якая патрабавала перадусім паступовай ломкі псіхалогіі селяніна — гэта перапрацоўка здзяйснялася без папярэдняй падрыхтоўкі, літаральна цягам некалькіх тыдняў, ужо звыклымі для бальшавікоў метадамі: нязгодных прымусіць — выслаць — расстраляць. «Цалкам сакрэтная» пастанова Палітбюро ЦК ВКП(б) ад 30 студзеня 1930 г. «О мероприятиях по ликвидации кулацких хозяйств в районах сплошной коллективизации» сталася першым каменем, які, паскораны «энтузіязмам» некаторых выканаўцаў на месцах, абрынуў на сем'і заможных сялян — так званых «кулакоў» — лавіну рэпрэсій.

Паколькі расшыфроўкі, т.б. юрыдычнага тэрміна «кулак» не існавала, у кожнай мясцовасці крытэры былі свае. На Случчыне «кулацкай» лічылася гаспадарка, у якой было больш за 6 дзесяцін зямлі. Пры гэтым можна згадаць, што ў 1910 годзе, калі смольгаўскім «адвечным чыншавікам» (таксама, як і сялянам у 1861 годзе) «крыважэрац»-цар нарэшце дазволіў выкупіць іхнія зямельныя надзелы, якімі яны карысталіся спрадвеку, памер гэтых надзелаў вагаўся паміж 11 і 25 дзесяцінамі (гектарамі). У спісе землеўладальнікаў 1911—1914 гг. былі асобы смольгаўцаў, якія мелі і больш буйныя землеўладанні, але гэта ўжо была купленая імі зямля. Паколькі ў 1917 годзе знакамітым «Дэкрэтам аб зямлі» прыватная ўласнасць на зямлю была скасаваная, гэтыя абшары ў момант сталіся нічыімі.

Колькі ж зямлі было ў майго дзеда, прозвішча якога ва ўсіх спісах смольгаўцаў, якія тычацца пазбаўлення выбарчых правоў ці раскулачвання, стаіць нумарам першым? Дзед вярнуўся дадому з Першай сусветнай у 1918 годзе. А год таму, у 1917-м, у перапісным бланку Сельскагаспадарчага перапісу 1917 года зафіксавана, што ў хаце заставаліся ягоная маці і малодшая сястра, і зямлі ў іх наогул не было, а была толькі хатняя жывёла і агарод. То бок у 1930 годзе дзед мог мець толькі тую зямлю, якую атрымаў у карыстанне ад савецкай улады. У дакументах Любанскага райвыканкама я гэтай лічбы так і не знайшла, яе можна вызначыць толькі ўскосна, разглядаючы пратаколы пасяджэнняў прэзідыума і фракцыі Любанскага райвыканкама аб канфіскацыі маёмасці кулацкіх гаспадарак. У двух з гэных пратаколаў маёмасць кожнага кулака пералічана падрабязна, пры гэтым у кожнай з гаспадарак мелася ад трох да дзесяці дзесяцін пахаці. Дарэчы, з гэтых пералікаў вынікае, што зусім не плошчаворыва была крытэрам «кулацкасці», а ўжыванне ў гаспадарцы наёмнай працы і стаўленне гаспадара да «праваздімых мерапрыемств».

У 1930-м годзе ў склад Любанскага раёна ўваходзілі дзесяць сельсаветаў: Юшкаўскі (да якога належаў Смольгаў), Асавецкі, Мала-Гарадзячыцкі, Ніжынскі, Рачэнскі, Рэдкаўскі, Слабодскі, Тальскі, Турокскі і Яменскі.

Стандартная працэдура раскулачвання была прынамсі такая: спачатку сельсавет (вядома ж, пасля «рэактыўнага штуршку» зверху) накіроўваў у райвыканкам «хадайніцтва аб раскулачванні» (уступная частка ўсіх хадайніцтваў напісана аднолькавымі фразамі — па адзіным узоры) з пералічэннем прозвішчаў кулакоў. Наступным днём РВК на пасяджэнні разглядаў і задавальняў гэтае хадайніцтва. Такім чынам імітавалася, што мерапрыемства праводзіцца па ініцыятыве знізу (божачкі, колькі ж разоў за сваё жыццё я бачыла гэткую ж імітацыю!). З дзесяці маючых быць хадайніцтваў мною знойдзена восем, няма іх толькі па Слабодскім і Рэдкаўскім сельскіх саветах.

Мерапрыемства пад назвай «раскулачванне» складалася з двух пунктаў: першы — канфіскацыя ўсёй маёмасці — ад хаты да посуду, другі — высяленне за межы БССР.

У хадайніцтвах Юшкаўскага, Асавецкага і Яменскага сельсаветаў ёсць толькі першы пункт, а ў хадайніцтвах астатніх пяці сельсаветаў ёсць і другі пункт — просьба аб высяленні кулакоў за межы БССР.

Здаецца, што можа быць цікавага ў рэакцыі РВК на хадайніцтвы сельсаветаў? Цікавае тое, што на розныя просьбы (толькі канфіскацыя ці канфіскацыя і высяленне за межы БССР) РВК адказвае аднолькава: хадайніцтва аб канфіскацыі задаволіць. Пра высяленне за межы БССР — у выканкамаўскіх пратаколах няма ніводнага слоўца. Пэўна, што высяляць — гэта была справа зусім іншай, вышэйшай, установы, у бок якой РВК не адважыўся нават дыхнуць. Але ўсё ж ёсць у выканкамаўскай тэчцы адзіны дакумент, які тычыцца непасрэдна высялення: чарнавік пратакола (без нумара) пасяджэння прэзідыума і фракцыі РВК ад 5 сакавіка 1930 г., прысвечанага непасрэдна арганізацыі высялення кулакоў. Пасяджэнне пачалося з разгляду спісаў на высяленне, але самі спісы да дакумента не прыкладзеныя (мяркую, што яны былі сакрэтнымі, як і «цалкам сакрэтная» пастанова ЦК ВКП(б) ад 30 студзеня 1930 г. «О мероприятиях по ликвидации кулацких хозяйств...»). Любанскі РВК чамусьці вырашыў дадаць у гэтыя спісы яшчэ 13 чалавек з Яменскага, Рэдкаўскага і Рачэнскага сельсаветаў. Не, не дадаць, а «прасіць акруговую тройку ўключыць (іх) у спісы на высяленне па 2-й катэгорыі». Вось і знайшлася тая ўстанова, якой так баяўся РВК... Любанскі раён адміністратыўна ўваходзіў у склад Бабруйскай акругі. Бабруйская «тройка» — засудовая інстанцыя крымінальнага пераследу — у складзе: кіраўніка акруговага АДПУ, сакратара акруговага камітэта партыі і пракурора — і вырашала лёсы любанскіх сялян. Нагадаю, што ўсе яны высяляліся ў адміністратыўным парадку, то бок крымінальнай віны за імі не было.

Іншыя згадкі пра высяленне і выселеных асоб можна знайсці

ў спісах канфіскаванай кулацкай маёмасці і выкарыстанні будынкаў кулакоў, выселеных за межы БССР, спісанні запазычанасці высланых па падатках і страхавых выплатах. Там жа знаходзім і яшчэ адну дату: другое мерапрыемства па высяленні кулакоў адбылося 28 красавіка 1930 г.

Вернемся да дзеда Васіля. Па-першае, адзначым: да гонару Юшкаўскага сельсавета — апошні не хадайнічаў перад РВК аб яго высяленні. Мяркую, што, паколькі пастанова аб раскулачванні ўтрымлівала дакладную лічбу прапанаваных да высялення з БССР, на Любанскі раён была «спушчана» таксама дакладная лічба, для дасягнення якой «ахвяры» павінны былі вылучацца з кожнага сельсавета. А дзед у спісах быў першым нумарам — хутчэй за ўсё, ён апынуўся сярод выселеных «аўтаматам».

Па-другое, вышэй згаданая пастанова прадугледжвала і забарону прымаць у калгас кулакоў. Вось і развянчанне сямейнага падання...

Урэшце ва ўладаў атрымалася абсурднае мерапрыемства па знішчэнні найлепшай, паспяховай, працавітай і працаздольнай часткі сялян, якая забяспечвала патрэбы дзяржавы ў хлебе, што адгукнулася голадам у 1932—1933 гг.

Здавалася б, пасля такой «татальнай зачысткі» ўсе астатнія павінны былі неадкладна запісацца ў калгас. Але, па інфармацыі з сайта «Любаншчына», пасля правядзення «мерапрыемстваў» застрашаны народ не надта пабег запісвацца ў калгасы: у сакавіку 1930 г. на пасяджэнні Рачэнскай партыйнай ячэйкі па падвядзенні вынікаў калектывізацыі былі адзначаны нізкія тэмпы работы. Па Юшкавіцкім сельскім савеце з 668 сялянскіх гаспадарак у калгасы ўступілі 208, па Рачэнскім з 1100 — 362.

### Як жа адбывалася высяленне?

Звернемся зноў да згаданага пратакола без нумара ад 5 сакавіка 1930 года, напісанага (не друкаванага, як іншыя) з нагоды «зацверджання спісаў на высяленне кулацкіх гаспадарак» (чаму гаспадарак, высялялі ж людзей?). Асоба, якая пісала гэты пратакол, была моцна ўзбуджана, вельмі нервавалася і спяшалася: зашмат памылак і закрэсліванняў, руская і беларуская мова пераблытаныя, некаторыя словы немагчыма прачытаць, некаторыя стаяць не ў тым склоне. Адчуванне такое, што чалавек разумеў, што ладзіцца брудная справа, злачынства супраць нявінных людзей.

«Аб'явіць высяляемым кулакам за тры дні да высялення...»

Гэта хлусня: дзед Васіль у дзень высялення з раніцы паехаў дапамагаць ладзіць хату ў суседнюю вёску — там і быў затрыманы і дастаўлены на чыгуначную станцыю ва Урэччы, дзе сустрэўся з жонкай і дзецьмі. Мяркуючы па гэтым, ён не атрымліваў ніякага афіцыйнага папярэджання.

«Увіду аддаленасці М.Гарадзячыцкага і Ніжынскага (маюцца на ўвазе сельсаветы) зрабіць адпачынак на 2 (лічба многа разоў перакрэслена й зноўку падмалявана) 1 часа у м.Любані...»

Бачна, што сябры Любанскага райвыканкама надта баяліся, каб іх не западозрылі ў спачуванні высланым. Але ж коням патрэбен адпачынак, вада і ежа, коні ж — па-за палітыкай. Ад Ніжына да Урэчча праз Любань — больш за 50 км, трэба рабіць прыпынак. Ад Смольгава да Урэчча — прыкладна 25 км, дарога напрасткі, у Любань можна не заязджаць.

«Прапанаваць т.Лазевулькину [? неразб.] з... 11/3 ночью забяспечыць карэл [караул?] на ... пункце, т.Стоцкаму к гэтаму часу атайміць народам...»

Гледзячы на гэтую дату, можна ўявіць, што цягнік на чыгуначнай станцыі павінен быў чакаць высяленцаў 12 сакавіка. Значыцца, выкідванне людзей з уласных дамоў пачалося раніцай 11 сакавіка, адначасова ва ўсіх населеных пунктах Любанскага раёна. Цікава, колькі часу давалі сем'ям, каб сабрацца? Мае распавядалі, што збіраліся літаральна хвіліны, паехалі, у чым былі. Уяўляю сабе гэты ранішні адчайны лямант жанок і плач дзетак, які гучаў 11 сакавіка над любанскімі вёскамі...

Чамусьці здаецца, што было цудоўнае вясновае сонечнае надвор'е, ціўкалі сагрэтыя першым сонейкам птушачкі, але ж на гэта ніхто не зважаў... Цягнуліся сані па друзлым сакавіцкім снезе, наўрад ці шпарчэй за хуткасць пешага чалавека. Затуманенымі ад слёз позіркамі развітваліся высяленцы з роднымі абшарамі: адчувалі, што не ўсім давядзецца вярнуцца на радзіму. Даехалі да Урэчча толькі надвячоркам. Дзе бавілі халодную ноч? Што ўяўляў сабою гэты «пункт», ці быў хаця які дах над галавой? А мо аглушаныя нечаканай бядой сяляне, прытуліўшы да сябе дзяцей, дрыжэлі ад начнога марозу на плошчы на падводах, пад позіркамі спачування сагнаных сюды дзеля «атаймлення» людзей?

Мною ўжо прыгадвалася, што па папярэднім пратаколе, ад 9 лютага, у спісе раскулачаных па Юшкаўскім сельсавеце было дзесяць смольгаўскіх сем'яў. Сасланая ж была толькі дзве сям'і: мае Міхалоўскія ды Тарасевічы. Астатнія сем'і «пайшлі па трэцяй катэгорыі» — у іх адабралі маёмасць і выгналі са сваіх хат (перасялілі ў бяднейшыя).

Нягледзячы на тое, што ў былым засценку Смольгава змяніліся ўжо тры пакаленні, ад сённяшніх жыхароў можна яшчэ пачуць згадкі пра тое, як «кулачылі».

Вось аповед жыхара Смольгава Лаханскага пра раскулачванне яго прадзеда Тарасевіча: «Як прыйшлі яго раскулачваць, дык ён заслабнуў, на пячы ляжаў, дык гэтыя Вусік, ды Собаль, ды Бондар за яго — ды ўзялі паўкош, ды вынеслі, пад плот паставілі, паўкош наклалі саломы і яго вынеслі, хату замкнулі і пайшлі. Дык яго забраў сын туды, дзе мы жылі, дык ён тыдзень пражыў дый памёр».

З маёй размовы з сынам першага старшыні смольгаўскага калгаса Вусам М.І.: «...Спачатку жылі ў сваёй хаце, потым пераехалі ў Вялікі Смольгаў — там шмат добрых хат стаялі пустыя...»

Былы жыхар Смольгава Лапкоўскі Н.І распавядае, што выгнаныя кулакі, праходзячы каля сваёй былой хаты, бачылі, як дзеці новых гаспадароў, ускочыўшы на падаконнікі, старанна паказваюць ім праз шкло свае голыя дупкі.

У дакументах райвыканкама няма ні адзінага слова аб мерапрыемствах па ўладкаванні тых сямей, лёсе тых, каго высялялі ў межах сельсавета, «па трэцяй катэгорыі». Сем'і выкідвалі на вуліцу, адабраўшы літаральна ўсё, і іхні далейшы лёс нікога не цікавіў. Праўда, сустракаюцца адзінкавыя выпадкі разгляду спраў аб вяртанні маёмасці. Напрыклад, пры высяленні сына за межы БССР засталася маці, якая прасіла вярнуць частку маёмасці. Адмова — хай жыве з другім, нераскулачаным сынам. Ці з такой жа просьбай звярталася жонка, якая не паехала за мужам у ссылку. Адмова — яна ж з мужам развялася, каб пазбегнуць раскулачвання, дык цяпер раскулачанай не лічыцца. Ёсць выпадак станоўчага адказу на просьбу яшчэ адной кабеты, якая засталася з двума малымі, — ёй вярнулі карову.

Сярод дакументаў РВК мне нечакана сустрэліся тры няўручаныя позвы, тры самотныя пажаўцелыя папяровыя аркушыкі, дбайна падшытыя ў тэчцы па прызыве ў войска хлопцаў 1908 года нараджэння. Адрас і прозвішча на адным з іх здаюцца знаёмымі: «д.Смольгов Юшковского с/с, Тарасевичу Стефану Григорьевичу». На кожнай з трох жоўтых паперак — кароткі вырак: «высланы»...

Так, мае цётачкі ўспаміналі, што ехалі на Урал яны ў адным вагоне са смольгаўскімі Тарасевічамі, але не ўдакладнялі, менавіта з якімі (у Смольгаве было раскулачана шэсць сем'яў Тарасевічаў).

У адсутнасці даступных звычайнаму даследчыку дакументаў (размова ідзе пра спісы на высяленне па другой катэгорыі, якія зацвердзіла «акруговая тройка» — дарэчы, дзе яны зараз захоўваюцца?) гэтая паперка з'яўляецца, па сутнасці, адзіным дакументам, які пацвярджае высылку сям'і менавіта Рыгора Палікарпавіча Тарасевіча 1872 г.н., які разам з сынам Сцяпанам 1908 г.н. і жонкай Марыяю ўнесены ў спіс асоб, пазбаўленых выбарчых правоў як «кулацкая гаспадарка, ужываючая наём працы». Гэта важна, паколькі ў кнізе «Памяць» Любанскага раёна памылкова адзначана, што разам з маім дзедам раскулачана і выслана была сям'я Андрэя Варламавіча Тарасевіча, арыштаванага 27 сакавіка і асуджанага 15 красавіка 1930 г. па «палітычным» артыкуле 72 КК БССР. Так, ён быў высланы, але ў другі час, у другое месца, адзін, без сям'і, якая да 1961 г. жыла ў Смольгаве. Дарэчы, на момант арышту ён быў калгаснікам.

Вернемся зноў да дакументаў Любанскага выканкама з мэтай адказаць на пытанне: ці мог дзед Васіль уступіць у калгас і ўзначаліць яго? Думаю, што чутак на пустым месцы не бывае: магчыма, што ў першыя дні «правадзімых мерапрыемстваў», калі іх арганізатары яшчэ самі не ўцямілі ўсіх правілаў гульні, такая прапанова была яму зроблена. Пра гэта ўскосна сведчыць ліст Юшкаўскага сельсавета Любанскаму выканкаму ад 8 лютага 1930 года аб прыняцці ў калгас заможніка Івана Сцяпанава Заброцкага, з якога бачна, што ў калгас яго спачатку прынялі, а потым папрасілі дазволу на гэта ў райвыканкаме.

Але тыя, хто сядзеў на вяршыні ўлады, памылак не рабілі. З аднаго боку, прызнаных кулакамі забаранялася прымаць у калгасы і іншыя кааператывы. З другога боку, праводзілася палітыка поўнага іх вынішчэння: пазбаўленне права арэнды зямлі, абкладанне неабгрунтавана вялікім індывідуальным падаткам. Тых, у каго атрымлівалася яго сплаціць, абкладалі яшчэ большым, тых, хто не здолеў поўнасцю сплаціць, — судзілі за нясплату падаткаў, вырак — накіраванне ў тыя ж ППЛ. За неасцярожна сказанае слова прыпісвалі палітычны артыкул — антысавецкая агітацыя — на разгляд тройкі — ВМП ці ППЛ.

Яшчэ раз гляджу на спіс рэпрэсаваных у 30-я гады смольгаўцаў: 27 чалавек, з іх расстраляных — тры чалавекі, асуджаных на 10 гадоў — што было тоесна расстрэлу, — тры чалавекі.

Ува ўсіх выканкамаўскіх «чорных» спісах прозвішча Васіля Міхалоўскага стаяла побач з прозвішчам ягонага швагра, Мікадзіма Тамковіча. Апошняму нейкім чынам удалося ў 1930-м пазбегнуць высылення па другой катэгорыі (падобна на тое, што ў апошні момант яго прозвішча ў спісе было заменена прозвішчам Рыгора Тарасевіча), але за ім усё роўна прыйшлі ў 1933-м (арышт, вырак: 5 гадоў ППЛ), у другі раз — у 1937-м (арышт, вырак: 10 гадоў ППЛ). З апошняга лагера ён не вярнуўся.

Падобны лёс напаткаў і стрыечнага дзядзьку дзеда Васіля, Стэфана Якаўлева Міхалоўскага, уся віна якога была ў тым, што ён быў самым заможным гаспадаром засценка Бярэзінка: арышт у снежні 1929 г. (тры гады высылкі), арышт у верасні 1937 г. (найвышэйшая мера пакарання). Калі б дзед Васіль пазбегнуў ссылкі, яго, безумоўна, чакаў бы падобны лёс.

Вось я і адказала сабе на пытанне аб уступленні дзеда Васіля ў калгас: гэта было немагчыма — нават пры яго жаданні. Як гэта ні дзіўна, але атрымліваецца, што трэба падзякаваць таму, хто тэрмінова вырашыў дадаць прозвішча дзеда Васіля ў спіс высяляных за межы БССР: тым самым ён захаваў дзеду (а, магчыма, і яго сыну — майму бацьку) жыццё.

Вернемся да пастановы Палітбюро ЦК ВКП(б) ад 30 студзеня 1930 г. Там маецца планаваная колькасць высяляных за межы БССР па 2 катэгорыі — 6—7 тысяч сямей. На пачатак 1930 г. тэрыторыя БССР была падзелена на 111 раёнаў. Вылічым сярэднюю планаваную лічбу па раёне з разліку агульнай колькасці па БССР 7 тысяч сем'яў: 7000÷111 = 63.

І параўнаем з прыблізнай лічбай выселеных у сакавіку-красавіку 1930 г. з Любанскага раёна «кулакоў», прозвішчы якіх (вядома ж, не ўсе) знойдзены мною ў дакументах Любанскага РВК:

Усяго раскулачана — 187 сямей.

З іх раскулачана і выслана за межы БССР — 105.

Як бачым, план быў перавыкананы.

У сакавіку 1992 г. намаганнямі маёй цёткі Зіны — адной з сям'і сасланых Міхалоўскіх — былі атрыманы пяць даведак з УУС Мінаблвыканкама аб рэабілітацыі ўсіх чальцоў сям'і і нават нейкая невялікая сума грошай. У даведцы дзеда ёсць цікавы абзац, з каторага вынікае, што недзе ў нетрах архіваў МУС маецца персанальная справа аб высяленні дзедавай сям'і.

Ці рада я, што сям'я майго дзеда рэабілітаваная? Безумоўна, так! Але, калі я гартаю ў архіве дакументы пра раскулачванне, то чую галасы сотняў і тысяч грамадзян Беларусі, якім дзяржава нізавошта зламала лёс, пазбавіла маёмасці і нават адняла жыцці. Не да помсты заклікаюць яны, але і ціхенькая раздача даведак аб рэабілітацыі не годна іх памяці. Яны жадаюць быць названымі паіменна і пачуць ад прадстаўнікоў дзяржаўнай улады публічнае прызнанне ў гэтым гвалце, прабачэнне і пакаянне. Гэта, найперш за ўсё, патрэбна новаму пакаленню — каб такое ніколі больш не паўтарылася.

**Святлана Міхалоўская, bydc.info**



**Гэта мой дзед, Васіль Міхалоўскі (1896—1959), які ў 1930 г. быў «раскулачаны» і высланы з сям'ёю ў Пермскі край.**

# Як выглядае лецішча прапагандыста Уладзіміра Салаўёва — «самы пачварны будынак»

Фонд барацьбы з карупцыяй Аляксея Навальнага апублікаваў расследаванне пра маёмасць тэлевізійнага прапагандыста Уладзіміра Салаўёва.

«Аб ягонай маёмасці напісана і сказана вельмі шмат, нічога звышновага мы не адкрываем, але затое ўпершыню ўсё паказваем і прыкладаем дакументы», — тлумачыцца ў расследаванні.

Навальны ацэньвае багацце Салаўёва мінімум на мільярд расійскіх рублёў — гэта 15 мільёнаў еўра.

Спіс нерухомасці вядучага пачынаецца з кватэры ў элітным доме ў Маскве. Паводле дакументаў, Салаўёў купіў яе наўпрост у мэрыі па цане, у 5 разоў ніжэйшай за рынкавую.

Апроч таго, ён набыў яшчэ дзве кватэры ў тым самым доме, павялічыўшы плошчу сваёй элітнай маёмасці да 450 квадратных метраў.

Пад Масквой у Салаўёва ёсць лецішча. «Гэта самы пачварны будынак, які калі-небудзь здымаў ФБК, — запэўнівае Навальны. — Але велізарны. 1046 метраў. І каштуе нямала. Зямлі таксама прыстойна — 60 сотак».

Знятая і знакамітая віла Салаўёва на возеры Кома. «Ён яе не будаваў, а проста купіў, таму віла праўда класная. Упершыню на экранах», — піша Навальны.

Адметна, што Салаўёў яшчэ і паспеў аформіць пасведчанне рэзідэнта Італіі.

**БЮ**


Дом з трыма кватэрамі Салаўёва.


«Самы пачварны будынак» — 4-павярховая дача Салаўёва.




І яшчэ адна дача — у Італіі.

# Што вядома пра хлопца з Вілейкі, які выбег на поле з бел-чырвона-белым сцягам на матчы БАТЭ — «Арсенал»

На матчы групавога этапа Лігі Еўропы паміж БАТЭ і «Арсеналам», што праходзіў на «Барысаў-Арэне», на поле выскачыў заўзятар з «Пагоняй» на грудзях і бел-чырвона-белым сцягам у руках. Хлопца затрымала ахова, але ён паспеў назваць сваё імя журналістам.

Хлопца зваць Аляксандр Вянгерскі. Яму 26 гадоў, родам ён з Вілейкі.

«Ён жыве то ў Мінску, то дома, у Вілейцы. Часам прападае на пару месяцаў у сталіцы. У свой час скончыў курсы — вучыўся на праграміста. Вышэйшай адукацыі не мае», — распавёў «Нашай Ніве» Андрэй, родны брат Аляксандра.



Аляксандр са звычайнай сям'і — маці ўсё жыццё працуе на рынку ў Вілейцы, гандлюе мясам. Бацькі няма. Айчым, які вырасціў Аляксандра з братам, працуе вальшчыкам лесу. Андрэй, брат, працуе на польскую кампанію — ён дальнабой.

Раней Аляксандр займаўся веславаннем, але ў яго адна нага трохі карацейшая за другую, таму яму не далі спартыўны разрад. Інваліднасць таксама не далі.

«Ён апошнія два гады пачаў цікавіцца палітыкай, на мітынгі хадзіць. Удзельнічаў у мітынгу супраць вучэнняў «Захад-2017», — кажа брат Аляксандра. — Пра тое, што хоча выбегчы на поле са сцягам, даўно казаў, шукаў, з кім гэта можна зрабіць».

Суд Барысаўскага раёна даў Вянгерскаму 10 сутак арышту.

Але для людзей у інтэрнэце Вянгерскі стаў героем.

«Люблю сваю краіну! Калі ты нічога не ведаеш пра матч БАТЭ — «Арсенал», акрамя таго, што на ім быў хлопец з Вілейкі», — напісаў чэмпіён свету па тайскім боксе Віталь Гуркоў.

**Улад Швядовіч**



МАКСІМ ПУШКІН

# Пяць рэчаў, якім здзіўляешся ў Нарвегіі

Журналіст «Нашай Нівы» Арцём Гарбацэвіч тыдзень правёў у Нарвегіі. Ён занатаваў рэчы, якія здзіўляюць беларуса, якія варта пераймаць. Абыдземся без нагадвання пра касмічныя заробкі і ўзровень жыцця — пра гэта чулі ўсе.

### Давер як ідэалогія

Нарвежскае грамадства пабудаванае на даверы. Як найбольш уражлівы момант прывяду размову з сябрам адной выбарчай камісіі (парламенцкія выбары ў Нарвегіі прыпалі акурат на час паездкі). Дык вось, ён расказаў, што толькі ў 2012 годзе нарвежцаў абавязалі паказваць пашпарт (ці іншы дакумент) пры галасаванні, і тое толькі пад ціскам справаздач міжнародных назіральнікаў. Дагэтуль чалавек проста называў сваё імя, калі аддаваў бюлетэнь.

«Гэтак жа можна некалькі разоў прагаласаваць, называючыся рознымі асобамі», — сказаў я, навучаны беларускімі «каруселямі».

Адказ нарвежца быў наіўны, але шчыры.

«А навошта камусьці гэта рабіць?» — сказаў ён.

Людзі тут не разумеюць хлусні і круцельства, грамадства такіх адрынае.

Хаваць штосьці — значыць выклікаць да сябе недавер. Гэтая філасофія праяўляецца ва ўсіх сферах жыцця: ад гандлю да дзяржаўнай службы.

«Можа падацца, што ў нас лёгка жылося б круцялю, але гэта не так. Яму жылося б цяжка. Як цяжка сумленнаму чалавеку жыць сярод прытворцаў, гэтак і прытворцам цяжка сярод сумленных людзей», — сказаў мне тутэйшы.

### Дзіўная сітуацыя з алкаголем

Быць алкаголікам у Нарвегіі вельмі дорага — тут 0,5 л піва каштуе каля 10 еўра. Але добра, калі вы яго знойдзеце, бо ў 90% наведаных прадуктовых крам яго не прадавалася. Што хочаш пі: ад малака да энергетыкаў і сокаў з мякаццю, але алкаголю няма. У той краме, дзе я знайшоў піва, яно прадавалася толькі да 21 гадзіны. Але гэта быў і самы моцны алкаголь там — ні гарэлкі, ні віна. Нарвежцы звычайна прывозяць алкаголь з *duty free* пасля пералётаў або ходзяць у бары з драконаўскімі накруткамі.

### Беларусаў выдае твар

Даводзілася пабываць у начным клубе, дзе тусуецца сталічная моладзь. Збольшага усё як і ў нас. Адзінае, што студэнты не могуць дазволіць сабе кактэйлі ці нават піва, таму тут кампаніямі напіваюцца дома, а ўжо потым ідуць танцаваць. Што ўразіла: недзе праз 20 хвілін да мяне падышоў ахоўнік са словамі «калі вы не будзеце ўсміхацца, то мы вас выганім». Канечне, наўрад ці гэта была сур'ёзная пагроза, хутчэй, проста меседж, што ў забаўляльных установах тут прынята весяліцца так, каб гэта было ясна.

### Праблемы нарвежскага грамадства

Большасць беларускіх праблем у Нарвегіі ў той ці іншай ступені ўжо вырашаная, калі гаворка пра ўзровень жыцця: школы з садкамі тут бясплатныя, але ў іх не кормяць. Медыцына бясплатная, але доўгія чэргі. Заробкі вялікія, але хочацца больш.

Аднак найбольш яскрава пра праблемы грамадства гаворыць дыялог, які адбыўся ў мяне з прадстаўніком Цэнтральнай партыі, якая потым набрала 19 з 161 месца ў Стортынгу (парламенце).

Дык вось, ён расказваў мне пра ваўкоў. У Нарвегіі іх да мінулай зімы было каля 130-ці, але, маўляў, за зіму іх папуляцыя павялічылася на 19%, апераваў ён лічбамі.

«Ваўкі нападаюць на фермерскіх авечак. Павелічэнне іх колькасці — пагроза. Нашая выбарчая праграма прадугледжвае ўвядзенне квоты на колькасць ваўкоў у Нарвегіі, астатніх мы прапануем адстраляць. Увогуле, больш глабальным вырашэннем было б пасяліць іх усіх у адной рэзервацыі, адкуль яны б нас не даймалі», — сказаў ён.

Спробы пасяліць ваўкоў у рэзервацыі былі і раней, але яны, чакана, праігнаравалі рашэнні нарвежскага парламента і разбегліся адтуль.

Цяжка ўявіць, каб у Беларусі адным з пунктаў выбарчай праграмы ў кагосьці значылася прапанова скарачэння папуляцыі баброў, якія таксама ствараюць праблему, але не палітычную.







### Тусоўка для старых

Як чалавек, якому знаёмы лад жыцця беларускіх пенсіянераў, асабліва ў глыбінцы, быў шакаваны, выпадкова зайшоўшы ў кірху ў прыгарадзе Осла.

Гэта быў вечар аўторка, але ўнутры нібы пчолы гудзелі: уся зала была заастаўленая сталамі, за якімі стаялі/сядзелі людзі сталага веку, усе пра нешта гаварылі, разбіўшыся на гурткі па інтарэсах за кожным сталом. Нехта там мапу абмяркоўваў, нехта штосьці еў.

Вядома, без алкаголю. Апранутыя як на выхад, але без перабору: у джынсах, красоўках.

Як я зразумеў, гэта такая тусоўка для старых, якія ўжо не пойдуць у клуб ці гуляць у баскетбол, але якія і не згодныя залазіць у панцыр сваёй хаты, хочуць адчуваць сябе звязанымі з гэтым светам. У гэтым жаданні і ўяўляецца розніца з нашымі старымі, якія жывуць мінулым, адрынаюць мадэрн.

# Леанід Парфёнаў: «Стварэнне СССР — самая страшная катастрофа ХХ стагоддзя»

На днях выйшла кніга расійскага журналіста Леаніда Парфёнава «Намедни. Наша эра. 1931—1940», чарговая ў серыі. Новая кніга прысвечана перыяду расійскай — і беларускай — гісторыі, што горача абмяркоўваецца ў грамадстве.

Бі-бі-сі зрабіла вялікую гутарку з аўтарам з нагоды выхаду манаграфіі.

«Я лічу, — сказаў Парфёнаў, — што самая страшная геапалітычная катастрофа ХХ стагоддзя — гэта стварэнне Савецкага Саюза. У мяне ёсць маё асабістае стаўленне. Я не разумею гэтыя патрэбы блукаць у трох соснах і гэта дзіўнае атаясамленне Расіі з Савецкім Саюзам.

Нельга быць сляпым і не бачыць, што ў нас за сто гадоў ужо тры розныя краіны, і нельга не разумець, што той праект скончыўся ганебнай паразай. Ён быў не жыццёвы, яго не ЦРУ разваліла — ніякія разведкі не здольныя развальваць імперыю, калі не прыйшоў час



імперыі развальвацца.

Яе завод скончыўся значна раней, калі б не саматлорская нафта, яна, можа быць, ляснулася б яшчэ ў сярэдзіне 70-х. Ну, мы не ведаем. Але яна дайшла да поўнага выраджэння. Мае сучаснікі, я не разумею, дзе яны ўсе былі, калі Чарненку паказвалі па тэлебачанні? Яны не разумелі, што гэта канец, што ўсё, далей няма куды? Фізічнае зжыванне сябе, выраджэнне поўнае. Канстанцін Усціновіч, што называецца, не прыходзячы ў прытомнасць, прыступіў да абавязкаў генеральнага сакратара ЦК КПСС».



## У Літве на паўгода спынілі рэтрансляцыю тэлеканала ТВЦ праз выступ Жырыноўскага

У Літве ўступае ў сілу паўгадовая забарона на рэтрансляцыю расійскага тэлеканала ТВЦ (расшыфроўваецца як «ТВЦ Міжнародны»). Прычына забароны — падбухторванне да вайны і распальванне нянавісці, піша *Delfi.lt*.

Літоўская камісія па радыё і ТБ прыняла рашэнне спыніць рэтрансляцыю, канстатаваўшы, што парушэнні на гэтым тэлеканале паўтараюцца, а ўжытыя раней санкцыі не далі вынікаў. Рашэнне камісіі санкцыянаваў Віленскі акруговы адміністрацыйны суд.

Увагу камісіі прыцягнулі каментары, зробленыя ў праграме «Права ведаць» 10 чэрвеня дэпутатам Дзяржадумы Расіі Уладзімірам Жырыноўскім, якія, як устанавіла камісія, падбухторвалі да вайны, распальвалі нянавісць і нецярпімасць паміж народамі.

У праграме Жырыноўскі казаў аб акупацыі Украіны, Прыднястроўя. Прадстаўнікі тэлеканала, якія даслалі пісьмовыя тлумачэнні і ўдзельнічалі ў пасяджэнні камісіі, парушэнні не прызналі.

# Падлетак прызнаўся, што забіў маці самаробным мячом. Бо яна не дазволіла яму жыць з дзяўчынай?

25 верасня ў Воранаве, што на Гродзеншчыне, адна з супрацоўніц мясцовага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі паведаміла ў міліцыю аб працяглай адсутнасці 40-гадовай калегі. Ларыса была ў адпачынку, але ёй некалькі дзён не маглі дазваніцца — тэлефон быў выключаны.

Міліцыя пачала шукаць жанчыну. Неўзабаве высветлілася, што яе забілі. Галоўны падазраваны па справе — 17-гадовы сын Руслан.

«Падчас правядзення следчых дзеянняў і аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў 17-гадовы сын зніклай жанчыны зрабіў заяву аб тым, што 19 верасня ўчыніў забойства маці, нанёсшы ёй некалькі ўдараў па галаве самаробным мячом», — распавялі ў Следчым камітэце.

Пасля гэтага ён паказаў месца, дзе схаваў у хмызняку цела, — там і была выяўлена мёртвая жанчына.

Хлопца затрымалі, цяпер ён знаходзіцца ў мясцовым СІЗА. Яго 14-гадовага малодшага брата забралі органы апекі.

«Некалькі дзён ніхто не выходзіў на сувязь: ані Ларыса, ані яе муж Анатоль, ані сын... Мы падумалі, што, можа, яны паехалі куды адпачываць усёй сям'ёй, — распавяла «Нашай Ніве» Вікторыя, пляменніца загінулай. — Пасля выпадкова пабачылі ў сацсетках допіс сяброўкі Ларысы... Высветлілася, што Ларысы больш няма».

Сваякі кажуць, што адносіны ў сям'і былі нармальныя — ніхто не разумее, як магла адбыцца такая бяда. Ларыса, якая ў свой час скончыла Гомельскі медыцынскі каледж (яна родам з-пад Гомеля, з вёскі Дабрынь), працавала памочнікам гігіеніста ў мясцовым цэнтры гігіены і эпідэміялогіі. Муж ездзіў працаваць у Расію. Дарэчы, у ноч забойства яго не было дома, быў у Расіі.

Руслан вучыўся на 3 курсе мясцовага прафесійна-тэхнічнага каледжа на трактарыста-машыніста. Летам падпрацоўваў у складзе працоўных брыгад ад БРСМ — палоў буракі пад вёскай Кужы.

«Пра яго ніхто з педагогаў нічога дрэннага сказаць не можа. Адэкватны малады чалавек. Культурны. Разумны, вучыўся вельмі добра — нават удзельнічаў летась у конкурсе «Вучань года», — распавёў «Нашай Ніве» Сяргей Дубок, куратар групы Руслана з каледжа.

Але некаторыя блізкія сябры Руслана лічаць, што прычынай трагедыі маглі стаць яго рамантычныя адносіны з 16-гадовай Каралінай, таксама навучэнкай таго ж каледжа. Маладзёны пазнаёміліся вясной і неўзабаве закахаліся.

«Яны ў маі пазнаёміліся. Але я таго Руслана не бачыла аніводнага разу. Не ведаю, што ён за чалавек», — расказала «Нашай Ніве» Данута, маці Караліны.

Адзін з сяброў Руслана распавёў, што ў пары былі вялікія планы.

«Я некалькі дзён таму бачыў Руслана з Каралінай — у іх на руках былі пярсцёнкі, падобныя да шлюбных. Ажаніцца яны не маглі, але Руслан казаў, што хоча здабыць фальшывую даведку ад гінеколага, нібыта Караліна цяжарная — каб ім дазволілі пабрацца шлюбам», — сцвярджае хлопец.

Дарэчы, старонка Караліны ў сацсетках запоўненая Русланам і цытатамі пра каханне з разнастайных пабліказў. Дзяўчына змяніла ў сеціве сваё прозвішча на прозвішча Руслана і нават пазначыла сямейнае становішча: «у грамадзянскім шлюбе з Русланам». Пад імем самой Караліны стаіць статус: вялікімі літарамі «РУСЛАН». Пасля кожнай літары — сардэчка.

Сябар Руслана кажа, што хлопец планаваў жыць разам з Каралінай, хацеў, каб дзяўчына пераехала да яго, але маці была супраць гэтай ідэі. Але ў гэтай гісторыі хапае незразумелых момантаў.

«Руслан казаў мне, што яго маці знікла на тыдзень ці два. Гэта было яшчэ да забойства. Ён казаў, што не ведаў, дзе яна, казаў, што збіраецца ісці ў міліцыю, каб яе пачалі шукаць, — сцвярджае сябар Руслана. — Я не ведаю, калі яна знайшлася і чаму яны пасварыліся, дый увогуле, ці сварыліся. Але, магчыма, гэта было звязана з планамі Руслана на сямейнае жыццё».

Куды знікала Ларыса, маці хлопца, невядома. Як невядома, і ці знікала яна ўвогуле. Варта адзначыць, што знаёмыя і сваякі сям'і кажуць, што праблем з алкаголем у жанчыны не было.

Але ж сябар Руслана сцвярджае: хлопец расказваў, што Караліна ўжо некалькі разоў заставалася ў яго ноччу. Пра тое, што дзяўчына часам праводзіла ноч не дома, кажа і маці Караліны. Але, запэўнівае яна, бацькі думалі, што Караліна начуе ў сваякоў.





Руслан — 17-гадовы сын Ларысы.



Караліна, каханая Руслана.

«У тую ноч, калі адбылося забойства, мая дачка была дома, нікуды не выходзіла. Адзінае, што гаварыла з Русланам па тэлефоне. Пра што гаварылі, я не ведаю», — кажа маці Караліны.

Па словах Дануты, калі затрымалі Руслана, яе дачку забралі ў міліцыю з вучобы. Размаўлялі з 16-гадовай дзяўчынай без бацькоў. Пра што — Данута таксама не ведае. Вядома толькі, што ў Караліны міліцыянты забралі мабільнік.

Вось што расказала «Нашай Ніве» сама Караліна:

«Руслан мне проста пазваніў ноччу, каля паловы на першую. Напалохана так кажа: «Не хвалюйся, я маці забіў». Я спужалася... Спытала: чым? Ён сказаў, што самаробным мячом, — узгадвае Караліна. — Пасля спісаліся праз «Укантакце». Я спытала пра цела, Руслан сказаў, што зацягнуў у лес. Сказаў мне, каб я нікому не гаварыла пра забойства. Я і маўчала...

Пасля мы бачыліся. Руслан быў вельмі напалоханы. Я казала яму, што трэба ісці здавацца ў міліцыю, ён адказваў, што праз тры тыдні пойдзе. Чаму менавіта праз тры тыдні, я не ведаю».

Хлопца затрымалі раней, чым ён вырашыў здавацца.

«Што дакладна там здарылася паміж ім і маці, я не ведаю. Можа, і сапраўды яны пасварыліся. Ёй не вельмі падабаліся нашы адносіны з Русланам. Чаму — я не ведаю. Сям'я ў іх нармальная, усё добра. Але ж Руслан мне расказваў, што часта сварыўся з маці праз нашы з ім адносіны», — працягвае Караліна.

Па словах дзяўчыны, у яе з Русланам усё было сур'ёзна.

«Пазнаёміліся мы з ім 4 мая. Спісаліся «Укантакце», сустрэліся... Закахаліся. Але жыць разам ён мне не прапаноўваў — гэта няпраўда. І пярсцёнкі мы адзелі проста так. Руслан вельмі хацеў, каб мы ажаніліся найхутчэй, але я лічыла, што яшчэ трохі рана. Пра даведку ад гінеколага таксама праўда — Руслан хацеў так зрабіць. Але я была супраць», — распавяла Караліна.

Яна таксама сцвярджае: маці Руслана сапраўды знікла кудысьці яшчэ да забойства.

«Яе не было два тыдні. Мы спрабавалі шукаць, ездзілі з Русланам на лецішча. Яе там не было. Я не ведаю, калі яна там знайшлася і дзе была, — расказала Караліна. — Але так, я таемна ад сваіх бацькоў начавала ў Руслана дома некалькі разоў, пакуль яго маці адсутнічала. Можа, ён пасля расказваў ёй пра гэта... Я не ведаю».

Цяпер Караліна праходзіць па крымінальнай справе як сведка. Яе каханы Руслан — падазраваны ў забойстве.

«Не ведаю, што далей рабіць. Напэўна, буду яго чакаць», — кажа дзяўчына.

**Улад Швядовіч**




# Знікненне Максіма Мархалюка: вялікая загадка Белавежскай пушчы

Максім Мархалюк з сяла Новы Двор у Свіслацкім раёне згубіўся ў Белавежскай пушчы 16 верасня ўвечары.

У тую ж ноч малога сталі шукаць бацькі і суседзі. Пасля да пошукаў падключыліся пажарныя, міліцыя, леснікі, вайскоўцы і памежнікі. Пасля на заклік аб дапамозе ў Новы Двор з'ехаліся тысячы людзей з усёй краіны.

Безвынікова. Ровар хлопчыка знайшоўся пры дарозе, а самога яго ці ягонай вопраткі — няма.

Вёска Новы Двор знаходзіцца каля Белавежскай пушчы — да самых дамоў падступае лес. Мясцовыя дзеці ў тым лесе пачуваюцца, як рыбы ў вадзе.

У хлопцаў там ёсць «база» — будан, у якім яны гуляюць.

У 18.30 малога бачылі каля дома. Цямнела ў тыя дні каля 20.00. Мама хлопчыка стала клікаць сына дадому, калі вячэра стаяла на стале. Але сына нідзе не было. Патэлефанавала яго школьным сябрам, з якімі ён часта сыходзіў у лес. Яны і распавялі, што Максім «паехаў на базу», што і клікаў іх «у грыбы», але яны не пайшлі. Бацькі пабеглі ў лес, а праз дзве гадзіны выклікалі міліцыю.

Цяпер следства распрацоўвае розныя версіі. Ці яго нехта выкраў. Ці на яго напалі дзікія звяры. Ці малога нешта спужала, ён заблукаў і праваліўся ў якое балота, дзе яго не могуць знайсці. Хлопчык быў здаровы і жыў у шчаслівай сям'і, таму гаворка пра нейкі дзікі, рэдкі, страшны выпадак.

Бацькі і бабуля хлопчыка вераць у цуд, што Максім яшчэ знойдзецца.

**СГ**

# Маці і двое дзяцей памерлі ў Беразіне пасля родаў дома



Следчыя высвятляюць абставіны смерці двух дзяцей і іх маці пасля хатніх родаў у Беразіне, паведамляе прэс-служба СК.

Увечары 28 верасня ў рэанімацыйнае аддзяленне раённай бальніцы з крывацёкам была шпіталізавана 29-гадовая жанчына.

Яе ў цяжкім стане пабачыла сваячка і паведаміла ў хуткую. На месца скіравалася медыцынская брыгада і ў прымусовым парадку даставіла ў шпіталь — жанчына адмаўлялася ад шпіталізацыі. Падчас абследавання пацыенткі ў рэанімацыйным аддзяленні медработнікі выявілі сляды нядаўніх родаў. Праз некалькі гадзін жанчына памерла ў бальніцы.

Дадому да парадзіхі адправілася следча-аператыўная група. Група пабачыла ў ванным пакоі дзвюх нованароджаных дзяўчынак без прыкмет жыцця. Устаноўлена, што жанчына хавала сваё становішча і не была на ўліку па цяжарнасці і родах. Яна і нарадзіла дома дзвюх дзяўчынак.

Следчыя апытваюць сваякоў, суседзяў, збіраюць матэрыял, які характарызуе сям'ю. Жанчына жыла разам з мужам і шасцігадовым сынам.

Муж заявіў следчым, што пра цяжарнасць жонкі не ведаў. Калі яна нараджала, яго і сына ў кватэры не было.

## Папулярны расійскі відэаблогер памёр ад укусу самай атрутнай у свеце змяі ў жывым эфіры

Відэаблогер Арслан Валееў праславіўся дзякуючы сваім каналам на Ютубе: пра вялікіх дзікіх котак «BobCat TV» і пра рэптылій «Прыватны экзатарыум». Пасля сваркі з жонкай ён у жывым эфіры атрымаў укус атрутнай змяі.

Чорная мамба — самая атрутная змяя ў свеце нароўні з сетчатай карычневай змяёй. Яе ўкус смяротны для чалавека, калі своечасова не ўвесці антыдот. Арслан Валееў атрымаў укус менавіта гэтай змяі, перадаюць расійскія СМІ.



Арслан Валееў з жонкай.

У ноч на 23 верасня ў жывым эфіры блогер распавядаў пра чорную мамбу, якая ў нейкі момант нанесла яму ўкус. Падпісчыкі, якія назіралі за жывым эфірам, выклікалі хуткую дапамогу.

Лекары адвезлі Арслана ў бальніцу ў крытычным стане. Медыкі зрабілі ўсё магчымае, але выратаваць натураліста ім не ўдалося.

Паведамляецца, што спрэчка Валеева з былой жонкай прывяла блогера ў моцнае засмучэнне. Ён раўнаваў дзяўчыну, аднойчы нават нібыта дазволіў сабе падняць на яе руку (так, прынамсі, сцвярджае сама былая жонка, доказваючы свае словы медыцынскімі дакументамі). Пазней Арслан апублікаваў у адной са сваіх сустрэч... полак публічны зварот да Кацярыны Пятыжкінай, у якім папрасіў у яе прабачэння за ўсё зробленае.

«Перад табой ужо не раз прасіў прабачэння. Папрасіў прабачэння і публічна. Перад публікай таксама прашу прабачэння, я не робат для прыборкі за жывёламі і генерацыі відэа, я чалавек, даволі слабы характарам», — напісаў блогер напярэдадні сваёй гібелі ў эфіры.

Нязменны тэлевядучы праграмы «У свеце жывёл» Мікалай Драздоў пракаментаваў трагедыю. Паводле яго словаў, у жывым эфіры ўвага губляецца, а чорная мамба — змяя хуткая і бязлітасная.

«У жывым эфіры губляеш увагу, адцягваешся на здымку. Вельмі небяспечна. Мяне адзін раз укусіла змяя, на здымках гадзюка была, праляжаў у бальніцы. У эфіры лепш са змеямі не выступаць. Мамба — вельмі спрытная і хуткая, кусае імгненна», — заявіў Драздоў.

Ілья Параскевіч

## У Расіі сям'я канібалаў рабіла з ахвяраў закаткі



Супрацоўнікамі праваахоўных органаў ужо даказана сем эпізодаў жорсткіх забойстваў.

Супрацоўнікі паліцыі высветлілі, што на тэрыторыі Краснадарскага края Расіі дзейнічала сям'я злачынцаў, якая з 1999 года выкрадала, забівала і па частках з'ядала сваіх ахвяр. Апроч таго, з забітых падазраваныя рабілі закаткі.

Праваахоўнікі ўжо змаглі давесці дачыненне канібалаў да гібелі сямі чалавек. Паводле інфармацыі *Life.ru*, целы забітых ужо знойдзеныя.

Паводле папярэдніх звестак, муж і жонка могуць мець дачыненне да знікнення 30 чалавек.

Усе матэрыялы перададзены ў Следчае ўпраўленне Следчага камітэта па Краснадарскім краі. Меркаваныя злачынцы затрыманыя.

## Пінчук памёр у аўто пад Масквой

Сваякі вырашылі не спыняцца і паехалі з трупам дахаты.

У Пінску каля будынка цэнтральнай бальніцы ў аўтамабілі *Toyota Avensis Verso* выявілі труп мужчыны. Афіцыйны прадстаўнік УУС Брэсцкага аблвыканкама Сяргей Дучэнка пракаментаваў для *sb.by*:

— Вызначана, што 41-гадовы пінчук разам са сваякамі знаходзіўся на заробках у Маскоўскай вобласці. Па дарозе дадому, на 41-м кіламетры Маскоўскай кальцавой дарогі, ён памёр. У сваю чаргу сваякі вырашылі не ставіць у вядомасць дзяржаўныя органы Расеі пра здарэнне, баючыся, што працадаўца ім не заплаціць. Самастойна яны перавезлі труп у Пінск. Па факце смерці грамадзяніна праводзіцца праверка.

## У Валожыне конь пакусаў аўтамабіль

У Валожыне конь пакусаў аўтамабіль мясцовай жыхаркі, жывёлу шукаюць, паведамілі ў ДКСЭ па Мінскай вобласці.

У верасні ў міліцыю звярнулася жыхарка горада Валожын з заявай аб пашкоджанні яе асабістага новага аўтамабіля *Renault Duster*.

Для высвятлення ўсіх абставін у складзе следча-аператыўнай групы на месца выехаў і эксперт-крыміналіст Дзяржкамітэта судовых экспертыз. Вынікі агляду пашкоджанняў на аўтамабілі аказаліся нечаканымі. Гэта былі сляды ад зубоў жывёлы, імаверна каня.

З аднаго боку, эксперт выключыў факт злачыннага дзеяння чалавека. Але з другога — цяпер супрацоўнікам Валожынскага РАУС неабходна знайсці вінаватую жывёлу, якой аўтамабіль прыйшоўся да смаку, а таксама яе гаспадара.




## Як у Іванаўскім раёне ратавалі каня, які праваліўся ў калодзеж

Інцыдэнт адбыўся 24 верасня ў вёсцы Варацэвічы каля 8 гадзін раніцы.

Напярэдадні мясцовы жыхар прывязаў жывёлу для выгулу. Закінуты калодзеж побач быў закрыты дошкамі. Калі конь прайшоў па іх, дошкі зламаліся. Жывёла правалілася ў калодзеж, глыбіня якога каля 5 м.

Ратавальнікі спачатку адпампавалі ваду, а затым з работнікамі ААТ «Снітава-Агра» пры дапамозе аўтапагрузчыкаў раскапалі грунт вакол, знялі некалькі верхніх калцоў і дасталі каня на паверхню.

Жывёла атрымала нязначныя раненні, пасля агляду ветэрынарам яе накіравалі ў стайню.

УШ

# «Гэта дарога вечная»

## Беларускія брукаванкі. Вандроўка 1

Без дарогі не было б цывілізацыі. Гэта вядома з часоў Старажытнага Рыма. І рымскія дарогі дагэтуль паказваюць турыстам ад Брытаніі да Ізраіля. Па іх рухаліся войскі, гандляры, кур'еры з пошатай і загадамі імператара. Яны былі артэрыямі, па якіх бегла кроў дзяржавы, яднаючы разрозненыя правінцыі ў адзіны арганізм.

Рымляне брукавалі дарогі камянямі. Былі брукаваныя тракты, хоць і пазнейшых часоў, і ў Беларусі. Яны яшчэ захаваліся шмат дзе на нашай зямлі.

Ідэя расказаць пра гэтую частку нашай гісторыі, паказаць, чым жывуць людзі на старых брукаванках і вакол іх, была ў нас даўно. На заклік фатографа «НН» Сяргея Гудзіліна чытачы з усёй краіны дасылалі нам інфармацыю пра свае брукаванкі. Складалася база. Але праект мог бы і застацца ў катэгорыі прыгожых ідэй, калі б не *Volkswagen* у Беларусі, які прапанаваў нам навюткі *Volkswagen Polo* для падарожжа па старых брукаванках.

У некалькіх публікацыях мы пакажам вам гэтыя старыя дарогі і месцы, якія маглі б стаць выдатнымі турыстычнымі маршрутамі. Паехалі!

### Тут быў Багдановіч

Першая наша вандроўка — на паўночны захад ад Мінска, у азёрны край, на Мядзел і Вілейшчыну. І на шляху да першага яе пункта мы вырашылі праехаць праз Ракуцёўшчыну — фальварак, у якім правёў лета 1911-га Максім Багдановіч. Далятаем па маладзечанскай шашы да Краснага, каля царквы зварочваем направа пад гару.

Ад часоў Багдановіча засталіся два клёны на пагорку і вялікі ясень у двары, якія радуюць яскравымі восеньскімі фарбамі. Мала ў Беларусі месцаў, як Ракуцёўшчына, дзе можна пабачыць, як жыла дробная шляхта ў канцы XIX стагоддзя. Сядзібны дом, флігель для гасцей, пуня з рознымі гаспадарчымі машынамі... Будынкаў было больш — былі свіран, стайня, склеп, але ўсё гэта згарэла ў 2002-м.

У Ракуцёўшчыне адна супрацоўніца, яна зробіць вам грунтоўную экскурсію. Яна ездзіць сюды на працу з Маладзечна, электрычкай, і ад станцыі Уша ідзе 25—30 хвілін. Гэй, мінчукі, вы ўсё яшчэ наракаеце на даезд да працы?




Каля фальварка. У цэнтры — ясень, які расце тут з часоў Максіма Багдановіча.

Трэнд гэтай восені — грыбы. Паркуючыся ўзбоч ракуцёўскай сцежкі, заўважаем у акенцы парктроніка сімпатычны падасінавік. Можа быць, ён вырас таму, што Максім пашкадаваў хараство ягонага прапрадзеда?

### Французскі брук

Пасля невялікага квэсту па блытаных ракуцёўскіх вуліцах выязджаем на Чысць. Наш кірунак — вёска Седзіца ў ваколіцах Вілейскага вадасховішча. І тут нашага Пола, як мы ахрысцілі спрытны вішнёвы *Volkswagen*, чакае першае выпрабаванне — выбітая вільготная гравейка праз лясны і балотны заказнік. Пол добра слухаецца руля і тармазоў на непрадказальнай дарозе (дзіва што — тармазы дыскавыя на ўсіх чатырох колах), падвеска маўчыць на выбоінах, якія не ўдалося абмінуць. Так даязджаем да Седзіцы. А там — асфальт...

Але сівы дзядзька махае рукой у бок цэнтра вёскі: едзьце, там засталося бруку метраў пяцьсот. Нібы спецыяльна для нас пакінулі.

Забрукаваная вуліца глядзіцца арыстакратычна: акуратныя хаты, дубовыя прысады, дробны брук. *Volkswagen* ідзе па ім з ціхім буркатаннем падвескі. Вібрацыя не перадаецца на стырно, чаго я пабойваўся. Дзе-нідзе ўзбоч вуліцы — чорныя пні ад дрэваў у некалькі абхватаў, якія нарадзіліся, жылі і памерлі абапал брукаванкі.

Гэтую беларускую пастараль сваім выглядам дапаўняла і адзіная сялянка, сустрэтая на вуліцы: «выходны» плашч, прычо-

**Ракуцёўшчына**

Вёска ў Маладзечанскім раёне. Тут быў фальварак шляхціца Лычкоўскага, у якога пражыў лета 1911 года Максім Багдановіч. Паэт вырас у сям'і беларусаў у Яраслаўлі, а кожны прыезд у Беларусь быў для яго нібы глытком паветра. Тут ён напісаў 17 вершаў — у тым ліку паэму «Вераніка», якую мы ведаем у геніяльнай версіі «Песняроў».



ска, падфарбаваныя вусны. Едзе на пошту. «Як такія маладыя, то і я з вамі пастаю», — гуллiва сказала яна, злазячы з ровара. Паміж скаргамі на тое, што ў Седзіцы цяпер мінскіх дачнікаў болей, чым сваіх дзяцей, яна агучыла і першую версію таго, хто гэтую дарогу клаў: «Французы. Была вайна, яны былі тут». Так і ўяўляецца, як бравыя напалеонаўскія жаўнеры пад спевы «Марсельезы» брукуюць дарогу ў Седзіцы.

Якіх толькі версій мы не пачулі ў падарожжы! Дзесьці дарогу «брукаваў» рускі генерал, дзесьці — асабіста яго вялікасць цар Мікалай II, дзесьці — шведы. На самай справе большасць вілейска-мядзельскіх брукаванак з'явілася ў 1921—1939 гадах. Кожны гаспадар збіраў на сваім полі камяні, бо меў абавязак выбрукаваць участак дарогі насупраць уласнага двара.


Сучасны вясковы трэнд — ровары з пластыкавымі скрынкамі на багажніку.

### Вязынскія знакамітасці

Пасігналіўшы на развітанне спадарыні на ровары, кіруемся ў мястэчка Вязынь. Мястэчка старое, налічвае пяць стагоддзяў гісторыі. Сярод асфальтаваных вуліц ацалела адна забрукаваная, якая вядзе да праваслаўнай царквы. Каля яе, ціха фуркнуўшы, спыняецца наш Пол. Па сярэдзіне шырокай брукаванкі ідзе нават «раздзяляльная паласа», зробленая з большых камянёў.

На месцы царквы некалі стаяў касцёл, аднак пасля паўстання Каліноўскага яго разабралі і паставілі праваслаўны храм. Пра касцёл нагадваюць старыя каталіцкія могілкі і вуліца каля іх, якая па-мясцоваму называецца «Клебанея» — ад слова «плябань».

Ёсць у Вязыні і адносна новая (1908 года) неагатычная каталіцкая капліца, але архітэктурна ў мястэчку ўражвае іншае — маштабныя руіны савецкага спіртзавода.

Мясцовыя прыгадваюць яго з цеплынёй.

«Мы туды і мыцца хадзілі, і па брагу, — расказала нам Ніна, тутэйшая. — Вельмі шмат цукру было, мы на ім выжывалі. Кралі там усё... У мяне там бацька рабіў, я яму абеды насіла, дык памятаю добра: такая рашотка там была, за ёй слоік літровы на дроце, ну і з рашоткі — кап-кап-кап. Паелі мужыкі, за дрот падцягнулі той слоік... Ну а там жа сырэц (пяршак, акавіта — **НН**) — і п'юць. І ніхто не паміраў. Бацька, вунь, 82 гады пражыў, усё жыццё там прарабіўшы...»

Каля Вязыні пачынаецца Вілейскае вадасховішча, месцы тут маляўнічыя, дачныя, прыцягальныя для багемы. На іншым беразе шырокай тут Віліі — у вёсцы Кучкі — лецішча беларускай тэледзівы Святланы Бароўскай. «Бывае, прыязджаюць сюды, такія феерверкі робяць!» — дзеляцца ўражаннямі вязынцы.

У катэджах тых яны бывалі, дапамагаючы аднаму бацюшку свяціць хаты па Калядах. Цяпер бацюшка ляжыць з інсультам. Дарэчы, як сцвярджае вясковая плётка, сэрца старога не вытрымала сустрэчы з інспектарамі Рыбнагляду, якія злавілі яго з сеткай. Але цяжка сказаць, ці было так насамрэч.


**Нацыянальны парк «Нарачанскі»**

У ім 40 азёраў, найбольшае з якіх — Нарач. Створаны ў 1999.

**Вілейскае вадасховішча**

Найбуйнейшы ў Беларусі вадаём, частка Мінска-Вілейскай воднай сістэмы. Мае плошчу 73,6 кв.км, змяшчае 260 млн кубаметраў вады. Будавалі яго аж сем гадоў — з 1968 да 1975.




### Клебанея, Рыбчанская…

Цікава таксама, што языкі вязынцаў не прамаўляюць афіцыйныя назвы вуліц. Побач з прапісанымі на шыльдах, бытуюць ранейшыя. «Гэта вуліца Клебанея, бо некалі плябань стаяла ў пачатку, — расказалі нам азы мясцовай тапаграфіі, хаця плябані ўжо два стагоддзі няма. — Там вуліца Астроўскіх, дзе напісана «Кастрычніцкая», бо там Астроўскія жывуць. А там — Рыбчанская». Рыбчанскай вуліцу называюць, бо там жывуць перасяленцы з Рыбчына — вёскі, якую знеслі, калі будавалі Вілейскае вадасховішча. Нам расказвалі вусціпшныя гісторыі пра тое, як пераносілі ў Вязынь рыбчанскія могілкі, залiваючы іх бетонам. Вузенькая вулічка Астроўскіх, якая ідзе ўздоўж ракі, таксама, дарэчы, забрукаваная.

На выездзе з мястэчка нам сустрэлася вязынская «дама з сабачкам» — немаладая жанчына з сімпатычным дварняком на вяроўцы.

«Дзеці пераймалі мяне, абзывалі, калі хадзіла ля школы. Дык дырэктару паскардзілася: дзе дысцыпліна? Але што яна там зробіць... Таму завяла сабаку, і цяпер тыя гадасці не абзываюцца, кажуць толькі, што Дама з сабачкам, а ён ахоўнік мне цяпер. Ашыйніка чаму няма? Крадуць! Ён толькі з дзецьмі ахоўнік, а ў краму пойдзеш: возьмуць, адчэпяць — і ўсё. Адзін раз і ланцужок забралі, а яго пусцілі».

**Плябань**

Плябань, або плябанія — так называлі дом святара, які звычайна стаяў блізка храма.

### Філістовіцкія мясціны

Далей мы кіруемся на Паняцічы. Дарога туды запамінаецца: на поўнай хуткасці даводзіцца зрабіць віраж, каб аб'ехаць вавёрку. А яна сабе трушчыць шышку проста на дарозе і не збіраецца адцягвацца на розную дробязь.

Яшчэ за сялом наганяем мясцовага дзядзьку з поліэтыленавай торбай грыбоў. На пытанне пра сёлетнія грыбныя ўраджаі выказваецца мацерна і махае ў бок адзінай забрукаванай (і адзінай у прынцыпе) вуліцы. Адметна, што другі сустрэты тутака ж сказаў, што ў лесе «грыбоооў — хоць нагамі падбівай».

Добра мець блiскучы вішнёвы *Volkswagen*: спыняешся ў цэнтры бязлюднай, здавалася б, вёскі — і вакол усе збіраюцца. Падышлі дзве тутэйшыя жанчыны і пенсійнага веку мужчына — не мясцовы, купіў хату за пяць тысяч даляраў ды цяпер абжывае.

**Вугор**

Драпежная рыбіна, дасягае 2 метраў даўжыні. Жыве ў Нарачы, але пладзіцца плыве ў Саргасава мора. Пасля нерасту вугры гінуць, а лічынкі, што выводзяцца з ікры, з Гальфстрымам за тры гады трапляюць да берагоў Еўропы.

Якія ў Паняцічах славутасці? Ды, апроч брукаванкі, толькі адна: жанчына пад 90 гадоў, якая трымае карову, што не доіцца па старасці. Але гаспадыня шкадуе здаць сяброўку на мяса. Яна аддае добрую долю пенсіі мясцовым вышівохам, каб касілі ды сушылі сена той карове на зіму.

«А ў нас тут у лесе атрад быў! — раптам з прыхаваным гонарам выгукае старэйшая з нашых суразмоўцаў. — І кніга пра іх ёсць — «Па воўчых сцежках»!»

Землякі яшчэ помняць Янку Філістовіча — антысавецкага партызана адсюль родам, які пасля вайны трапіў на Захад, а ў 1951-м быў амерыканцамі закінуты з парашутам у БССР.

Працяг на старонцы 14.

# «Гэта дарога вечная»

## Беларускія брукаванкі. Вандроўка 1

**Працяг са старонкі 13.**

«Я малая была, — прыгадала жанчына. — А той Філістовіч з нашай вёскі быў, але хаты іхняй больш няма. Дык памятаю, у лес нельга было хадзіць, як іх лавілі. Там міліцыі поўна было, НКВД. Каторы быў Ян, ён арганізоўваў усіх — яго гэта лавілі. Ён быў зайшоўшы да аднакласніка, а там аблава. Ён толькі лямпачку паспеў разбіць, але не ўцёк. Іх пасля прывезлі да канторы, пабітых усіх... А так... Шкоды яны людзям не чынілі. Ён казаў, што камуністаў не любіў, ненавідзеў іх проста... што і цэрквы забаранілі, і ўсё гэта... Яго на хутары людзі апранулі нават, далі яму адзежу замяніцца. Таму я не скажу, што да Філістовіча тут непрыязнь нейкая была».

Успомніўшы пра старыя крыўды паміж камуністамі і іх праціўнікамі, жанчына не забыла і пра свае.

«Мы тут старыя, вы напішыце, як нас дураць. Як балон газу вязуць — то ў лесе стануць, адпампуюць частку, і без пломбы прывозяць! Я ўжо навучаная, а неяк да дзеда зайшла суседскага — аднаго вока ў яго няма, другое зусім трохі бачыць. Ну і яму такі ж самы балон ставяць. А я ўступілася, кажу: вы яму дайце з пломбай! Дык яны цяпер помсцяць, напісалі ў сваіх паперах, што ў мяне пліты няма дома, і я цяпер не магу балона выпісаць», — пажалілася старая жанчына.

Яна баптыстка. «Я люблю маліцца. А царква доўга была зачынена, дык, як баптысты прыехалі, пайшла да іх». Праваслаўная царква і баптысцкі малельны дом (звычайная хата, абкладзеная сілікатнай цэглай) у Паняцічах стаяць побач, у цэнтры вёскі.

Пасля паспрабаваў скардзіцца дарожнік, але сустрэў нечаканы адпор аднавяскоўак:

— Ці зменіцца што пасля вашага візіту? Вось каб асфальт нам паклалі, — сказаў ён.

— Няблага нам і брук! Я маладой паштальёнкай ездзіла, і цяпер праеду, калі закіну нагу.

— І як па ім ехаць?

— Нармальна!

— Ты горшых не бачыў яшчэ, — падключылася другая.

— І дзе горшыя?

— А там, дзе машынамі ўсё павыбівана.

— Дык падсыпаць не трэба будзе... — не здаваўся былы дарожнік.

— Дык і гэты падсыпаць не трэба! Гэта дарога вечная! І вада не стаіць, і дзірак няма.

### Кацярынінскі шлях

У Вілейку мы трапляем пад вечар у пятніцу. І не знаходзім, дзе ў цэнтры згаладаламу падарожніку пад'есці. Сталоўкі зачыненыя, кавярні на спецабслугоўваннях, у бары прапануюць сухарыкі. З роспачы едзем на запраўку і наядаемся распушчальных супоў.

Сонца хіліцца на захад, а мы пад'язджаем да вёскі Касута, дзе, як інфармавалі нас чытачы, таксама ёсць брукаванка. У Касуце, дарэчы, нарадзіўся гетман Піліп Орлік, аўтар першай украінскай канстытуцыі.

Касута сустракае нас гладзенькім асфальтам. Аказваецца, брукаванку мы праехалі. Тутэйшы чалавек падказвае, што побач з Касутай ляжыць кавалак Кацярынінскага шляху — старога гасцінца. Паваротка на яго пазначаная гіганцкай таполяй — такое




**Кацярына II**

расійская імператрыца (1762—1796). Пры ёй адбыліся падзелы Рэчы Паспалітай, у выніку якіх беларускія землі былі далучаныя да Расійскай Імперыі.

Паваротка на Кацярынінскі шлях пад Касутой пазначана гіганцкай таполяй.



**Царква ў Кастыках**

Храм у імя Сарака Севастыйскіх мучанікаў быў пабудаваны ў 1756 годзе. Помнік драўлянага народнага дойлідства з элементамі класіцызму.



**Піліп Орлік**

гетман Войска Запарожскага, складальнік яго «Канстытуцыі правоў і вольнасцяў». Яго сын асеў у Францыі, меў графскі тытул. Ёсць версія, што славуты аэрапорт Арлі называецца так, бо быў збудаваны на землях Орлікаў.

Мемарыяльны знак Піліпу Орліку ў Касуце.



Функцыя аўтаматычнага ўключэння фар: з дапамогай датчыка святла фары самі загараюцца з надыходам змяркання.

вялізнае дрэва рэдка ўбачыш. Яго галіны маглі б быць ствaламі самастойных дрэваў, а ўверсе між іх расце невялікая арабінка. Задумляемся, ці магла таполя памятаць тую расійскую царыцу, што, згодна з легендай, ехала тут з Пецярбурга ва Украіну, аглядаць новадалучаныя землі.

Цяпер па Кацярынінскім шляху можна праехаць хіба роварам за грыбамі. Брукаванка месцамі прабіваецца з-пад апалага лісця і дзірвана. Шлях, падказалі нам у Касуце, сыходзіць проста ў Вілейскае вадасховішча. Ад такога прыгожага кадра мы не маглі адмовіцца, і доўга дабіраліся да берага праз поплаў, які сочыцца крыніцамі. Але брукаванка надзейна пахаваная пад чорным глеем ад разліваў вадасховішча.

З Касуты брукаванка ідзе на Крывое Сяло. Яно, дарэчы, называецца так не ад чыёйсьці крывізны, а ад племені крывічоў. І яно выяўна розніцца ад раней спатыканых намі дачна-пенсійных вёсак. Тут ёсць моладзь, дзеці, гаспадаркі. Маладая мама весела гоніць карову з пашы.



76-гадовы Раман з вёскі Пагост, хоць і страціў нагу, а па-ранейшаму абрабляе гектар зямлі.

### Курганы не раскопваць

Змяркаецца. І наш нямецкі калега Паўль сам уключае галагенавыя фары, якія стаяць у рэжыме «Аўта». Ужо ў прыцемку трапляем у вёску Кастыкі. Па досыць працяглым кастыцкім бруку даязджаем да царквы. Калі б вакол не была скошаная трава, быў бы проста краявід з англійскіх серыялаў, кшталту «Айца Браўна»: невялікі храм і цвінтар з шэрымі плітамі старых надмагілляў.

З брамкі выходзіць жанчына, якая нібы выйшла са старонак Конан Дойла, якая строга на нас глядзіць і папярэджвае пра адказнасць за раскопванне старых курганоў, якія тут жа, за царквой.

Царкве ў Кастыках хутка 300 гадоў. У савецкі час яна была зачыненая, мясцовы люд разабраў па хатах абразы і хаваў да 1990-х, калі царкву зноў адчынілі.

«Да 1937 года ў нас настаяцелі мяняліся вельмі часта і прыход упаў маральна, — пісаў у 1938 пра Кастыкі заходнебеларускі часопіс «Хрысціянская думка». — У 1937 годзе прыехаў у наш прыход а. А. Коўш. Ад першага дня яго прыезду мы пачулі ў ім блізкага да нас духам настаяцеля. Мы чуем на кожнай Службе Божай навуку ў роднай беларускай мове. Настрой маральны і духоўны падняўся. Калі раней славілася вёска п'янствам і разбоем, дык сёння год, як пра гэта ніхто не чуе». Цытата змешчаная на інфармацыйным стэндзе каля храма. Такія стэнды — адзнака Вілейскага раёна. Добрая ініцыятыва.

Прыгожая і суседняя вёска Кумельшчына. Яе брукаваная вуліца ляжыць абок верасовай пусткі на беразе Вяллі.

### Гарадзішча

Пераначыўшы ў Крывічах, наступнай раніцай мы працягваем наша падарожжа ўжо Мядзельшчынай. І першы пункт — вёска Гарадзішча. Яна стаіць на схіле, уласна, гарадзішча — высокай гары, на якой з незапамятных часоў жылі людзі. А 8-й раніцы вёска яшчэ спіць. Толькі рэдкія чародкі курэй корпаюцца пад кустамі. Людзі пастарэлі, згарнуліся гаспадаркі — і змяніўся распарадак вясковага дня: раней галодныя каровы ды свінні не далі б залежацца ў ложку так доўга.

Ад крутога зігзага-паварота праз Гарадзішча ляжыць брук. Ён ідзе да канца вёскі, міма могілак, на якіх заўважны высокі помнік з бронзавым барэльефам: профіль маладога мужчыны з пышнымі кучарамі. Гэта Мікола Пашкевіч, мясцовы настаўнік і падзвіжнік, якому Васіль Быкаў прысвяціў аповесць «Абеліск».

Як успамінаў пісьменнік, Пашкевіч часта пісаў яму, прычым гнеўна і без піетэту. Ён дакараў, што літаратары засядзеліся ў Мінску, зазналіся і не хочуць сустракацца з чытачамі. У выніку такога маркетынгу ў Сваткаўскай школе пабываў увесь цвет тагачаснай літаратуры: Быкаў, Караткевіч, Мележ, Шамякін, Гілевіч, Барадулі.... Пашкевіча без пары забрала анкалогія.

Брукаванка абмінае могілкі і бяжыць далей у падлеску. Гэта старая дарога на Сваткі, якой Пашкевіч хадзіў на працу ў такія пагодныя восеньскія дні. Яна губляецца між пераараным полем і шчыльным ельнікам.

### Наўры і Даўжані

Каб трапіць у Наўры, дзе, па нашым меркаванні, таксама можа быць брукаванка, збочваем з трасы направа. Дарога палявая з пераходам у лясную. *Volkswagen* асцярожна абрульвае глыбокія лужыны, ціхім накатам, каб не буксануць і не сесці, ідзе па першай восеньскай гразі. Выязджаем на сухое і высокае. Злева — адхон з круглым Наўранскім азярком унізе, справа — старажытныя курганы ў лесе.

Бадзёрая бабуля Соф'я Іванаўна, жыхарка самай першай наўранскай хаты, кажа, што бруку тут ніколі не было. Бо вёска да калектывізацыі была «на хутарах». Яна дзеліцца з намі сваімі назіраннямі за гарадскімі адпачывальнікамі, якія прыязджаюць на Наўранскае.

«Маладыя цяпер дурненькія, кажуць — кажуць, цяжка жывецца ім. Дык не ведаюць, што такое цяжка. А я маладой дзяўчынкай на ферме даяркай працавала як чорны вол за дзве капейкі, а мужыкі — за дзвесце грам збожжа. Гэта ж пасля вайны справа была. Маці мая, ведаеце, з каровамі... як гэта сказаць папростаму... шпікуліравала! Купіць у Паставах танней, а ў Даўгінаве прадавала. Ну і пяшком мая матка, босенькая, па гэтым жвіры, 70 кіламетраў... вой, заплачу зараз... Гнала тую карову, каб прадаць, і назад з Даўгінава. У мяне ж і хата ля возера, летам бачу: прыходзяць маладыя, камароў кормяць, плаваюць. А мы ж у свой час хіба ляжалі? Туды толькі мыцца хадзілі, бо мужык добра, калі пасля змены да хаты дацягнецца, гэта ўжо, лічы, адпачынак. Так што, не блага жыць цяпер!» — сказала яна.

Таксама Соф'я памятае, як бацька яе прадаваў яблыкі ажно ў Вільні — спазаранку ехаў на кані. Кажа, з тых часоў памятае прыказку: «Ад кожнага парога да Вільні дарога».

А брукаванка захавалася ў суседніх Даўжанях. Але засыпаная паверсе жвірам. Толькі ў выбоінах бліщчыць шчыльна пакладзенае круглае каменне. Пачынаем разумець, што Беларусь — краіна ідэальна законсерваваных брукаванак. Недзе яны пад жвірам, як тут, недзе залітыя асфальтам. Але жвір рана ці позна размые дождж, асфальт спаўзе, а бруку што зробіцца?

**Наўры і неўры**

«Неўрамі» першы ў свеце гісторык Герадот, які жыў у Грэцыі ў V ст. да н.э., называў плямёны, што насялялі сённяшнюю Беларусь. Ён сцвярджаў, што раз на год неўры ператвараюцца ў ваўкоў.

### Апошнія жураўлі

Праз Сваткі, якія запамінаюцца самай смачнай вадой у калонках і самымі высокімі «ляжачымі паліцэйскімі», міма царквішча ад спаленага ў апошнюю вайну храма XVIII стагоддзя, кіруем на Старынкі і Андрэйкі.

За Замошшам, малой радзімай пісьменніцы Марыі Роўды, ляжаць клеткі асушаных тарфянікаў. Ну, асушаных умоўна: каналы поўныя вады, буяе расліннасць. Зводдаль заўважаем пару жураўлёў, якія нагульваюць апошнія калоры перад далёкай вандроўкай у выраі. Гудзілін ловіць іх аб'ектывам-«тэлевікам». Жураўлі становяцца на крыло і адлятаюць. Мы рушым далей — і літаральна праз пару метраў з прыдарожнага канала ўскідваецца белая чапля.

У Старынках бачым, як мясцовы чалавек рассякае па брукаванцы на квадрацыкле. Традыцыі і сучаснасць, як кажуць.

У Андрэйках ад раніцы на вуліцы толькі адзін чалавек быў — 73-гадовы Мікалай. Ён нёс дадому кветкі: кажа, люблю вельмі, схадзіў нарваць.

Мікалай тут адзін з апошніх карэнных жыхароў, бо хто памёр, хто з'ехаў, засталося дзесяць чалавек.

«Гэта мікалаеўская дарога. Яе за рускім царом будавалі!» — расказвае ён, аддаўшы нам свае кветкі.

### Дарога да Вузлянскага млына

З Андрэек едзем у Вузлу (правільна казаць «на Вузлу», навучылі нас). Каля руінаў цаглянага млына XIX стагоддзя (два паверхі ўніз, на дне валяецца жалезнае зубчатае кола ў рост чалавека, як шасцярня ад веліканскага гадзінніка) шуміць рака Вузлянка. Побач мясцовыя майстры на ўсе рукі рамантуюць драўляны масток. На другім беразе — узвышша з парэшткамі дамбы, зарослае кустоўем. Да млына таксама вяла брукаванка. Выйшаўшы з зараснікаў, яна ідзе пад гару міма раённага лясніцтва, робіцца чыстай і роўнай, як у дзень пакладкі. Колькі вазоў з хлебам прагрукаталі па ёй за два з паловай стагоддзі!

Цяпер адзіны жывы бізнэс на Вузле — байдарачны сплаў.

Вельмі доўгая прыгожая брукаваная вуліца і ў суседніх Брусах.

Так незаўважна мы даехалі да Нарачы.

### З караламі на шыі

Брукаванка знайшлася ў вёсцы Мікольцы, якая ідзе паралельна возеру. Заўважаем незвычайную карціну: жанчына ў святочным уборы (светлы капялюш, жамчужныя каралі на шыі) рамантуе брук, засыпаючы ямы дробным каменнем. Яна афіцэрская ўдава, паездзіла за мужам па вайсковых гарадках усяго Саюза. Цяпер вярнулася на бацькоўскую сялібу.

Працяг на старонцы 16.

**Брукаўшчыкі**

Брук у Беларусі клалі да 70-х гадоў. У пасляваенныя гады дужыя мужчыны маглі на ёй зарабіць добрыя грошы. Але старшыням калгасаў адыход дужых мужыкоў на заробкі быў нявыгадны. Іх прыцяснялі: абразалі соткі, не давалі сена — рабілі ўсё, каб вярнуць працоўную сілу ў калгас.

# «Гэта дарога вечная»

## Беларускія брукаванкі. Вандроўка 1

**Працяг са старонкі 15.**

«Мне семдзесят тры, я не памятаю, як гэты брук клалі, але памятаю, як мне двор заліло з-пад колаў машыны нейкай, калі яна па рытвінах гэтых пранеслася. Я вось назбіраю камення на гародзе, тачкай завязу, высыплю, зацырую... — кажа яна. — Вы ж з газеты? Лічыцца, што тут нарачанскі бераг, дэндрарый побач, аптэкарскі сад... А вёска горш як на хутары. Вужакі поўзаюць па клубе! Вось толькі нейкі бізнэсмен купіў хату адну, другую, трэцюю пабудаваў... Дык ён акультурвае неяк, пасля здае за даляры. А ў астатнім...» — махнула яна рукой.

### Даўгінава, Пагост

З Мікольцаў робім вялікі скачок аж за Даўгінава. Гладкая траса, абапал нарачанскія сосны, апетыя Максімам Танкам (яго родная Пількаўшчына тут побач) — самы час пратэсціраваць круіз-кантроль нашага *Volkswagen*. Разганяемся да 99 км/г, цiснем кнопку фіксацыі хуткасці — і можна здымаць нагу з педалі. Пол акуратна трымае хуткасць, нягледзячы на бясконцыя пад'ёмы і спускі.

Наступная наша брукаванка — за Даўгінавам, у вёсцы Пагост. Такія дэпрэсіўныя на першы погляд назвы частыя ў Беларусі. Але пазначалі яны ад Сярэднявечча цэнтральнае паселішча — месца, куды з наваколля звозілі даніну для князёў, куды з'язджаліся «госці». Брук тут таксама праходзіў артэрыяй праз усю вёску, але частку закаталі ў асфальт — вялікі транспарт разбіваў дарогу.

Пагостаўскі брук адметны яшчэ і тым, што апроч раздзяляльнай паласы пасярэдзіне майстры выбрукавалі вялікімі камянямі межы гаспадарак. Уся дарога падзеленая на прастакутнікі. Гэта зроблена для таго, каб не было між суседзямі спрэчак, каму дзе прыбіраць. Даўней сачылі за парадкам, штрафавалі за бруд і бадыллё каля плота.

Падыходзім да аднаногага чалавека ў інвалідным вазку, які сядзіць пры дарозе, каля сваёй сялібы. Заўважаем на падворку трактар з культыватарамі і ўазік. «Можа, і зямлю абрабляеце?» — дзівімся.

«Якая там зямля... Толькі адзін гектар, — сціпла кажа 76-гадовы аднаногі спадар Раман. — Сею пшаніцу, што здаю, што курэй кармлю сваіх. І пчолы ёсць — праўда, сёлета многа прапала: кляшчы крылы паад'ядалі».

Жыве Раман адзін, жонка памерла. Сын у Мінску — працуе ў МУС. У выходныя бацька чакае сына ў лазню.

«Кебіча ведаеце? — нечакана чапляецца гаспадар за тэму. — Вось ён мне лазню адкрываў. Сябравалі мы з ім моцна. Ой, пілі... Раней неяк падтрымлівалі сувязь, а цяпер састарэў ён, ужо неяк не так мы...»



**Брук клалі на пясчаную падсыпку**

Падбіралі (ці абчэсвалі) камяні, блізкія па памеры, ставілі на рабро шчыльна адно да аднаго, пасля абсыпалі пяском. Патрабавалася майстэрства, каб дарога выйшла роўная і не раз'язджалася ад дажджоў.

### Генерал Стах і катарскі лес

Спадар Раман скіраваў нас у суседнюю вёску Стахі: «Там такі брук вялікі, вы такога не бачылі». Да Стахаў з кіламетр. Брукаванка тут сапраўды незвычайная. Яна выкладзена з вялікіх, круглых, як каравай, камянёў.

Чаму Стахі? Пра гэта нам у досыць акадэмічнай манеры расказаў першы ж мясцовы жыхар, спадар Іосіф Ляшкевіч, які выйшаў на вуліцу да нашага *Volkswagen*. Патлумачыў і прыроду бруку — ён тут вельмі вялікі, як на рымскіх дарогах.

«Вёска наша заснаваная ў 1765 годзе, — казаў ён, у мінулым палявод. — Вайна тут нейкая ішла, ці нешта такое. Ну і генерал Стах тут свой намёт паставіў. Мо ён інжынер быў, не ведаю. Трэба было войскі весці, дарогу рабіць. А месца тут топкае — як глянеце ў студню, то вада праз метр, таму камяні не білі, і яны такія агромністыя. У чатыры слаі іх клалі, я сам бачыў, калі тут драты нейкія цягнулі і частку разабралі. Ну і ад таго Стаха і назва пайшла».

Гісторыкі, дарэчы, тлумачаць, чаму старыя курганы і дарогі мясцовы люд часта прыпісвае то шведам, то французам, то царам, то генералам: гэта такі спосаб зафіксаваць у памяці незвычайныя падзеі мінулага праз прывязку да нейкіх мясцовых аб'ектаў. Вёскі ж звычайна не мелі сваіх летапісаў.

Ёсць у Стахах і свая скарга. «Тут дзяржава Катар узяла ў арэнду зямлю, лес наш на 99 год, — паказаў ён на лес. — Там плот чатырохметровы, столькі грыбоў было... а цяпер — усё. Два разы на дзень машына іх правярае сетку, яшчэ і ток пусцілі, датчыкі руху».

А на другім канцы Стахаў спатыкаем 89-гадовую Уладзіславу Сільвестраўну з маладымі блакітнымі вачыма. Хоць і з калочкам, але яшчэ рухавую. Яна была ў 2-м класе, калі ў Заходнюю Беларусь у 1939-м увайшлі савецкія войскі. Яны рухаліся на Даўгінава і каля Пагоста пастралялі польскіх памежнікаў. Яны, пяцёра дзяўчат-аднавяскоўках, разам з бацькамі былі першымі, хто наведаў «стражніцу», у якой ляжалі пабітыя. Каля памежнага пункту іх — ці то пяць, ці то восем чалавек — і пахавалі. А сёлета будуць перазахоўваць на даўгінаўскім цвінтары.

Праблема ва Уладзіславы Сільвестраўны такая: яе двор залівае дажджавой вадой з навакольных узгоркаў. Вада прарэзала ўжо добрую канаву на дарозе, даводзіцца вакол дварышча насыпаць валы, каб яе не пусціць. А трактара ці экскаватара, выкапаць канаву да ракі, — няма нідзе паблізу.

Спадарыня Уладзіслава ўсё жыццё адрабіла ў калгасе, гаворыць па-беларуску чыста, далікатна, са светлым гумарам, пры нагодзе ўстаўляючы штосьці па-польску ці цытуючы вершык па-нямецку, які вучыла ў школе («раней знала і пераклад, але забылася»).

Ад Стахаў мы кіруем у бок Лагойска. Там, між вёскамі Малыя Нястанавічы і Скароды, проста ў полі, ідзе, віючыся серпанцінам па ўзгорках, чатырохкіламетровая брукаванка. Каб лепей адчуць дух мінулых часоў, мы праязджаем па ёй двойчы. На гэтым наша падарожжа скончанае: *Volkswagen* весела кіруецца ў бок Мінска, як конік, пачуўшы дом. Каля Лагойска на табло загараецца лямпачка: сканчаецца бензін. Бартавы камп'ютар падказвае, што да Мінска яшчэ дацягнем.

Мы праехалі за два дні 500 кіламетраў, спаліўшы 42 літры бензіну, пабывалі на 17 брукаваных дарогах.

Наступная вандроўка будзе ў бок Валожына і Смаргоні.




**Volkswagen Polo**

Рухавік: бензінавы, 1,6.

Магутнасць, Квт/к.с.: 81/110

КПП: 5 Механічная

Асаблівасці камплектацыі: круіз-кантроль, парктронікі спераду і ззаду, аўтаматычнае ўключэнне святла фар, паўнапамерныя франтальныя падушкі бяспекі для кіроўцы і пярэдняга пасажыра, электракіраваныя і электраабагравальныя знешнія люстэркі задняга віду, электраабаграванае лабавое шкло, галагенавыя фары (з магчымасцю замовіць біксенавыя фары і святлодыёдныя ходавыя агні для яшчэ лепшага асвятлення).

Стартавая цана — ад 20 500 рублёў, цана аўто, на якім мы ездзім, — 29 080 рублёў.

# Яшчэ адно шыкоўнае беларускае вяселле зладзілі маладыя ў Гродне

Вікторыя і Міхась Петрусевічы пазнаёміліся тры гады таму. Можна сказаць, выпадкова. Вікторыя падбірала сабе ноўтбук, а Міхась быў тым самым добрым знаёмым брата, які разбіраецца ў камп’ютарах і дрэннага не параіць.

Хутка яны зразумелі, што на адной хвалі. Вікторыя — настаўніца беларускай мовы, Міхась — праграміст, але паколькі сам з палескай глыбінкі, то мова яму была і застаецца вельмі блізкай. На гэтым і сышліся.

«Мы з ім як пазнаёміліся, дык на беларускай мове заўсёды і размаўлялі. Таму, калі Міхась рабіў прапанову, было зразумела, што вяселле ў нас будзе беларускае. Адразу пачалі думаць, дзе адшукаць шлюбныя строі», — прыгадвае Вікторыя.

Была думка набыць звычайную вясельную сукенку і нашыць арнамент, але яе адмялі. Потым была ідэя ўзяць аўтэнтычныя строі ў музеі, але і гэтую думку адкінулі. Тады вырашылі звярнуцца да беларускай дызайнеркі Настассі Фальковіч, якая вырабіла шлюбныя строі для Адар’і Яцэвіч і Паўла Шута.

«Мы ўвялі дрэс-код для гасцей, але, на жаль, не ўсе з ім згадзіліся, — кажа Вікторыя. — Хтосьці сказаў, што цяжка штосьці адшукаць, а хтосьці не знайшоў менавіта тое, што хацеў. Таму атрымалася па-рознаму. Але галоўнае, што частка гасцей усё ж адрэагавала нармальна і прытрымалася дрэс-коду. Мы таксама вырабілі ўсім бутаньеркі: для хлопцаў — бел-чырвона-белую стужку з васільком, для дзяўчат — бел-чырвона-белую стужку з рамонкам».

На цырымоніі ў касцёле арганіст выканаў для маладых «Магутны Божа». Вікторыя запэўнівае, што мурашы па скуры пабеглі ва ўсіх.

Само вяселле маладыя святкавалі ў звычайнай кавярні, але ўпрыгожылі яе палескімі даматканымі ручнікамі, некаторым з якіх ужо пад 80 год.

«Тамада наш хоць і працуе ў гэтай сферы ўжо 25 гадоў, але з беларускай мовай сутыкнуўся ўпершыню, — распавядае Вікторыя. — Ён вельмі харызматычны чалавек, хацелася запрасіць менавіта яго, таму запыталася, ці возьмецца правесці па-беларуску. Сказаў, што паспрабуе. Канечне, вуха калі-нікалі рэзалі рускія словы, але не ў гэтым быў сэнс. Галоўнае, што ён сам атрымліваў ад гэтага кайф. У яго ўсё атрымалася, і людзям таксама спадабалася».

Фатаграфаваў вяселле вядомы гродзенскі фатограф Сяргей Марозаў.

Для гарадзенцаў нацыянальнае вяселле таксама гэтакая разынка, таму Міхась з Вікторыяй трапілі далёка не ў адзін аб’ектыў.

«Мы стаялі ля Катэдральнага касцёла Францішка Ксаверыя і чакалі пачатку цырымоніі. А там побач з касцёлам — пешаходны пераход. Народ пачаў масава спыняцца і фатаграфаваць нас. Было прыемна, канечне. Дарэчы, у касцёле было тое самае. Група палякаў, што прыйшлі туды на экскурсію, стала нас фатаграфаваць. Мы з Міхасём адчувалі сябе сапраўднымі музейнымі экспанатамі», — жартуе Вікторыя.

**Настасся Роўда**













# Кароль Саудаўскай Аравіі дазволіў жанчынам кіраваць аўтамабілем

Кароль Саудаўскай Аравіі выдаў указ, які прадпісвае пачаць выдаваць жанчынам правы кіроўцы да чэрвеня 2018 года.

Да сёння Саудаўская Аравія застаецца адзінай краінай, дзе жанчынам забаронена кіраваць аўтамабілем. Жанчын, што дабіваліся гэтага права, часта арыштоўвалі.

Кампанія за права саудаўскіх жанчын садзіцца за руль аўтамабіля доўжыцца ўжо шмат гадоў, але супраць гэтага новаўвядзення выступалі традыцыйна кансерватыўныя тэолагі.

# Італьянка пабралася шлюбам сама з сабой



Жыхарка Італіі зладзіла незвычайнае вяселле. 40-гадовы трэнер па фітнэсе Лаура Месі арганізавала пышную вясельную цырымонію з тортам і сяброўкамі нявесты, але без галоўнага персанажа — жаніха, паведамляе Бі-бі-сі.

«Я цвёрда ўпэўненая, што кожны з нас павінен у першую чаргу любіць сябе, — кажа яна. — Можна зладзіць сабе казку нават без прынца».

Цырымонія, вядома, не мае юрыдычнай сілы, аднак з'яўляецца паказальным прыкладам сусветнай тэндэнцыі да самастойнага шлюбу, званага «солагаміяй». Прыхільнікі такіх цырымоній кажуць, што гаворка тут ідзе пра любоў да сабе і прынцыпе, і прэтэндуюць на тое ж сацыяльнае ўхваленне, што і традыцыйныя жанатыя пары.




Лаура кажа, што ідэя ажаніцца самой з сабой прыйшла да яе два гады таму, калі распаліся яе 12-гадовыя адносіны з хлопцам.

«Я сказала сябрам і сям'і, што калі не знайду другую палоўку да 40 гадоў, то ажанюся сама з сабой. Калі аднойчы я знайду чалавека, з якім змагу планаваць будучыню, то буду шчаслівая, але маё шчасце не залежыць выключна ад яго».

«Вяселлі» такога роду — выхад не для ўсіх, сцвярджае яна. «Каб ажаніцца з сабой, патрэбная пэўная сума грошай, падтрымка блізкіх і — перш за ўсё — некатораая доля вар'яцтва».

**Nina.nn.by**



## Джон Сноў ажэніцца з Ігрыт

Шатландская актрыса Роўз Леслі і брытанскі акцёр Кіт Харынгтан абвясцілі пра заручыны.

Афіцыйнае паведамленне пра заручыны дзвюх зорак серыяла «Гульня тронаў» надрукавалі ў газеце *Times*.

Да гэтага ў СМІ хадзілі чуткі, што пара нібыта збіраецца ажаніцца, аднак ні Леслі, ні Харынгтан не агучвалі публічна свае намеры, піша Бі-бі-сі.

Харынгтан і Леслі пазнаёміліся ў 2012 годзе падчас здымак «Гульні тронаў», дзе ім дасталіся ролі Джона Сноў і Ігрыт.

Леслі перастала здымацца ў серыяле праз два гады пасля іх знаёмства, бо яе гераіня загінула. Харынгтан тым часам стаў адной з галоўных зорак «Гульні тронаў», ён зняўся ва ўсіх сямі сезонах тэлевізійнай драмы.

Упершыню на публіцы Леслі і Харынгтан як пара з'явіліся на леташняй цырымоніі ўручэння прэміі Лоўрэнса Аліўе.

Харынгтан прызнаваўся, што закахацца ў Леслі было вельмі лёгка.

### Пажылых мужчын удвая менш, чым жанчын

На 1000 пажылых мужчын у нас прыходзіцца 1826 жанчын, паведамляе Белстат. Спецыялісты адзначаюць, што за апошнія 10 гадоў сярэдняя працягласць жыцця беларусаў павялічылася: у мужчын — на 5,3 года (68,9 года), у жанчын — на 3,5 (79).

Усяго ж на пачатак 2017 года ў Беларусі пражывала 1996,7 тысяч пажылых грамадзян (ад 60 гадоў і старэйшыя) — гэта амаль кожны пяты жыхар краіны, і ў іх «войску» прыбывае. Усё больш старых жыве ў гарадах: у вёсках такіх засталося амаль у тры разы менш.

Цешыць, што ўзрост не перашкаджае беларусам пачынаць новыя адносіны: у 2016 годзе шлюбны саюз заключылі 774 пажылыя пары. Таксама ўсё больш нашых маці і бацькоў ва ўзросце карыстаюцца інтэрнэтам: часцей за ўсё яны выкарыстоўваюць яго для пошуку інфармацыі, атрымання электроннай пошты і перапіскі.

# Пакуль сезон. Гэты шыкоўны пірог са слівамі варта спячы як найхутчэй



Гэты пірог аўтарства вядомай стваральніцы кулінарных кніг Доры Грынспэн я прапаную спячы як найхутчэй: цалкам імаверна, што вам захочацца паўтарыць яго не раз і не два, пакуль на слівы яшчэ сезон.

Спалучэнне водараў, тэкстур і смакаў у ім проста неймавернае, асабліва калі ўзяць цэлы кардамон і самастойна змалоць духмяныя зярняткі ў ступцы.

Калі любіце больш ягад у выпечцы, вазьміце вялікую плоскую форму і кладзіце слівы шчыльненька. Калі вам важнейшае цеста (а тут яно сапраўды вельмі смачнае незалежна ад сліў), можна ўзяць форму паменш, але вышэйшую. У любым выпадку, упэўненая, вынік вас парадуе.

**Вам спатрэбіцца:**

1 1/2 шклянкі мукі
2 ч.л. разрыхляльніку
1/4 ч.л. солі
1/4 ч.л. молатага кардамону
70 г масла пакаёвай тэмпературы
3/4 шклянкі цукру
2 вялікія яйкі
1/3 шклянкі алею без паху (у мяне сланечнікавы рафінаваны)
нацёртая цэдра 1 апельсіна
10 сліў (ці больш, залежыць ад іх памеру і формы, у якой будзеце пячы)

**Як рабіць:**

1. Парэзаць слівы напалам, выняць косткі.
2. Масла крыху ўзбіць, дадаць цукар, узбіваць разам каля дзвюх хвілін. Дадаць па адным яйкі, узбіваючы пасля кожнага яшчэ па хвіліне.
3. Дадаць алей і цэдру апельсіна, добра перамяшаць міксерам.
4. У асобнай місцы змяшаць муку, соль, разрыхляльнік і кардамон.
5. Высыпаць муку з дадаткамі ў масленую сумесь, хутка перамяшаць.
6. Выкласці цеста ў змазаную маслам і прысыпаную мукой форму, разраўняць. Выкласці слівы разрэзам уверх.
7. Пячы каля 40 хвілін на 180С.

**Юлія Міцкевіч**

# Русціс Камунтавічус: Калі я прывожу літоўскіх студэнтаў у Беларусь, у іх шок

Пакуль большасць навукоўцаў, што прыехалі на Міжнародны кангрэс даследчыкаў Беларусі ў Варшаве, разбеглася па секцыях, мы вылавілі аднаго з сузаснавальнікаў кангрэсу і раскруцілі на рэфлексіі адносна Беларусі і Літвы. Погляд Русціса Камунтавічуса нетрывіяльны і наводзіць на пытанні да самых сябе. Русціс да гэтага і вядзе: калі мы возьмемся калупацца ў сабе, гаварыць пра сябе, абмяркоўваць сябе, мы пачнём рухацца наперад.



**«Наша Ніва»: Русціс, вы, напэўна, ведаеце пра кангрэс больш, чым хто.**

**Русціс Камунтавічус:** Я адзін з тых, хто яго пачынаў. Але толькі «адзін з», бо самы галоўны, канечне, Андрэй Казакевіч з «Палітычнай сферы» [Інстытут палітычных даследаванняў — **НН**] з беларускага боку. Ну а я кажу, што самы галоўны з літоўскага боку.

**«НН»: Як вы гледзіце на тое, што сёлета кангрэс у Варшаве?**

**РК:** Нармальна. Мы ад пачатку думалі, што кангрэс будзе праектам трох ці нават чатырох краін. Яго ідэя з'явілася недзе ў 2010 годзе на базе Інстытута Вялікага Княства Літоўскага. Гэты інстытут — праект літоўцаў, беларусаў, палякаў і ўкраінцаў. У нас была агульная сустрэча, на якой Андрэй Казакевіч прапанаваў арганізаваць кангрэс. Першы правялі ў 2011 годзе ў Коўне, і далей так і пайшло.

Тут трэба, каб зацікаўленасць была з абодвух бакоў. Беларусы і ў тыя часы, і цяпер яшчэ не могуць і не хочуць рабіць кангрэс у сябе на радзіме па розных прычынах. А Літва — гэта вельмі зручна нават з пункту гледжання той жа лагістыкі. Даехаць у Вільню ці Коўна нашмат прасцей, чым у Варшаву. Коўна — невялікі горадок, мясцовыя гасцініцы тады былі вельмі танныя. Універсітэт таксама быў настроены пазітыўна. Плюс Коўна — гэта ўсё ж такі не сталіца, там менш культурных, акадэмічных падзей, а тут мы маем важны праект, калі з'язджаецца, можна сказаць, уся акадэмічная эліта суседняй дзяржавы.

Але праз геапалітычныя змяненні, праз тое, што Еўразвяз стаў па-іншаму глядзець на Беларусь, вельмі ўпалі бюджэты, фінансаванне. Мяняецца падыход да Беларусі і з літоўскага, і з польскага бакоў. Усё больш ігнаравання і нават негатыву. Вось мы і падумалі, што, можа, варта кудысьці перанесці кангрэс, паспрабаваць у іншым месцы. Зрабілі ў Варшаве.

Канечне, для Варшавы гэта адзін са шматлікіх праектаў, звязаных з Беларуссю, і ўвогуле адзін з многіх. У Коўне гэта быў адзіны падобны навуковы штогадовы кангрэс. Такіх няшмат не толькі ў Коўне, а ўвогуле ў Літве.

**«НН»: Вы сказалі, што цяпер назіраецца пэўнае ігнараванне Беларусі. Распавядзіце падрабязней, чаму так адбываецца і што мы губляем.**

**РК:** Год ці пару гадоў таму Андрэй Казакевіч агучыў разумную, як мне падаецца, думку: калі ўскладняецца канфлікт паміж Расіяй і Захадам, больш за ўсё губляе менавіта Беларусь. Таму што хоча яна таго ці не, а дрэйфуе ў бок Расіі. У выніку становіцца менш цікавай Захаду, бо ён як бы ўжо і аддае яе Расіі.

Ёсць і іншы момант. Захад усё ж не хоча аддаваць Беларусь Расіі, і можа вырашыць, што лепш падтрымліваць рэжым, чым апазіцыю, калі гэта адзіны бар'ер, які не дае Беларусі ўвогуле стаць часткай Расіі.

То бок розных геапалітычных момантаў шмат, а вынік адзіны — Беларусь сыходзіць. Прорва паміж Захадам і Беларуссю становіцца ўсё большай, хоць беларускія ўлады і кажуць пра нейтральнасць.

**«НН»: Што трэба сённяшнім беларускім элітам, каб нармальна развівацца?**

**РК:** Рэфлексія саміх сябе. Яны павінны думаць, гаварыць, дыскутаваць пра саміх сябе. І гэтая рэфлексія павінна быць свабоднай. Таму кангрэс і праходзіць не ў Беларусі. Калі б ён быў у Беларусі, людзі б прыходзілі толькі на свае секцыі, а потым сыходзілі. Не было б нефармальнай камунікацыі. Гэтая машына павінна працаваць. Так робіцца паўсюль, у нас у Літве такое ёсць. Самае галоўнае, што гэта развівае эліты дзяржавы, аб'ядноўвае іх. Гэта і робіць нацыю.

Узяць той жа кангрэс. Нечага іншага, дзе б акадэмічная беларуская эліта сустракалася штогод, дзе б не было кантролю з боку дзяржавы, што для Беларусі асабліва актуальна, — няма. Тут сустракаюцца рэпрэзэнтанты з дзяржаўных і недзяржаўных інстытутаў, сюды прыязджаюць беларусы замежжа. То бок гэта такое месца, дзе розныя акадэмікі могуць свабодна размаўляць.

**«НН»: А што вас звязвае з Беларуссю?**

**РК:** Я проста гляджу на Беларусь з літоўскай перспектывы.

Вы ведаеце, што ў Літве вялікая эміграцыя, усе з'язджаюць на Захад. Некаторыя з'язджаюць і там і застаюцца, некаторыя вяртаюцца. Дык вось, я доўгі час працаваў у навуковай сферы ў Заходняй Еўропе: Італіі, Францыі і Швейцарыі. У мяне са школьных гадоў быў такі стэрэатып, што ў Літве нічога цікавага няма, што гэта нейкая ўскраіна Еўропы. Такі самы комплекс ёсць у большасці літоўцаў. Але менавіта ў Заходняй Еўропе пачалася рэфлексія. Я ўбачыў іншую Літву, яна мне падалася вельмі цікавай.

Я тады найперш займаўся адносінамі Вялікага Княства Літоўскага і Заходняй Еўропы. Літаральна пару месяцаў таму я запусціў сайт, над якім працаваў ад 2004 года. Там тлумачыцца, як швейцарцы з паўднёвай Швейцарыі імігравалі ў ВКЛ і колькі тут усяго набудавалі. Цяпер праект толькі на літоўскай мове, але будзем перакладаць. У Літве да яго ёсць вялікая зацікаўленасць. Выходзіць, мы ў Швейцарыю едзем апошнія дзесяцігоддзі, а яны да нас ездзілі ад XVI стагоддзя да сярэдзіны XX-га. Вось гэты феномен для літоўцаў даволі дзіўны, як і для беларусаў, бо там і пра Беларусь.

Але што я цікавае ўбачыў: калі хочаш зразумець Літву, зразумець, хто мы і што з намі адбываецца, лепш за ўсё глядзець на Беларусь.

Чаму? Таму што мы з Беларуссю мелі самую доўгую супольную гісторыю. Ад XIII стагоддзя ў нас не было мяжы, яна з'явілася толькі ў XX стагоддзі, але зноў знікае — Савецкі Саюз. Потым стабільная мяжа з'явіцца толькі пасля 1990-га года. То бок мы ўвесь гэты час жылі ў адной прасторы, у нас усё было супольным, акрамя мовы. Пасля з'яўлення мяжы вырасла толькі адна генерацыя.

Мы з палякамі і латышамі не так моцна звязаныя, як з беларусамі. У нас ёсць пэўная замкнёнасць, кансерватызм, праз гэта ў літоўцаў з'явіўся культ мовы. Такі культ мовы, якога ўвогуле нідзе ў Еўропе няма. А ў Беларусі наадварот — поўнае ігнараванне сваёй мовы.

Далей — ландшафт. Едзеш праз Літву, праз Беларусь, бачыш мястэчкі з раскіданымі аднапавярховымі драўлянымі дамкамі з вострымі дахамі. І яшчэ касцёлы віленскага барока з дзвюма вежамі. Дык вось гэта ёсць толькі ў Літве і Беларусі — больш нідзе такога няма.

Два месяцы таму я запусціў сайт, ён называецца *gudija.lt*. *Gudija* — гэта сінонім Беларусі ў літоўскай мове. На гэты сайт я кладу ўсе тэксты па гісторыі Беларусі, бо цяпер у Літве няма ніводнай кнігі на літоўскай мове, якая б называлася «Гісторыя Беларусі». Але і ў Беларусі няма ніводнай кнігі на беларускай мове, якая б называлася «Гісторыя Літвы», акрамя праекта Валерыя Булгакава, ён робіць пераклады. Але каб беларус-гісторык сеў і напісаў гісторыю Літвы — такога няма. Хаця палякі, напрыклад, пішуць. І пра Беларусь пішуць, і пра Літву, тлумачаць там усё. А мы не пішам, хоць і самыя блізкія. Вось я і вырашыў сесці напісаць першую гісторыю Беларусі на літоўскай мове. Захоўваю матэрыялы на гэтым сайце.

Дарэчы, у той час, як рэстаўравалі Нясвіжскі замак, у Літве ў той жа час адбудоўвалі Ніжні замак. І што цікава: у Нясвіжы няма ніводнага слова пра сённяшнюю Літву. У віленскім замку — ніводнага слова пра сённяшнюю Беларусь. І беларусы, і літоўцы — мы хочам вярнуць сваю гісторыю, бо аддалі яе палякам. І мы яе вяртаем, але адзін аднаго не бачым.

Я не прыхільнік ідэі, што наша гісторыя мусіць быць аднолькава трактаваная і ў Літве, і ў Беларусі. Што мусіць быць адна праўда, аднолькавыя падручнікі. Чаму? Таму што калі Беларусь глядзіць зусім інакш на Літву і калі я чытаю тэкст беларуса, то бачу іншы аспект сваёй гісторыі і лепш разумею як беларуса, так і самога сябе. Розніца ў нашых поглядах — гэта і ёсць самае каштоўнае. Чым больш радыкальна будзе развівацца беларуская думка, чым больш непадобнай будзе інтэрпрэтацыя гісторыі, але рацыянальная інтэрпрэтацыя, навуковая, тым лепш. Трэба падтрымаць разнароднасць. Мы свабодныя людзі, і галоўная каштоўнасць — разнастайнасць. Нам трэба глядзець адзін у аднаго як у люстэрка. Чым мы будзем больш адзін ад аднаго адрозніваць, тым лепш будзем самі сябе бачыць.

**«НН»: Як вы патлумачыце гэты ўзаемаігнор беларусаў і літоўцаў?**

**РК:** Комплексы. Літоўцы баяцца, што беларусы аднімуць у іх гісторыю. Беларусы кажуць, што літоўцы ўжо аднялі ў іх гісторыю. Узяць таго ж Міндоўга, пачатак ВКЛ, як усё гэта інтэрпрэтуецца. Гэта ж абсурд! Я калі стаў гэтым інтэнсіўна займацца, заўважыў такі каламбур: мы ў Літве ад першага класа вучым, калі кароль Міндоўг быў каранаваны — 6 ліпеня 1253 года. Але мы не ведаем дзе. Беларусы наадварот: не ведаюць, калі дакладна ён быў каранаваны, затое дакладна ведаюць дзе. Няма ніводнага дакумента, дзе было б напісана, дзе і калі ён быў каранаваны, але абедзве нацыі прыдумляюць. І так амаль з усёй гісторыяй, такіх прыкладаў вельмі шмат. Ніхто не перакладае падручнікі суседніх дзяржаў. Гісторыя паўсюль ёсць прадметам нейкай спрэчкі, асабліва ў нас.

Ну і, канечне, моўны бар'ер. Літаральна некалькі тыдняў таму прывезлі беларускіх школьнікаў у Літву, пасялілі іх з літоўцамі. Думалі, што яны будуць размаўляць па-англійску, бо літоўцы добра ведаюць англійскую, а беларусы былі са школы, дзе паглыблена вывучаюць мовы. Але добра, што быў адзін літовец, які ведаў рускую, бо ён у выніку ўсё ўсім перакладаў. Прычым такая сітуацыя адбылася ўпершыню, бо раней літоўцы ведалі рускую. Думаю, гэтая прорва будзе яшчэ больш паглыбляцца.

**«НН»: Вы таксама часам адпраўляеце літоўцаў у Беларусь, так?**

**РК:** Я перыядычна прашу беларускіх калег, каб яны прымалі час ад часу маіх студэнтаў.

Наша моладзь цяпер вельмі шмат вандруе. Калі яны прыязджаюць у Беларусь пасля Брытаніі, Францыі і гэтак далей, у іх заўсёды бывае шок.

На першы погляд Беларусь — законсерваваны Савецкі Саюз, і гэта асабліва адчувалася пяць-дзесяць гадоў таму. Гэта бачна па той жа архітэктуры, адносінах паміж людзьмі, музеях, кульце Другой сусветнай вайны, няведанні сваёй мовы. Для літоўцаў гэта дзіўна, бо наша ідэнтычнасць наўпрост звязаная з мовай, як, дарэчы, і ў беларусаў. І ў Беларусі гэта таксама становіцца заўважным, руская мова паступова, але адыходзіць.

Літоўцы бачаць, што беларусы залежныя ад расійскага тэлебачання, ад рускай літаратуры. У школах — паўсюль руская мова. У музеі Вялікай Айчыннай вайны заходзіць — увогуле дах едзе, бо ў нашым разуменні гэта ўвогуле нічога агульнага з развітай культурай не мае. Калі ты ставіш музей танку, самалёту ды аўтамату Калашнікава і памятаеш вайну, якая была 70 гадоў таму, робіш з гэтага культ — гэта нейкая жудасць. Заходняя культура пераходзіць на мастацтва, на субтыльныя рэчы. Акцэнты робяцца не на вайну, бо калі закладаць людзям з малых гадоў «вайна, вайна, вайна», тады яны і будуць ваяваць.

Ад гэтага трэба адысці. Тэндэнцыя ў Еўропе якраз у адмаўленні ад вайны і шляху да камунікацыі, талеранцыі, свабоды, мыслення, мастацтва — да такіх рэчаў. Дарэчы, калі летам у Мінску сустракаўся з беларускімі вучнямі і пытаўся, якія гістарычныя тэмы ім найбольш цікавыя, яны амаль усе сказалі «Вайна».

Іншае ў Беларусі, што заўважаюць усе літоўцы, — тое, што ўсё адрамантавана. Калі яны не пытаюцца пра заробкі беларусаў, ім здаецца, што гэта даволі заможная, чыстая і прыгожая краіна. Дарэчы, гэта рыса аўтарытарнай дзяржавы.

Потым, калі я з тымі ж самымі студэнтамі еду ва Украіну і яны бачаць кантраст, у іх узнікаюць цікавыя думкі: а можа, у Беларусі і лепей, чым у іншых краінах? Можа, лепш было б жыць у Беларусі? Са студэнтамі заўсёды трэба размаўляць, паказваць, каб яны задумваліся і не верылі першаму ўражанню. Я ў Беларусі не магу знаходзіцца больш, чым некалькі тыдняў. У мяне ломка пачынаецца, мяне ціснe атмасфера. Але, можа, такіх, як я, няшмат?

Дарэчы, у Літве, паводле сацыялагічных даследаванняў, найбольш людзей, якія хочуць моцнай рукі. Калі параўноўваць з іншымі еўрапейскімі краінамі. Таму, калі на пачатку 1990-х пісалася Канстытуцыя, у нас і зрабілі не прэзідэнцкую рэспубліку, а парламенцкую, бо баяліся гэтай пагрозы. Тое, што да нас не прыйшла дыктатура, тое, што ў нас дэмакратыя, — гэта дар божы. Нягледзячы на тое, што мы маем шмат праблем, але развіваецца зусім іншая культура, зусім іншае бачанне. І гэта ўжо заўважна па гэтай генерацыі, якая вырасла пасля 1990 года.

**«НН»: Вы гаворыце пра вялікую эміграцыю. Вось і многія беларусы ўпэўненыя, што не дай бог заўтра адкрыюцца межы, мы згубім усё, што маем на сёння, бо з'едуць усе найлепшыя розумы, а іх і так засталося мала.**

**РК:** Калі ты закрываешся, то дэградуеш. Калі хочаш развівацца, табе раней ці пазней трэба адкрыцца. Чым пазней ты гэта зробіш, тым табе горш, таму што кантраст будзе большым і з'едзе яшчэ больш.

Мы ў Літве згубілі вельмі шмат за гэтыя 20 гадоў, але мы выйгралі ў тым сэнсе, што прывыкаем да свабоды. Гэта не проста, трэба, каб дзве-тры генерацыі змяніліся. Калі б мы не пачалі гэты працэс, нам было б яшчэ больш складана. Што чакае Беларусь? Поўная эканамічная рэформа з нуля, як у 1990-я, страшэнная міграцыя, падзенне ўзроўню жыцця — гэта калі хочаце быць нармальнай краінай. Калі хочаце быць такой, як Паўночная Карэя, тады яшчэ большая замкнутасць. І вось такая тупіковая сітуацыя з нашага пункту гледжання.

Мы цяпер губляем, але ёсць надзея, недзе там, у канцы, бачнае святло. А тут святла няма, тут усё незразумела. Вы можаце глядзець на літоўцаў і бачыць, што было б з вамі, калі б вы былі вольныя. А мы бачым, што было б з намі, калі б мы пайшлі іншым шляхам. Хоць першы крок мы зрабілі такі самы, як і беларусы. Літва была той краінай, якая абрала сваім першым прэзідэнтам лідара Камуністычнай партыі. Толькі мы з ім у НАТА ўступілі, і ў Еўразвяз.

Пра ўсё гэта трэба думаць, гэта ўсё мае такія рэфлексіі, розумы.

**Гутарыла Настасся Роўда, Варшава — Мінск**

# Споведзь Каці Пытлевай пра ЭКА і месяц жыцця з мёртвым дзіцём у жываце

Паўгода таму Каця Пытлева нарадзіла дваіх цудоўных дзетак — Яна і Міру. Вядомая вядоўца тэле- і радыёпраграм не проста хацела дзяцей, яна была гатовая дзеля іх літаральна на ўсё. Яе не спыніла ні перапыненая цяжарнасць, ні выкідыш, ні два безвыніковыя ЭКА. Трэцяе ЭКА аказалася паспяховым, і сёння шчаслівая маладая маці ні пра што не шкадуе.

Каця кажа, што наўрад ці стала б распавядаць сваю гісторыю публічна, калі б не разумела, наколькі важнай яна можа быць для іншых жанчын, якія вельмі хочуць мець дзяцей.



Каця Пытлева.

### Пра звычайныя будні маці ў дэкрэце

**«Ніна»: Як вы з Лёшам спраўляецеся? Ці цяжка?**

**Каця Пытлева:** Спраўляемся выдатна. Так, было, што зусім вымоталася. Мінус 28 кілаграмаў — гэта як бы... Карацей, моцная фізічная нагрузка. Калі абое крычаць — трэба абаіх на рукі браць, а некаторы час таму гэта было дзесяць кіло. Вось так паходзіш з дзесяццю кілаграмамі па кватэры... У гэтым сэнсе было цяжка. А ўвогуле, класна.

**«Ніна»: Хто больш жвавы — Ян ці Міра?**

**КП:** Яны жвавыя па-рознаму. Міра больш удумлівая, цярплівая. Ян — ён больш выбухны. Амаль увесь час усміхаецца, весяліцца, але калі ўжо крычыць, то крычыць. Ён у нас хлопчык-крайнасць.

**«Ніна»: Парадак дома бывае?**

**КП:** Заўсёды. Пяць прац да дэкрэту навучылі правільна разлічваць час. Дарэчы, я ўжо зноў працую.

**«Ніна»: То бок можна сумяшчаць?**

**КП:** Канечне. Калі табе падабаецца тое, што ты робіш, то ўсё паспяваеш.

**«Ніна»: Дапамагае хтосьці?**

**КП:** У асноўным мы з мужам самі спраўляемся. Цяпер пачала ўключацца свякроў, у яе рэдка была магчымасць прыязджаць да нас, але хутка выйдзе на пенсію, зможа дапамагаць. Вось нядаўна муж з'язджаў на два тыдні сплаўляцца на Кольскі паўвостраў, у гэты час мне дапамагала яго маці.

### Як рашыліся на ЭКА

**«Ніна»: Калі зразумелі, што без ЭКА ніяк? Ці цяжкім было гэтае рашэнне?**

**КП:** Калі ў цябе ёсць мэта, ты будзеш разглядаць усе сродкі. Да таго, як мы пайшлі на ЭКА, у мяне былі дзве цяжарнасці, якія скончыліся няўдала. Першая цяжарнасць спынілася, падчас другой здарыўся выкідыш. Спачатку нам здавалася: навошта ЭКА? Усё ж атрымліваецца само. Мы хадзілі на кансультацыі, нам казалі працягваць спрабаваць. Але ў пэўны момант мы зразумелі: чаго яшчэ чакаць? Усё ж відавочна: цяжарнасць надыходзіць, але дзіця вынасіць не атрымліваецца. З аналізамі ўсё ў парадку, з генетыкай усё ў парадку, але вось нешта не так. І ніхто не ведаў што.

Калі ты вельмі чакаеш цяжарнасць, а яна спыняецца — гэта вельмі цяжка. Мы вырашылі, што з ЭКА будзе больш шанцаў.

**«Ніна»: Што вы перажылі, калі вам сказалі, што ўсе трое эмбрыёнаў прыжыліся?**

**КП:** Тут увогуле загадкавая гісторыя.

Два тыдні пасля падсадкі эмбрыёнаў ты ходзіш і не ведаеш, атрымаецца ці не. Ты баішся чхнуць, зрабіць лішні рух. Падчас трэцяга ЭКА я гэтыя два тыдні фактычна праляжала. Нават не рабіла тэстаў, баялася сурочыць, расстроіцца, а гэта ж таксама магло паўплываць. Праз два тыдні я прыехала ў «Маці і дзіця» здаваць аналіз на ХГЧ, які, уласна кажучы, у тэсце і адлюстроўваецца. На наступны дзень прыехала па вынікі.

Памятаю, выходзіць медсястра з кабінета і пальцамі паказвае, што, хутчэй за ўсё, двойня. Карацей, разгледзелі яны тады толькі дваіх. Муж сказаў: «Выдатна! Галоўнае, што ўсё атрымалася». І толькі дзесьці праз месяц, калі я пайшла рабіць УГД, мне сказалі, што іх трое.

Пазваніла мужу — ён афігеў. Не ведаю, якое іншае слова падабраць. У яго быў смех скрозь слёзы шоку і радасці: «Ды ладна! Ды не можа быць!» Было складана ў гэта паверыць. Але насамрэч мы былі гатовыя, жартавалі на гэтую тэму: «Уяві, а калі ўсе трое!» А калі ты нават у жартаўлівай форме прайграеш нейкі сцэнар, ты ўжо маральна рыхтуешся да яго.

Першыя два-тры месяцы цяжарнасці былі самымі хвалюючымі. Калі мы ўжо зразумелі, што ўсё даносіцца, што ўсё будзе, пайшлі такія думкі: а як гэта? Нас усяго двое, а днём я адна. І ніякіх няняў, нічога такога. Дзе паставіць ложкі? Потым гэта перайшло ў практыку, у вывучэнне форумаў, дзе пішуць менавіта пра трайнят.

**«Ніна»: Гэта ж які быў жывот…**

**КП:** Ён быў велізарны. Усе, хто мяне бачыў, казалі: «Спачатку выходзіць жывот, а потым выходзіць Каця». А ўлічваючы, што я яшчэ такая, ну, маленькая...

**«Ніна»: Цяжка было?**

**КП:** Цяжка. Асабліва бліжэй да тэрміну.

Усё было цяжка: спаць, хадзіць, дыхаць. Мне пашанцавала, што я амаль усё жыццё займалася спортам. Перад цяжарнасцю актыўна займалася ёгай, дыханнем. Вельмі важна, калі ты можаш у патрэбны момант правільна дыхаць. Калі тыя ж патугі пачынаюцца.

**«Ніна»: Адчувалі, як яны варушацца ўнутры?**

**КП:** О, так! Мы нават відэа здымалі, бо, калі пачыналася бурленне з трох бакоў: з аднаго боку — нага, з іншага — рука, гэта было вельмі забаўна. Часам было крыху балюча, калі пачыналі грукаць у розныя бакі. Яны ж паміж сабой не дамаўляліся, хто куды.

### Як не стала Мары

**«Ніна»: Вы самі адчулі, калі Мары не стала?**

**КП:** Была пэўная трывожнасць, унутраная напружанасць. Але гэтай трывожнасці ў прынцыпе было шмат, бо, ўсё вось-вось мусіла адбыцца.

Ты ходзіш на агляды ў паліклініку, там цябе слухаюць. Аднак я сумняюся, што магчыма вось так усіх трох пачуць. Я паказваю, дзе хто прыкладна ляжыць, але ж там куды трубку ні пастаў, паўсюль будзе чутно сэрцабіццё.

**«Ніна»: Як вам сказалі пра тое, што здарылася з Марай?**

**КП:** Я ўвогуле не ўяўляю, як дактары спраўляюцца з гэтай работай. Такім людзям трэба ставіць помнікі, бо гэта вельмі цяжка. Доктар паступіла як прафесіянал. Яна не стала абдымаць мяне, сюсюкацца са мной. Сказала, як ёсць. І, напэўна, гэта было найлепш для мяне.

**«Ніна»: Як вы перажылі тое, што адбылося?**

**КП:** Мне, мабыць, у нечым у жыцці пашанцавала. Акрамя гэтай трагедыі, мне давялося перажыць даволі шмат іншых. Раннюю смерць мамы, яна памірала на маіх вачах. Ёй было 37, а мне — 12. Пасля гэтага тата даволі складана сябе паводзіў, з ім было няпроста. Ён памёр некалькі гадоў таму, стаўшы да гэтага інвалідам, што часам сказвалася на свядомасці. Некалькі гадоў таму павесіўся мой сябар. Да гэтага было шмат смерцяў іншых



сяброў — хто ў аварыі, хто яшчэ неяк. У мяне былі два выкідышы. У сына маёй роднай сястры ДЦП, у яго была сур'ёзная родавая траўма. Яму вось ужо амаль 13 гадоў, ён не размаўляе, не ходзіць, нічога не можа рабіць сам. Мы жылі разам, я бачыла, як сястра спраўляецца з такой бядой. А гэта вялікая бяда. Усе гэтыя трагедыі дапамаглі ў тым сэнсе, што загартавалі мяне. І я прымусіла сябе сабрацца.

Хіба, страшней за ўсё было разумець, што штосьці можа здарыцца з іншымі. Ты кожную секунду жывеш тым, што прыслухоўваешся да сябе, да таго, што ў табе адбываецца. У такой сітуацыі можна наўяўляць сабе ўсё, што заўгодна. Ну і пра Мару, канечне, думаеш. Як не думаць.

**«Ніна»: Як Лёша гэта прыняў?**

**КП:** Мы з ім дамовіліся, што не будзем гэта мусоліць, пакуль не народзяцца дзеці, што потым гэтую бяду выплачам. Да нараджэння дзяцей нам абаім трэба было быць сабранымі. Лёша ў гэтым сэнсе мяне вельмі падтрымаў. Амаль ніхто з нашых сяброў пра гэта не ведаў, толькі сваякі і, можа быць, яшчэ два-тры чалавекі. Нават сябры, якія прыехалі сустракаць мяне з радзільні, даведаліся пра гэта толькі ў дзень родаў.

**«Ніна»: А ўвогуле хацелася выгаварыцца?**

**КП:** Не. Я ўвогуле пра гэта цяпер кажу толькі таму, што ведаю: для кагосьці гэта вельмі важна. А так я б і не размаўляла ні з кім пра гэта. Чалавек з любым узроўнем эмпатыі не зразумее, што мне давялося перажыць.

**«Ніна»: Вы раней пісалі ў фэйсбуку, што, магчыма, дактары «накасячылі», калі адмянілі вам лекі, якія вы калолі штодзень яшчэ ад пачатку падрыхтоўкі да ЭКА. Бо пасля іх адмены выявілася, што Мара памерла.**

**КП:** Ну як «накасячылі»... Я думаю, у той момант яны кіраваліся сваім досведам. У тым, што гэта вельмі дасведчаныя дактары, я не сумняюся. Такіх сітуацый, як мая, у іх было шмат. Па ўсіх паказаннях ад лекаў можна было адмовіцца. Мне падаецца, яны проста не ўгадалі, не спрацавала доктарская «чуйка».

Потым, пасля родаў, мы выпадкова сутыкнуліся ў калідоры з доктаркай, што адмяніла лекі, і проста пагутарылі, без узаемных крыўдаў. Яна рада, што ўсё скончылася добра, што ўсе жывыя, акрамя Мары. Яна лічыць, што, напэўна, так было патрэбна, каб я нарадзіла двух здаровых дзяцей. Хто ведае, што было б, калі б Мара засталася?

Але гэта ўсё было сказана падобраму, з разуменнем, не тое, што «ай, падумаеш». Для мяне пэўная палёгка, што была магчымасць з тым жа доктарам пагутарыць пра гэта.

### Як не працуе крэдытнае ЭКА

**«Ніна»: І вось пасля такога досведу, якое стаўленне да ЭКА? Наколькі гэта добра, нядобра?**

**КП:** Гэта неабходна. Для тых, хто паставіў для сябе мэту, гэта абавязкова трэба паспрабаваць.

Можна доўга біцца галавой аб сцяну, казаць: «Якое ЭКА! Ты што!» Можна прыслухоўвацца да нейкіх стэрэатыпаў. Я сутыкнулася з меркаваннем, што ЭКА — гэта ненатуральна. Не, ну калі вы не хочаце дзяцей, то лічыце гэтак. Але я ведаю, што гэта спосаб, які працуе. Часам працуе не з першага разу, але гэта шанец. Я дзесяць гадоў ішла да гэтага, хтосьці ідзе нашмат даўжэй.

Гэта вельмі важная працэдура, і мне прыемна, што ў нашай краіне яна на высокім узроўні. Але ёсць свае «але».

ЭКА — працэдура вельмі дарагая. Ва ўсякім разе, для беларуса з беларускімі заробкамі. Людзей, якія могуць сваімі сіламіназбіраць на першае ЭКА, не так шмат, але не так і мала. У сярэднім працэдура каштуе тры тысячы даляраў. У недзяржаўных цэнтрах, натуральна, нашмат даражэй.

Я ляжала ў рэспубліканскім дзяржаўным цэнтры і бачыла дзяўчат, якія прыехалі рабіць ЭКА з самых розных рэгіёнаў Беларусі. І калі са сталічнымі заробкамі гэта яшчэ неяк пад'ёмна, то для іх — вельмі цяжка. Часам усёй сям'ёй збіраюць грошы на ЭКА.

А калі не атрымліваецца з першага разу? А калі грошай няма, а дзіця хочацца? На гэты выпадак у нашай краіне існуе крэдытнае ЭКА. І тут — увага: збой сістэмы, з якім я сутыкнулася.

Мая асабістая гісторыя была такая. На першыя два ЭКА мы неяк наскрэблі. На трэцяе, якое трэба было рабіць адразу па гарачых слядах пасля другога няўдалага, мы зразумелі, што вось проста зараз не можам узяць патрэбную суму. Я кажу доктару: «Мне трэба крэдыт. Дайце мне накіраванне ў банк». А яна мне адказвае: «Не магу даць накіраванне». Я не разумею: «Чаму? Я пакуль што як бы «маладая сям'я». Мы з мужам па ўсіх параметрах па крэдытах вельмі добра падыходзім».

І вось што аказваецца. Крэдыт як працуе? Ты яго бярэш, сродкі пераводзяць на рахунак цэнтра, які робіць ЭКА, дактары забяспечваюць цябе ўсімі лекамі і робяць усё, што называецца, «пад ключ».

Звычайна палова, а то і большая частка кошту ЭКА — гэта лекі, якія ты ўводзіш, каб падрыхтаваць сябе да цяжарнасці, каб прыжыліся эмбрыёны. У мяне першыя чатыры месяцы выходзіла па шэсць мільёнаў на месяц! Некаторыя не зарабляюць столькі. А паколькі ў дзяржаўным цэнтры «Маці і дзіця» гэтых лекаў няма, то і крэдыту няма. Выходзіць, можна ўзяць крэдыт і пайсці ў недзяржаўны цэнтр, дзе ёсць усе неабходныя лекі, але дзе ЭКА каштуе ці не ўдвая даражэй.

Мне давялося пайсці ў звычайны банк і ўзяць звычайны крэдыт, які я буду выплачваць яшчэ год. І гэты крэдыт зусім не льготны. Ён абсалютна звычайны і добра б'е па кішэні маладой сям'і.

Вось і выкручваюцца нашы дзяўчаты як могуць. Адны едуць у Расію закупляцца, кажучы, там лекі нашмат таннейшыя. Іншыя — у Польшчу, але ЭКА робяць тут.

### Што трэба ведаць тым, хто збіраецца рабіць рэдукцыю

**«Ніна»: У вас прыжыліся ўсе тры эмбрыёны. Ці былі думкі рабіць рэдукцыю, пакінуць не ўсіх дзяцей?**

**КП:** У нашай краіне пра рэдукцыю не любяць гаварыць. Справа ў тым, што ў Беларусі яе робяць крайне мала спецыялістаў. Калі ўвогуле не адзін чалавек.

Калі паўстала пытанне рэдукцыі, бо мяне пужалі, што не выношу, мне хацелася трапіць на кансультацыю да спецыяліста. Да розных спецыялістаў. Я стала абзвонваць недзяржаўныя цэнтры, і высветлілася, што рэдукцыю ў Беларусі не робяць нідзе, акрамя цэнтра «Маці і дзіця».

То бок калі жанчына робіць ЭКА ў недзяржаўнай клініцы і ў яе прыжываюцца абодва эмбрыёны, а яна хоча пакінуць толькі адно дзіця, яна не зможа зрабіць рэдукцыю нідзе, акрамя «Маці і дзіця». Нават пракансультавацца па гэтым пытанні ні з кім не зможа, спецыялістаў папросту больш няма. Жанчын, я сустракалася з такімі, адпраўляюць у Санкт-Пецярбург, дзе, уласна, і робяць рэдукцыю.

Але ж здараецца, напрыклад, што падсаджваюць два эмбрыёны, але адзін раздвойваецца — і атрымліваецца трое. У мяне ёсць адна такая знаёмая ў Маскве, яна нарадзіла двух хлопчыкаў-блізнятак і дзяўчынку. Усё што заўгодна можа адбыцца, камусьці насамрэч можа быць патрэбная рэдукцыя.

### Што трэба ведаць, калі ідзяце на ЭКА

**Ніна: Да чаго рыхтавацца жанчынам, якія хочуць паспрабаваць ЭКА?**

**КП:** Да таго, што можа не атрымацца з першага разу. Вось гэта, насамрэч, вельмі дапамагае. Калі не атрымаецца, траўма будзе меншай. Што яшчэ? Не ведаю, мабыць, расставіць прыярытэты. Трэба паклапаціцца пра сябе ў гэты час, засяродзіцца на гэтым.

**«Ніна»: Ужо прыйшло асэнсаванне, што «я — маці»?**

**КП:** А вось не ведаю. У нейкі момант мне падалося, што дзеці былі са мной заўсёды. Але пры гэтым я ведаю, што не згубіла сваю асобу, індывідуальнасць. Я не зліваю сябе з імі, але нясу за іх адказнасць. І радуюся ім, люблю іх. Калі гэта называецца «мама», то так, я адчула сябе мамай. Але мне здаецца, што «мама» — гэта настолькі глабальна, што мне трэба будзе яшчэ ўсё жыццё асэнсоўваць, што гэта такое.

**Настасся Роўда,**
**фота аўтара і з архіва гераіні**







# Ён загінуў такім маладым: памяці Дмытра Кульбеды

9 верасня не стала з намі нашага сябра, аднадумца, калегі Дмытра Кульбеды. Заўчасна, калі толькі пачала руплівая праца яго даваць плён, гэтак раптоўна перарвалася яго жыццё.

Мы ведалі Дмытра як сумленнага, добрага, шчырага чалавека з цвёрдай грамадзянскай пазіцыяй, трывалымі ўласнымі перакананнямі, цвярозым і бесстароннім поглядам на жыццё. Ён не шукаў кампрамісаў, заўжды ведаў, чаго хоча, і імкнуўся да свае мэты, не зважаючы на перашкоды. Сваёй мужнасцю, мэтанакіраванасцю, упэўненасцю ён натхняў нас, побач з ім хацелася стаць лепшым, дарасці да яго маральнай і духоўнай вышыні. Дмытро быў чалавекам неймаверна шырокіх захапленняў, і, чым бы ён ні займаўся, усё яму ўдавалася.

Такія людзі, безумоўна, не абіраюць сабе прафесію па крытэры дастатку ці камфорту. Такія людзі імкнуцца быць карыснымі грамадству, хочуць зрабіць гэты свет лепшым, дапамагчы тым, хто мае ў гэтым патрэбу. Гэткім чынам і Дмытро абраў сабе найбольш вартую ягонай высокай асобе прафесію — прафесію доктара. З самага пачатку Дмытро адказна ставіўся да абранага няпростага шляху. Ён дасягнуў вялікіх поспехаў падчас навучання ў Беларускім дзяржаўным медыцынскім універсітэце, які скончыў з адзнакай у 2012 годзе. Яшчэ ва ўніверсітэце ён дакладна вырашыў, што стане хірургам, што насамрэч і здзейснілася.

Дмытро працаваў у Берасці, Баранавічах. Калегі памятаюць яго як стараннага, працавітага, адданага сваёй справе спецыяліста, надзвычай гуманнага, чулага да чужога няшчасця лекара.

Дзеля ўдасканалення сваіх хірургічных навыкаў у 2015 годзе Дмытро паступае ў клінічную ардынатуру па спецыяльнасці «сасудзістая хірургія» ў Рэспубліканскі навукова-практычны цэнтр «Кардыялогія». На шляху засваення новай спецыяльнасці Дмытро вельмі хутка дасягае поспехаў, дэманструе бліскучыя здольнасці хірурга і ў кароткі тэрмін атрымлівае досвед выканання найскладанейшых аперацый. Неардынарныя, складаныя клінічныя выпадкі трапна вырашаліся гэтым высакакласным спецыялістам. Колькі жыццяў выратаваў Дзмітрый Сяргеевіч, колькім церпячым ён дапамог пазбавіцца цяжкай немачы!

І нягледзячы на ўсе высокія дасягненні ў медыцыне, ён заставаўся сціплы, гатовы заўсёды дапамагчы, падказаць, падзяліцца досведам і ніколі не перапыняў самаадукацыі, паглыблення ўласных ведаў і адточвання навыкаў.

У 2017 годзе Дмытро бліскуча здаў іспыты па сасудзістай хірургіі. Гарадскі цэнтр сасудзістай хірургіі 4-й клінічнай бальніцы Мінска атрымаў сапраўднага прафесіянала, хірурга высокага майстэрства, лекара з непераўзыдзенымі маральнымі якасцямі. Тым гарчэйшаю была гэта страта: калегі, сябра, Чалавека.

Выпускнік Янаўскай гімназіі абраў шлях лекара і менавіта таму, а не насуперак гэтаму выбару, памятаў, што ён — Чалавек і павінен адпавядаць гэтаму статусу. З вялікай павагай і ўвагай ставіўся юнак да людзей, сярод якіх жыў.

Яшчэ ў школьныя гады крышталізуецца ягоная нацыянальная свядомасць. У 2008 годзе ён уступае ў берасцейскую арганізацыю «Украінская навукова-педагагічная суполка «Берагіня»». Падчас навучання і працы ў Мінску Дмытро Кульбеда стае членам Рэспубліканскага навукова-краязнаўчага таварыства «Загароддзе», адным з заснавальнікаў Таварыства ўкраінскай мовы і літаратуры пры Саюзе беларускіх пісьменнікаў. Эрудыцыя, кампетэнтнасць і актыўнасць дазваляюць яму годна прадстаўляць землякоў на Сусветным кангрэсе ўкраінскіх моладзевых арганізацый.

Не зважаючы на велізарную занятасць прафесіянальнай дзейнасцю, Дмытро сачыў за жыццём малой бацькаўшчыны, наведваў прэзентацыі, літаратурныя вечарыны, якія ладзіла раённая бібліятэка. Стараннямі маладога доктара была ўратавана вялікая частка літаратурнай спадчыны рэгіянальнага ўкраінскага паэта Барыса Япішкі, сабраны дыялекталагічны матэрыял да хрэстаматыі «Галасы з Берасцейшчыны». Ён складае дыялектны слоўнік мотальскай гаворкі, піша на ёй вершы, робіць літаратурныя пераклады, дасылае цікавыя матэрыялы пра гісторыю і жыццё Янаўшчыны на сайт Prosvit.org.

Малады хірург не ўяўляў сваё жыццё без спорту і актыўнага адпачынку. Любоў да турызму прабудзілася ў школе, калі «Дмытёр», як звалі яго мотальцы, упершыню патрапіў у Карпаты. Шмат сяброў потым адчувалі ягоную падтрымку ў вандроўках па Каўказе, Карэліі, Скандынавіі. Вольнага часу ў студэнта медыцынскага ўніверсітэта няшмат, але ён стаў адным з ініцыятараў украінскай моладзевай турыстычнай акцыі «Рэйд Палесся» і потым знаходзіў магчымасць браць удзел у яе разнастайных формах («Берасцейцы на Падляшшы», «Этнасафары»).

З сыходам Дмытра Беларусь страціла не толькі таленавітага хірурга, высакакласнага спецыяліста. Беларусь страціла аднаго з найлепшых яе сыноў, і аднавіць гэтую страту немагчыма.

Мы заўжды памятаем тваю любую ўсмешку, Дмытро, няхай зямля табе будзе пухам!

**Сябры і калегі**

## Памёр Аляксей Кавалец



Пра гэта паведаміў у сваім фэйсбуку кіраўнік руху «За Свабоду» Юрась Губарэвіч.

«Сёння адышоў у лепшы свет Аляксей Кавалец. Адказны і мужны чалавек, сапраўдны патрыёт Беларусі.

Аляксей працяглы час змагаўся з невылечнай хваробай, але да апошніх дзён заставаўся актыўным і руплівым, даваў прыклад іншым, думаў больш не пра сябе, а пра супольную справу.

Глыбока сумую з нагоды сыходу аднаго з найлепшых сыноў Беларусі. Нам будзе яго моцна не хапаць.

Спачуванні сям'і і блізкім», — піша Губарэвіч.

Аляксей Кавалец — вайсковец, капітан у адстаўцы, доўгі час быў актывістам Народнага Фронту, пасля руху «За Свабоду». У 2001 годзе ён быў кіраўніком мінскага гарадскога штаба Сямёна Домаша. У 2006-м быў у нацыянальным штабе Аляксандра Мілінкевіча, пасля чаго стаў ягоным памочнікам.

Шмат гадоў Кавалец змагаўся з анкалагічнай хваробай.

Спадар Аляксей быў надзвычай беларускі чалавек і меў выдатнае пачуццё гумару.

## Памёр былы кіраўнік Нацбанка Генадзь Алейнікаў



На 70-м годзе пайшоў з жыцця вядомы беларускі банкір Генадзь Алейнікаў. Пра гэта TUT.BY распавялі суразмоўцы ў банкаўскай сферы.

Алейнікаў нарадзіўся ў 1947 годзе ў Мінску. Скончыў Беларускі дзяржаўны інстытут народнай гаспадаркі і маскоўскую Акадэмію знешняга гандлю.

Банкаўскую кар'еру пачаў у Мінску ў 1977 годзе. Быў крэдытным інспектарам Фрунзенскага аддзялення Дзяржбанка СССР. Паступова дарос да намесніка старшыні праўлення — начальніка планава-эканамічнага ўпраўлення Беларускага рэспубліканскага банка Знешэканамбанка СССР. Пасля развалу СССР узначаліў Белзнешэканамбанк. У 1997 годзе быў прызначаны старшынёй праўлення Нацбанка Беларусі. Аднак у сакавіку 1998 года на фоне крызісу быў адпраўлены ў адстаўку ў сувязі з рэзкім падзеннем курсу нацыянальнай валюты.

Неўзабаве ўзначаліў «Банк міжнароднага гандлю і інвестыцый». У 2008 годзе «Міжгандлыбанк» быў прададзены Альфа-Банку, а Алейнікаў пакінуў пасаду старшыні праўлення.

У Генадзя Алейнікава засталіся жонка і трое сыноў. Жонка — дырэктар РНПЦ дзіцячай анкалогіі, гематалогіі і імуналогіі, прафесар Вольга Алейнікава.

Самы вядомы з сыноў — Максім, прадзюсар і кампазітар.

## Памёр мастак Мікола Маеўскі



Творца адышоў 10 верасня.

Мікола Маеўскі — майстар нацюрмортаў і жывапісных пейзажаў. Большасць яго прац прысвечана Белавежскай пушчы — месцу нараджэння, працы і натхнення.

Спадар Мікола нарадзіўся 1 сакавіка 1950 года ў пушчанскай вёсцы Дварцы на Камянеччыне. Менавіта тут мастак знайшоў свой Ерусалім — месца, дзе напісаў вялікую колькасць жывапісных палотнаў. Выстаўляўся за мяжой: у ЗША, Швецыі, Германіі, Францыі, Японіі, Турцыі.

Мастак быў адным з арганізатараў першага мітынгу-рэквіума ў Берасці на Дзяды-1989. Апроч таго, стаў адным з заснавальнікаў мясцовай суполкі Народнага Фронту, браў удзел ва ўстаноўчым з'ездзе БНФ у Вільні.

## Памёр кампазітар Дзмітрый Смольскі



Памёр беларускі кампазітар, прафесар Дзмітрый Смольскі. Яму было 80 гадоў.

Дзмітрый Смольскі — сын музыказнаўцы Браніслава Смольскага. Скончыў Беларускую дзяржаўную кансерваторыю, аспірантуру Маскоўскай кансерваторыі. З 1962 па 2014 гг. Д. Смольскі вёў клас кампазіцыі ў Беларускай акадэміі музыкі.

Дзмітрый Смольскі стварыў оперы «Сівая легенда» (паводле У. Караткевіча) і «Францыск Скарына»; манументальную араторыю «Мая Радзіма» на вершы беларускіх паэтаў, шмат іншых твораў.

Дзмітрый Браніслававіч быў лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі БССР (1980), у 1987 г. атрымаў званне народнага артыста Беларусі, у 2013 г. быў узнагароджаны Ордэнам Францішка Скарыны (2013 года). Яго сын — вядомы музыка-мультыінструменталіст Віктар Смольскі.

## У Нью-Ёрку памерла Юлія Андрусішына, маці спевака Данчыка

16 верасня ў Нью-Ёрку памерла дзяячка беларускай эміграцыі Юлія Андрусышына, паведаміла радыё «Свабода». У апошнія хвіліны яе трымаў за руку яе сын Багдан Андрусышын (Данчык). Юліі Андрусышынай у чэрвені споўнілася 85 гадоў. Юлія паходзіла зь сям'і Луцкевічаў. Яе маці, Яніна Каханоўская, у дзяцінстве даглядалася Максімам Багдановічам, ведала Янку Купалу, была найбліжэйшай сяброўкай Натальлі Арсеньневай, працавала ў Нью-Ёркскім бюро радыё «Свабода». У яе засталіся сыны Юрка і Багдан.

# Батон у падарунак

Піша Таццяна Барысік.

У маршрутку ўваходзіць маці з маленькай дачушкай.

– Вам два білеты ці дзіця на руکі возьмеце? — пытае кіроўца.

– На рукі, — адказвае маці, бо рэйс міжгародні, дарагаваты.

Студэнт з задняга сядзення таксама рады магчымасці ашчадзіць грошы.Ён паказвае на свайго сябрука і цікавіцца:

– А можна і я яго на рукі вазьму?

* * *

У салоне аўтобуса гарачыня — аж самлець можна. Але, як толькі крыху прачыняюць люк, аднекуль здалёк чуваць незадаволены голас бабкі — аматаркі заўсёднага і паўсюднага камфорту:

– Зачыніце! А то, бывае, прадзьме — а тады на бальнічны!

Хлусліваая скарга не знаходзіць падтрымкі. На ўвесь аўтобус гучыць суворы запыт:

– На пенсіі бальнічны?

### Артыст

Праз пярэднія дзверы ў прыгарадны аўтобус увальваецца паддаты дзядзька, на адной назе — гумавы тапаць, на другой — стаптаны чаравік. Ён сядае на прыступку побач з вадзіцелем і адразу прыцягвае ўсеагульную ўвагу кампліментам самому сабе:

– Мне пяцьдзясят чатыры, а хіба скажаш?

– Не, маладзей гледзіцеся, — дзеля жарту падтаквае нехта, астатнія моўчкі пасміхаюцца з гэткае самаўпэўненасці.

Пасажыр усё больш пачувае сябе зоркай салона і пачынае гучна распавядаць пра сваю працоўную дзейнасць. Мусіць, ён ці то даглядчык на якой прыватнай ферме, ці то вартаўнік у заапарку:

– Шыншылаў караелеўскіх завезлі. Гэта ж, брат ты мой, якія трусы!.. А страусы? Ого! Яйка во такое во!.. Заходжу — дык яны, бляха, ногі свае выстаўляюць! У галаву каторы дзеўбане...

– Вы б каску адзявалі, — раіць пасажырка насупраць.

– А як жа? І каску адзяю і шынель, — дзеліцца страусіны начальнік прафесійнымі сакрэтамі.

– Ты, дзядзька, артыст, цябе б на Ютуб ці на сцэну,—прапануе здалёк гучны голас.

– А, што ж, не горш за Жванецкага быў бы! — пахваляецца артыст і дадае ўжо даволі самакрытычна: — Цырк паехаў, а я астаўся...

Пасля заўважае прывабную кабету насупраць і з ходу прапануе:

– А давайце пацалуемся!

– Не, на шчасце, не паспеем: мне ўжо выходзіць!

– Тады давайце спяём! — не губляецца ён і аптымістычна заcягвае: — І ніхто не узнает,где магілка мая...

Не скончыўшы песні, на прыпынку раптам пазнае родныя мясціны і спешна выкульваецца з аўтобуса. На ўспамін пра сябе пакідае лужыну на прыступцы. Усяго нейкія пятнаццаць хвілін ехаў, а як шмат паспеў!

* * *

Мармуровая прахалода аўтавакзала. Самаробная рэклама з вітрыны шапіка спрабуе пераканаць: «Самыя танныя калготкі ў горадзе». Захапляюся гандлярскім спрытам, але веры не даю: ведаю, куды прыехала. Неяк узімку нават у тутэйшай прыбіральні ёлачную гірлянду купіць прапанавалі. Шпацыруючы, заўважаю рэкламу самых танных калготак у горадзе яшчэ на двух шапіках. Ну, што тут скажаш... Бабруйск, прывітанне!

* * *

«Эксклюзіў! Толькі для нашых кліентаў!»– інтрыгуе мясцовая рэклама. Працяг расчароўвае: «Сродак для мыцця посуду вытворчасці Карэя».

* * *

Абвестка на дзвярах вакзальнага буфета інфармуе: «У продажы вырабы «Мінскхлебапрадукт». Пенсіянерам — 3% зніжка».

Выгаднасць наступнай прапановы ўражвае яшчэ болей: «Пры куплі прадукцыі коштам больш як 6 рублёў — батон у падарунак!»

Адэса, мо й сталіца гумару, але Бабруйск не горшы.

### Цёзка

Прыйшоў Іван неяк у госці да сябра. А там яшчэ адзін сабутэльнік сядзіць, толькі з іншай вёскі. Як добра ўрэзалі, дык Івана ахапіла любасць да гаспадаровага сабакі:

– Хачу я твайго Бульку пагладзіць.

Узняўся з зэдліка так, ледзьве стол не перакуліў.

– Пагладзь мяне — і я ж Булька! — нечакана прапанаваў трэці сабутэльнік. Не схлусіў, бо меў у родных мясцінах гэткую ж мянушку.

### Гісторыя кахання

(з размовы двух пляткарак)

– Ці чула ты? Выпівалі яны неяк разам. То яна і пытае: «Ты мяне любіш?» — «Люблю», — кажа.– «Тады дакажы — адсячы сабе палец!»

– І што?

– Адсек! Пасля яшчэ прыраўнаваў яе неяк, дык вешацца бегаў.

– Во дурны! У псіхушку ж на ўчот маглі паставіць. І чым жа ўсё скончылася?

– Ды пасадзілі іх. На дачу ўлезлі. Дык ён жа толькі бензапілу ўзяў, а тая ж, сука...

* * *

– Ну, што ж ты агарод не садзіш? У двары крапіва, быльнёг, дзірды каля плота. Хоць скасіў бы!– ушчувае суседка дачніка-апівоху.

– Не магу. Нашто мне тыя грады? Я прыроду люблю, — тлумачыць сусед.

### Якое свята — такія і свінні

У прапаленай грубцы пыхкае чыгунок з бабкаю. За акном на чорным галлі дзе-нідзе маленькімі сонейкамі познія яблыкі свецяцца. Усё як тады, у маленстве. Дарослы сын прыйшоў наведаць бацькоў.

«Ну во, хутка і сёмага»,– зірнуўшы ў каляндар згадала маці. «Трэба палічыць па графіку, як я працаваць буду», — азваўся бацька. Праседзеўшы колькі хвілін у глыбокім задуменні, палічыў. Аж двойчы для пэўнасці. Вынік не надта ўсцешыў: «Выходны — а шкада...» Яно й зразумела — па святах двайны тарыф, а каму грошы лішнія? «Раней на акцябарскія свіней білі», — прамовіў сын, апанаваны журботна-лірычным настроем. На хаце паплыла настальгічная ціша. «А што, можам і цяпер чыкнуць!» – з маладой зухаватасцю выгукнуў бацька. Сын збянтэжана зірнуў на бацьку, у хлеўчуку ўжо гадоў пяць як нічога не рохкала: «Ты пра што кажаш, бацька? Якую свінню біць будзем?» — «Ды, мусіць, тваю, сынок, марскую!»

* * *

Пацыент з загіпсаванаю рукою прыйшоў да хірурга. Строгі доктар, агледзеўшы руку, пачуў пах перагару і загадаў медсястры:

– А гэтаму выпішыце бальнічны з чырвонаю паласой!

Пацыент, злосна пасміхнуўшыся, ні на грам не спужаўся:

– Можаш і чэрап з косткамі на ім намаляваць! Я пенсіянер.

* * *

Прыйшла бабка на прыём да тэрапеўта.

– На што жаліцеся? — пытаецца доктар

– Ды галава баліць, — кажа бабка і адразу чуе карысную параду:

– Ну, раз баліць — дык ідзіце ў калідор ды пасядзіце трохі. Там свяжэй.

### Матулін клопат

– Ну, як там твой сынок у школе?

– Ды нічога, толькі кажуць усё, што па нямецкай балы нізкія. А дзе ён на ёй размаўляць будзе? Не трэба мне яго нямецкая. Мне трэба, каб ён адвучыўся хутчэй і зарабляць пайшоў.

– А мой жа ўчора на школьны аўтобус праспаў. Я то на яго насварылася, а сама сабе думаю: «А калі і праспаў, дык што? Рабочаму важнейшыя не веды, а здароўе».

### Хто багацейшы?

У школе настаўніца наказвае вучням, каб бацькі пажарныя апавяшчальнікі ў кожны пакой купілі.

– Яны ж дарагія! — абураецца дзяўчо з другой парты. — Больш як сямнаццаць рублёў.

– Мы шматдзетныя — і то купілі! — прыводзіць сваю сям'ю ў прыклад настаўніца.

– Дык вас жа кормяць бясплатна два разы на дзень, а мы самі плацім, — нагадвае вучаніца. Маці яе гадуе адна.

* * *

«Яны растуць, а мы старэем», — са светлаю журбою гаворыць дваццаціпяцігадовы бацька, гледзячы на трохгадовую дачку.



**Таццяна Барысік**

Нар. 1977. Скончыла факультэт дашкольнага выхавання Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта (1999). Працавала ў школах Бабруйскага і Магілёўскага раёнаў. Цяпер жыве ў Магілёве. Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў. Аўтар самвыдатаўскага зборніка паэзіі «Гаркну ў бліскучы мацюгальнік» (Асіповічы, 2003), зборніка апавяданняў «Жанчына і леапард» (2014). Сталая аўтарка «НН». Лаўрэатка 2-й прэміі Ежы Гедройца — 2015.



## Уладзімір Някляеў. Вячэра

Групе ТР-22

Расхінуўшы нарасхрыст душу,
На вячэру сяброў запрашу,
Тых, з кім здрада не ўцiснецца ў дзверы,
Хто мяне на прадасць на вячэры.

Буду слухаць іх, срэбнагалосых,
Тых, хто побач, і тых, хто ў нябёсах,
З кім, абняўшыся раз на зямлі,
Мы ў абдымку жыццё пражылі.

Я збяру ў маім доме сяброў,
У якіх той жа дух, тая ж кроў,
Тая ж вернасць сяброўская ў сэрцы,
Праз якую сяброўству не ўмерці.

Я сяброў запрашу на вячэру,
Тых, якія не маюць намеру
Мне ў чым-небудзь карыснымі быць,
Нешта выхітрыць, вырваць, здабыць.

Я паклічу сяброў не патрэбных,
Беспасадных, бяссувязных, бедных,
Тых, з якіх анічога не ўзяць, —
Толькі вецер сяброўскі ганяць.

І падумаць, ганяючы вецер:
Дзякуй Богу, што ёсць яно ў свеце,
Тое, што не прадаць, не купіць…
І чаго ўжо й няма, можа быць.



## Наста Кудасава

* * *

баішся пакуты ўдыхаў, пакатых дахаў,
баішся караляў і шведраў з тугой
гарлавінай,
таму бяжыш ад сябе:
дзікі вецер — пад пахай,
ва ўсіх кішэнях — каштаны й верад
правінаў.
бяжыш,
нібыта магчыма ўцячы ад жальбы,
схаваўца ад вусцішы ў Вільні, Маскве
ці Празе…
і раптам аднойчы — вочы!
нясцерпныя вочы
салодкім скальпелем
праразаюць наскрозь гэта ўсё —
да пяшчоты —
і становяцца эўтаназіяй.



## Святлана Куль

* * *

у цябе за акном — змрок,
у мяне за акном — сад,
твой ружовы адзінарог
п'е ваду ля чужых хат.
У цябе пад нагой — карніз
І самота ў глыбі воч,
Калі доўга глядзець ўніз
Пазаве праз акно ноч.
Даганяе зара зару,
Зіхаціць за садам жніво.
Хочаш — сонейка падару?
Або зорачку на Раство?

## Стала вядома, каго букмекеры лічаць фаварытамі на Нобелеўскія прэміі

Найбуйнейшыя букмекерскія канторы свету адкрылі лініі на ўладальнікаў сёлетняй Нобелеўскай прэміі, якая будзе прысуджаная у кастрычніку.

Які ўжо год запар безумоўным фаварытам на атрыманне Нобеля па літаратуры застаецца японскі пісьменнік Харукі Муракамі. У Муракамі шмат і прыхільнікаў, і хейтэраў. Апошнія кажуць, што даць прэмію японцу будзе кепскім густам. Маўляў, занадта проста і забаўляльна ён піша. Дадуць Муракамі, а тады што, Паула Каэльё на чарзе? Сярод тых, хто перажывае за японца, напрыклад, Святлана Алексіевіч. Яна лічыць, што ў творчасці Муракамі прысутнічае «ўсходняя аранжыроўка падзей і іх разумення». Муракамі аднаэначна самы чытаны сярод прэтэндэнтаў на Нобеля. Стаўкі на Муракамі прымаюцца з каэфіцыентам 1 да 1,5.

Другім ідзе кенієц Нгугі Ва Тхіёнга. Ён таксама не першы год сярод тых, хто вось-вось павінен атрымаць Нобеля. Пісьменнікі з Афрыкі атрымлівалі прэмію ў 2003 (Джон Кутзээ) і 1991 (Надзін Гордзімер). А вось апошнім чарнаскурым афрыканскім пісьменнікам, хто атрымліваў самую прэстыжную прэмію ў літаратуры, быў Воле Шоінка з Нігерыі ў 1986 годзе. Такім чынам, мінула ўжо больш за трыццаць гадоў. Тхіёнга будзе наступным? Ягоныя шанцы ацэньваюцца як 1 да 5.

На трэцім месцы — канадка Маргарэт Этвуд. Апошнія гады яна прысутнічала ў падобных спісах, але не на самых высокіх пазіцыях. Магчыма, таму што зусім нядаўна Нобеля ўжо атрымлівала іншая канадка — Эліс Манро. Дарэчы, кніга Этвуд «Пенелапіяда» была перакладзеная на беларускую мову Вольгай Калацкай. На яе прымаюць грошы з разлікам 1 да 6.

Беларусаў у спісе няма. З суседзяў прысутнічае толькі польскі паэт Адам Загаеўскі (1 да 50). Украінцаў і расіян таксама не разглядаюць як рэальных прэтэндэнтаў на ўзнагароду.

Таксама пачалі прымаць стаўкі і на Нобелеўскую прэмію міру. Яе прадракаюць Амерыканскаму саюзу грамадзянскіх свабодаў. Гэтая арганізацыя забяспечвае юрыдычную дапамогу ў судовых працэсах, якія, на думку ACLU, могуць прывесці да прыцяснення грамадзянскіх свабод. Многія працэсы, у якіх удзельнічалі прадстаўнікі ACLU, прывялі да зменаў у канстытуцыйным праве ЗША. На іх перамогу даецца каэфіцыент 1 да 3.

На другім і трэцім месцы папа Францішак і валанцёрская арганізацыя «Белыя каскі», якая дзейнічае на тэрыторыі Сірыі і Турцыі. Іх шанцы ацэньваюцца як 1 да 4.

**Зміцер Панкавец**






**Пастар пратэстанцкай царквы з Мінска Тарас Цялькоўскі прабег 500 кіламетраў. Так ён адзначыў 500-годдзе выдання Біблії Скарынай. Выкананне зароку заняло Тарасу 5 дзён. На фінішы яго віталі сотні людзей. Тарасу 29 гадоў, ён скончыў багаслоўскую семінарыю ў Лондане. У яго двое дзяцей. Бегам ён займаецца з дзяцінства.**



**Новым старшынёй Партыі БНФ абраны Рыгор Кастусёў. Ён са Шклова, як і Аляксандр Лукашэнка.**

**Футболкі з надпісамі і прынтамі даўно сталі яшчэ адным спосабам заявіць пра сябе свету: выказаць свой погляд на пэўныя рэчы («Fuck the system»), прадэманстраваць прыналежнасць да пэўнай тусоўкі («Цой жывы») ці моўчкі заявіць пра свой настрой і пачуцці («Я люблю маму»). А вось адна з футболак айчынных. «Тру» — моднае ў моладзі слова, якое па-англійску значыць «сапраўдны, сапраўдная». А слова«трэш», ад англійскага «чарнавік, смецце», таксама супала з вытворным ад дзеяслова «церці».**



## Рабочыя патлумачылі, навошта размецілі дарогу без асфальту каля Дзяржынска

У пабліку «Падслухана Дзяржынск» апублікавалі фотаздымкі гравійнай дарогі пад вёскай Дзягільна. Дарожнікі нанеслі разметку наўпрост на пясок, бруд і лужыны.

Дзяржынскія камунальшчыкі адказваюць, што праблемы насамрэч няма:

«Для разметкі мы нанялі СП «Трансбуд». Яны займаліся разметкай асфальтавай дарогі, а гэты кавалак гравійкі ідзе перад асфальтам. І як нам патлумачылі рабочыя, проста прадзімалі тэхніку, каб яна нармальна працавала. Звычайны рабочы момант, нічога такога. А людзі ўбачылі і раздзьмулі з гэтага праблему», — распавёў работнік камунальнай службы.

**УШ**

## Анекдоты і жарты

Тое, што маладосць праходзіць, — гэта паўбяды. Бяда ў тым, што і старасць таксама праходзіць.

* * *

З таго часу, як з'явіліся прагнозы надвор'я, з ім стала рабіцца нешта незразумелае.

* * *

Аб'ява ў газеце: «Здыму пакой з мужам на 1—2 гады».

* * *

— Адыдзі ад халадзільніка, ты цэлы вечар ясі!

— Калі мозг думае, на гэта трацiцца 25 працэнтаў усёй энергіі арганізма, таму я пастаянна хачу есці.

— І пра што ж ты, цікава, так думаеш?

— Пра ежу.

* * *

— Што новага ў школе, сынку?

— Зноў грошы збіраюць, тата.

## «НН» 111 гадоў з вамі

**Гродна.** Хочуць выбраць дэпутатам вядомага ўсім адваката Астрагорскага (жыда), каторы быў ужо ў першай Думе і там цвёрда стаяў за новы парадак і свабоду. Каб усе сем дэпутатаў былі добрыя, трэба, каб мужыкі злучыліся з палякамі і жыдамі, проці правых.

**НН. №31. 1907**

**Асноўныя праблемы беларускага інтэрнэту засталіся ранейшымі.** Пра гэта на канферэнцыі «Дзелавы інтэрнэт» паведаміў генеральны дырэктар УП «Надзейныя праграмы» Юрый Зісер.

Паводле яго слоў, асноўных праблем у байнэту некалькі: «фантастычная дарагоўля» паслуг доступу ў сетку; непрадуманае ліцэнзаванне; адсутнасць у дзяржаўнага сектара і экспарцёраў патрэбы ў айчыннай інтэрнэт-рэкламе; недасканаласць прававой базы электроннага дакументаабарота, адным з вынікаў чаго з'яўляецца немагчымасць яго паўнавартаснага ўкаранення ў краіне. Паводле слоў Ю.Зісера, праблемай таксама з'яўляецца адсутнасць інтэрнэт-гандлю ў звыклым яго разуменні, бо няма поўнага цыкла любога гандлю «замова — аплата — дастаўка», усё зводзіцца толькі да замаўлення тавараў праз інтэрнэт.

**4 кастрычніка 2007**


**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

в. а. галоўнага рэдактара Ягор Аляксандравіч Марціновіч
шэф-рэдактар Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара Андрэй Скурко, Зміцер Панкавец
сакратарка рэдакцыі Таццяна Кур'ян
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 327-42-13, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**





8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 5001. Газета выдаецца 12 разоў на год.

Нумар падпісаны ў друк 16.30 03.10.2017.

Замова №3833.

Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.

Цана дамоўная.

ISSN 1819-1614

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

9 771819 161008 17010